гэтым яны з’яўляліся часткай агульных рэпрэсій, арганізаваных Іосіфам Сталіным[7]. Людзей, якія лічылі сябе прадстаўнікамі нацыянальнай меншасці, неабходна «схапіць, кінуць на калені і знішчыць як шалёных сабак»[8]. Гэтыя словы, як адзначыў амерыканскі гісторык Цімаці Снайдэр, належаць не афіцэру *SS*, а генеральнаму сакратару камуністычнай партыі.

Смяротныя прысуды ў дачыненні да палякаў, якія жылі ў СССР, выконваліся яшчэ да арганізаваных масавых рэпрэсій. Так, у Мінскім раёне БССР у 1925 г. падчас стварэння першых польскіх сельскіх саветаў ДПУ расстраляла 170 палякаў, абвінаваціўшы іх у правядзенні разведвальнай дзейнасці на карысць Польшчы[9]. Масавыя рэпрэсіі, пачатыя ў канцы 1920-х гг., працягваліся амаль да сярэдзіны 1930-х гг. За гэты перыяд у БССР былі рэпрэсаваныя 46 тыс. чалавек, з якіх больш за 13 тыс. расстраляныя[10]. Калі мець на ўвазе, што ў першую чаргу ў БССР пад рэпрэсіі падпадалі беларусы і палякі ў роўных прапорцыях[11], то колькасць ахвяр сярод палякаў робіцца даволі значнай. Трэба ўлічваць, што палякаў расстрэльвалі таксама ў выніку працэсаў, накіраваных выключна супраць іх. Так, 15 красавіка 1933 г., згодна з пастановай «тройкі» АДПУ па БССР, была асуджана група палякаў (16 чалавек), якія супраціўляліся калектывізацыі. Гэта былі жыхары вёсак Філатава, Сідаркава, Лебедзева і Варгуцёва Талачынскага раёна (сёння Круглянскі р-н, Магілёўская вобл.), 14 з іх прысудзілі да вышэйшай меры пакарання – расстрэлу з канфіскацыяй маёмасці і высылкай іх сем’яў у паўночныя раёны СССР на тры гады[12].

Каталіцкі касцёл у СССР, які меў вялікі ўплыў на вернікаў, разглядаўся савецкай уладай як непатрэбны і шкодны інстытут, які падлягаў ліквідацыі[13]. Наколькі трагічна выглядала ў той час сітуацыя, сведчыць выказванне кіраўніка консульскага аддзела польскай амбасады ў Маскве Станіслава Эскі: «У існуючай палітычнай сітуацыі эфектыўнай дапамогі Каталіцкаму касцёлу ў СССР, якая паўплывала б на яго лёс, аказаць немагчыма»(7. 10. 1935)[14]. Савецкая рэпрэсіўная палітыка прывяла да таго, што з 473 каталіцкіх святароў (большасць з іх былі палякамі), якія засталіся на тэрыторыі СССР, толькі 12 чалавек дажылі да пасляваеннага часу і памерлі на волі[15].

Часткай крывавага тэрору таксама былі рэпрэсіі супраць г. зв. «кулакоў», якія ў 1930–1931 гг. абярнуліся вынішчэннем соцень тысяч сялян розных нацыянальнасцяў[16]. 7 жніўня 1932 г. Савет народных камісараў і Цэнтральны камітэт партыі выдалі дырэктыву[17], паводле якой за крадзеж грамадскай (сацыялістычнай) уласнасці вінаватых прыгаворвалі да вышэйшай меры пакарання з канфіскацыяй усёй маёмасці. На падставе гэтай дырэктывы ў 1933–1935 гг. у БССР былі асуджаны 46 400 чал. Амаль палову з іх складалі калгаснікі. Пры гэтым 40 % асуджаных першапачаткова былі асуджаныя да вышэйшай меры пакарання, але пасля палове з іх расстрэл замянілі на шматгадовую працу ў лагерах закрытага тыпу[18].

Рэпрэсіі ў 1930-х гг. у БССР мелі дактрынальны характар. Яны былі вынікам ажыццяўлення марксісцка-ленінскай тэорыі класавай барацьбы. Беларусь, дзе 90 % насельніцтва складалі сяляне, стала аб'ектам бальшавіцкага тэрору. Пазбаўленне ўласнасці такой вялікай колькасці людзей немагчыма было рэалізаваць без гвалту і ахвяр[19]. Індустрыялізацыя патрабавала новай рабочай сілы, якая ў тых умовах магла з'явіцца толькі за кошт выкарыстання прымусовай працы. З гэтага вынікала неабходнасць перасялення мільёнаў людзей за надуманыя злачынствы супраць савецкай улады[20].

Акрамя выключэння з грамадскага жыцця Рыма-каталіцкага касцёла, ліквідацыі польскай тэрытарыяльнай аўтаноміі і польскамоўнай адукацыі, а таксама польскіх культурна-асветніцкіх інстытутаў, дэпартацыі з месцаў пастаяннага жыхарства ў аддаленыя ўсходнія раёны СССР, сталінская ўлада пачала праводзіць масавыя знішчэнні палякаў. Гэты працэс пачаўся ў 1933–1934 гг.[21] і дасягнуў свайго апагея ў 1937–1938 гг., набываючы рысы генацыду[22].

Выступаючы 3 сакавіка 1937 г. на пленуме ЦК УКП(б), «правадыр прагрэсіўнага чалавецтва» сказаў, што галоўнай мэтай усіх дзяржаў з'яўлялася адпраўка ў савецкі тыл шпіёнаў, шкоднікаў, дыверсантаў і забойцаў. Дзеля гэтага замежныя дзяржавы нібыта стваралі ў СССР «пятую калону» з прадстаўнікоў сваёй нацыянальнасці і «ворагаў народу»[23]. Замест інтэрнацыяналізму, які дэкларааваўся ва ўсіх партыйных дакументах, Сталін распальваў усеагульную падазронасць і міжнацыянальную варожасць, што перараслі ў крывавую бойню народаў СССР.

У працэсе падрыхтоўкі да масавых рэпрэсій былі перагледжаны ўсе справы палітычных эмігрантаў, якія прыехалі ў СССР. У выніку было вырашана, што палітэмігрантаў, якія прадстаўлялі пагрозу для краіны, трэба не высылаць, а арыштоўваць. Напярэдадні Вялікага тэрору каля 35 % арыштаваных па ўсім Савецкім Саюзе абвінавачваліся ў прыналежнасці да органаў выведкі Польшчы. У БССР на той момант знаходзіўся 201 палітычны эмігрант[24].

Апарат НКУС у другой палове 1930-х гг. ператварыўся ў найважнейшы інструмент рэалізацыі ўнутранай палітыкі партыі. Мікалай Яжоў – сакратар ЦК УКП(б), старшыня камісіі партыйнага кантролю, – заняўшы ў 1935 г. пасаду куратара органаў дзяржаўнай бяспекі па лініі ЦК і маючы магчымасці ўплываць на меркаванне Сталіна, абудзіў у яго маніякальную падазронасць да палякаў, што працавалі ў органах НКУС[25]. У выніку іх чакалі рэпрэсіі[26]. Былыя кіраўнікі АДПУ БССР (у 1921–1931 гг.) польскай нацыянальнасці Ян Ольскі (Кулікоўскі), Станіслаў Пінталь і Станіслаў Рэдэнс былі арыштаваны як члены польскай тэрарыстычнай арганізацыі і асуджаны да расстрэлу[27]. Канчатковае вырашэнне «польскага пытання» Крэмль прызначыў на 1937–1938 гг. З дапамогай высялення і фізічнай ліквідацыі аўтахтоннага польскага насельніцтва Сталін планаваў цалкам дэпаланізаваць усходнія землі колішняй Рэчы Паспалітай[28].

«Польская аперацыя» НКУС 1937–1938 гг. пачалася згодна з загадам № 00485, які быў зацверджаны 9 жніўня 1937 г. Палітбюро ЦК УКП(б). 11 жніўня ён падпісаны Яжовым, пасля чаго, разам з закрытым лістом «Аб фашысцка-паўстанцкай, шпіёнскай, дыверсійнай, паражэнчай і тэрарыстычнай дзейнасці польскай разведкі ў СССР» (папярэдне ўхваленым Сталіным), разасланы ва ўсе мясцовыя органы НКУС[29]. Гэты загад не датычыў традыцыйнага класавага ворага. Нягледзячы на тое, што гаворка ішла не пра палякаў, а пра польскіх шпіёнаў, пад падазрэнне, як вынікала з загаду, трапляла амаль усё польскае насельніцтва СССР[30].

Пытанні і здзіўленне ў супрацоўнікаў НКУС выклікалі і адпаведныя фармуліроўкі. Напрыклад, арышту падлягалі «усе перабежчыкі» або «ўсе былыя ваеннапалонныя». Не тыя, хто падазраваўся ў варожай дзейнасці, а менавіта ўсе. Каб развеяць усе сумненні ў супрацоўнікаў

і спыніць кулуарныя размовы, а таксама настроіць іх на бясспрэчнае выкананне загаду, было заяўлена, што загад узгоднены са Сталіным і Палітбюро ЦК УКП(б)[31]. Апроч таго, ва ўсе структуры НКУС СССР быў накіраваны «закрыты ліст», які дапаўняў і фантастычна абгрунтоўваў загад № 00485. Увесь савецкі дзяржаўны апарат, пісалася ў лісце, прасякнуты шпіёнскай дзейнасцю польскай выведкі, якая накіравала тысячы сваіх агентаў у СССР з мэтай стварэння шматлікіх шпіёнска-дыверсійных груп. Вярбоўка ажыццяўлялася ў асяроддзі палякаў, што жылі ў саюзных рэспубліках[32].

Як выглядала сітуацыя ў СССР у лістападзе 1937 г., праз некалькі месяцаў пасля падпісання загаду № 00485, добра адлюстроўвае ліст польскага пасла ў Маскве Вацлава Гжыбоўскага, дасланы ў Міністэрства замежных спраў у Варшаве: «Камуністычная партыя застаецца пад кіраўніцтвам ДПУ […]. Крышталізацыя сталінскага рэжыму адбываецца шляхам тэрору. Гэты тэрор мае два аблічча і дзве мэты. З аднаго боку, ён мае заданне знішчыць усіх актуальных і патэнцыяльных супрацоўнікаў гэтага рэжыму, з другога, імкнецца да паляпшэння і гальванізацыі бюракратычнага апарата, адміністрацыйнага, палітычнага і гаспадарчага, ад якога ўжо сёння цалкам залежыць поспех і развіццё сталінскага аўтарытарызму»[33].

У загадзе і далучаным да яго «закрытым лісце» ставілася наступная задача службам НКУС на тэрыторыі ўсёй краіны: «Поўная ліквідацыя незакранутага дагэтуль шырокага дыверсійна-паўстанцкага нізоўя Польскай паўстанцкай арганізацыі (ППА) і асноўных людскіх кантынгентаў польскай выведкі ў СССР»[34]. Да тых, каго трэба было знішчыць, можна смела аднесці ўсіх, хто меў у пашпарце польскую нацыянальнасць. Упершыню ў савецкай гісторыі ўводзілася калектыўная адказнасць на ўзроўні народу.

Народны камісарыят унутраных спраў далучыў да «сацыяльна небяспечных і здольных да антысавецкіх дзеянняў» сем'і арыштаваных палякаў. 2 кастрычніка 1937 г. крымінальная адказнасць была пашырана на жонак «здраднікаў радзімы», таксама ўсіх дзяцей ва ўзросце ад 15 год, калі яны падпадалі пад катэгорыю небяспечных і шкодных для савецкай дзяржавы. Жанчын адпраўлялі ў лагер на 5–8 гадоў, падлеткаў – у лагер, калоніі або дзіцячыя дамы асобага

рэжыму. У хуткім часе, з-за вялікай колькасці арыштаваных, гэтую меру датычна членаў сямей ужо немагчыма было выконваць[35].

У БССР крывавы тэрор супаў з масавай чысткай у мінскім партыйным кіраўніцтве, якую праводзіў начальнік НКУС рэспублікі Барыс Берман. Ён абвінаваціў мясцовых беларускіх камуністаў у распальванні нацыяналізму. У якасці галоўнага ворага была абрана неіснуючая з 1918 г. Польская вайсковая арганізацыя (*Polska Organizacja Wojskowa)*. Людзі, што нібыта ўваходзілі ў яе склад, асуджаліся як «беларускія нацыянал-фашысты» альбо «польскія шпіёны» [36].

Масавыя экзекуцыі ў БССР былі непасрэдна звязаны з наўмысным знішчэннем дзеячаў беларускай нацыянальнай культуры. Пазней адзін з супрацоўнікаў Бермана заўважыў, што «ён знішчыў цвет беларускай інтэлігенцыі»[37]. У 1937–1938 гг. былі фізічна зліквідаваныя амаль усе, хто меў сувязь з беларускім нацыянальным рухам, адукацыяй, навукай і культурай. Былі расстраляны тыя, каго калісьці абвінавачвалі ў прыналежнасці да Саюза вызвалення Беларусі. Іх таксама асудзілі за ўдзел у шпіянажы на карысць Польшчы. Да таго ж расстраляныя 90 % супрацоўнікаў Беларускай акадэміі навук[38], большасць выкладчыкаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, артыстаў тэатра, оперы і балета, дзяржаўнай філармоніі. Загінулі амаль усе арганізатары палітычнай, навуковай і культурнай дзейнасці 1920-х гг. З 238 беларускіх літаратараў сталінскую эпоху перажылі толькі 20 чалавек. З бібліятэк забралі большасць беларускамоўных літаратурных твораў[39]. Трэба заўважыць, што Берман заявіў сваім падначаленым пра непасрэдную залежнасць паспяховасці іх далейшай кар’еры ад выканання загада № 00485[40].

Першапачаткова «Польскую аперацыю» планавалася правесці за тры месяцы (з 20 жніўня да 20 лістапада 1937 г.). Але гэты тэрмін пастаянна працягвалі разам з тэрмінамі рэалізацыі іншых нацыянальных аперацый – спачатку да 10 снежня 1937 г., пасля да 1 студзеня, затым да 15 красавіка і, нарэшце, да 1 жніўня 1938 г. Пры гэтым у БССР гэтую аперацыю працягнулі да 1 верасня 1938 г.[41]

Усяго за два гады Вялікага тэрору ў СССР усімі органамі НКУС было арыштавана больш за 1 600 тыс. чалавек[42]. Сярод іх палякаў налічвалася 118–123 тыс. У межах нацыянальных аперацый былі

арыштаваны 96–99 тыс. (большасць падчас «Польскай аперацыі»), астатнія – па загадзе № 00447 ды інш.[43] Сярод расстраляных у выніку «Польскай аперацыі» не ўсе былі этнічнымі палякамі. Цімаці Снайдэр ацаніў іх колькасць у 85 тыс. чал.[44], а Леанід Навумаў пісаў пра 95 тыс. палякаў[45]. Да гэтых дадзеных трэба падыходзіць з вялікай доляй асцярожнасці. Колькасць арыштаваных і расстраляных прыводзіцца на падставе працы Мікіты Пятрова і Арсенія Рагінскага, у якой гэтыя лічбы заніжаны, што прызнаюць і самі аўтары[46].

У колькаснай ацэнцы ахвяр «Польскай аперацыі» ў СССР (БССР) паміж расійскімі, беларускімі, польскімі і амерыканскімі даследчыкамі няма адзінага меркавання. Пры гэтым у беларускай гістарыяграфіі розныя пазіцыі па праблеме займаюць гісторыкі, якія працуюць у дзяржаўных навуковых і адукацыйных установах, і даследчыкі, што займаюцца навуковай дзейнасцю па-за межамі дзяржаўных інстытутаў.

Што тычыцца польскай гістарыяграфіі, то тут таксама ёсць разыходжанні ў лічбах ахвяр рэпрэсій. Вядомыя даследчыкі Анджэй Новак і Мікалай Іваноў называюць колькасць забітых палякаў у межах 200 тыс.[47] Тамаш Зомэр на падставе дакументаў расійскіх архіваў прыйшоў да высновы, што савецкімі ўладамі ў 1937–1938 гг. былі арыштаваныя ад 240 да 280 тыс. палякаў. Пры гэтым памерлі каля 250 тыс. (іх смяротнасць была звязана з арыштам дзяцей ці бацькоў)[48].

На вялікі маштаб савецкіх рэпрэсій супраць палякаў упершыню звярнуў увагу прафесар Гарвардскага ўніверсітэта Марцін Тэры (Martin Terry)[49]. На падставе імяннога спіса расстраляных у 1937–1938 гг. у Ленінградзе, ён падлічыў, што палякаў забівалі ў 31 раз часцей, чым прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў, значна большых па сваёй колькасці. Цімаці Снайдэр падобныя падлікі зрабіў па ўсім Савецкім Саюзе часоў Вялікага тэрору. Палякі ў статыстыцы амерыканскага даследчыка занялі месца «абранага народу». Пазіцыя Сталіна паўплывала на тое, што іх у 40 разоў часцей расстрэльвалі, чым прадстаўнікоў іншых народаў СССР. Пры гэтым палякі складалі толькі 0,4 % ад агульнай колькасці насельніцтва Са-

вецкага Саюза, але ў групе з 681 тыс. расстраляных у 1937–1938 гг. іх доля вырасла да 13–14 % ад усіх ахвяр. Разам з палякамі ў нацыянальных чыстках былі забітыя 247 157 чал.[50] Гэтыя рэпрэсіі былі накіраваны супраць нацыянальных груп, якія разам складалі 1,6 % насельніцтва СССР, але сярод ахвяр тэрору іх доля склала не менш за 36 %[51].

Расійскія даследчыкі Мікіта Пятроў і Арсені Рагінскі падлічылі, што з 19 931 асуджанага падчас «Польскай аперацыі» ў БССР 17 772 чал. атрымалі вышэйшую меру пакарання[52]. Нацыянальны склад расстраляных не называецца. Беларускі даследчык Віталь Жук сцвердзіў, што ў БССР у 1937–1938 гг. былі арыштаваныя 21 407 чал., з якіх 9 196 з'яўляліся палякамі, што складае 42,9 % ад агульнай колькасці. Даследчык зрабіў выснову пра памылковасць аднясення ўсіх ахвяр «Польскай аперацыі»да палякаў[53]. Паводле дадзеных Ігара Кузняцова, 9 196 палякаў былі расстраляны падчас гэтай аперацыі[54], а гэта значыць, што толькі ў выніку адной аперацыі НКУС быў забіты прыблізна кожны 13-ты паляк, які жыў у савецкай Беларусі.

Большасць з 21 407 чалавек, арыштаваных у выніку «Польскай аперацыі», складалі беларусы[55]. Іх, як польскіх шпіёнаў, дыверсантаў і ўдзельнікаў паўстанцкіх арганізацый, было расстраляна 10 120 чалавек (0,23 % ад агульнай колькасці беларусаў БССР). Гэта значыць, што кожны 434 беларус быў забіты. Такім чынам, зыходзячы з прыведзеных вышэй фактаў, усё ж такі выкарыстанне паняцця «Польская аперацыя» з'яўляецца цалкам абгрунтаваным. Падчас яе палякаў у БССР расстрэльвалі ў 33 разы часцей, чым беларусаў.

Апошнія даследаванні згаданага беларускага гісторыка Ігара Кузняцова сведчаць, што ў БССР падчас Вялікага тэрору было расстраляна каля 50 тыс. грамадзян СССР, у дакументах якіх была запісана польская нацыянальнасць[56]. Гэта заява навукоўца з'яўляецца надзвычай каштоўнай у сувязі з тым, што 12 год таму ён казаў, што на тэрыторыі БССР у перыяд з 1935 па 1940 гг. было рэпрэсавана 480 тыс. чалавек, з якіх больш за 50 тыс. было расстраляна, а колькасць палякаў у гэтай статыстыцы не прыводзілася[57].

Калі ўзгадаць перапіс насельніцтва 1939 г., які паказаў, што колькасць палякаў у рэспубліцы зменшылася на 61 тыс.[58] (палякаў рас-

стрэльвалі не толькі падчас «Польскай аперацыі», а таксама ў выніку іншых рэпрэсій), то лічба 50 тыс. ахвяр, паводле І. Кузняцова, з'яўляецца найбольш верагоднай[59].

Тлумачэнне прычыны змяншэння колькасці польскага насельніцтва ў БССР бояззю людзей падчас перапісу 1939 г. запісвацца палякамі[60] не з'яўляецца пераканаўчым[61]. Прычынай вялікай розніцы ў ацэнцы ахвяр сярод польскага насельніцтва БССР у працах польскіх, расійскіх і беларускіх даследчыкаў можна лічыць адсутнасць доступу да дакументаў у архівах Расіі і Беларусі, якія тычацца Вялікага тэрору. Рассакрэчванне пэўных частак матэрыялаў для публічнага карыстання ўладамі і сілавымі структурамі гэтых краін дазваляе ім маніпуляваць даследчыкамі і накіроўваць іх працу ў патрэбным напрамку, хаваючы пры гэтым поўную карціну рэпрэсій 1937–1938 гг. [62]

Якая была прычына такога жорсткага стаўлення да палякаў з боку сталінскай улады? Верагодна, савецкае кіраўніцтва ўспрымала Польшчу як плацдарм для магчымай агрэсіі супраць СССР[63]. Адмысловае месца «Польскай аперацыі» ў агульнай сістэме рэпрэсій 1937–1938 гг. звязана з прадчуваннем Сталіным хуткага пачатку вайны, а таксама з яго страхам перад «пятай калонай»[64]. Палякі (грамадзяне СССР), як прадстаўнікі «варожай польскай дзяржавы», ідэальна ўпісваліся ў прыдуманую Сталіным тэорыю змовы. Імкненне пазбавіць Польшчу магчымасці мець апору сярод насельніцтва Савецкага Саюза ў выпадку вайны стала нагодай для масавых «чыстак». Збольшага яны праяўляліся арыштам палякаў, якія працавалі ва ўстановах, на прадпрыемствах і ў калгасах, або служылі ў войску[65], а таксама былі вольнанаёмнымі[66].

Польскі навуковец Войцех Матэрскі лічыць, што яшчэ да пачатку правядзення «Польскай аперацыі», верагодна у 1935–1936 гг., кіраўніцтва ў Маскве прыняло рашэнне аб змене нацыянальнай палітыкі ў дачыненні да палякаў у БССР і УССР. Першапачаткова савецкая ўлада спадзявалася, што атрымаецца ў асяроддзі палякаў, якія жылі ў СССР, падрыхтаваць палітычныя і вайсковыя кадры для польскай Чырвонай арміі, што пойдзе ў авангардзе рэвалюцыі ў Польшчы. Вынікі калектывізацыі паказалі, аднак, што савецкае выхаванне палякаў не прынесла чаканага эфекту. Яны

супрацiўляліся «сацыялістычнаму будаўніцтву», а значыць, замест кадравага рэзерву для рэвалюцыі, ўяўляліся патэнцыяльнай «пятай калонай вялікапанскай, буржуазна-абшарніцкай Польшчы»[67].

Не менш важнай прычынай ліквідацыі наладжанай і дастаткова эфектыўнай нацыянальнай палітыкі, датычнай палякаў і іншых нацыянальных меншасцяў, што мелі свае дзяржавы за мяжой, была адсутнасць адпаведнай рэакцыі з боку дыпламатычных прадстаўніцтваў Германіі, Польшчы, а таксама дзяржаў, якія валодалі інфармацыяй на гэту тэму. Пры гэтым рэха выстралаў у дзясяткі тысяч палякаў у СССР разыходзілася па польскіх консульствах і было чутнае ў амбасадзе ў Маскве. Адсутнасць зацікаўленасці польскіх улад у актуалізацыі гэтай інфармацыі на міжнароднай арэне была звязаная з імкненнем Варшавы не парушаць падпісаную ў 1932 г. дамову аб неагрэсіі з Савецкім Саюзам[68]. Не пратэставалі ні Берлін, ні Варшава, ні Ватыкан, ні прыбалтыйскія краіны. Між тым, агульныя намаганні гэтых дзяржаў маглі, калі не прыпыніць злачынства, арганізаванае Сталіным, то, прынамсі, абмежаваць яго маштабы.

Часткова праблему масавых забойстваў палякаў раскрывае змест ліста, які быў накіраваны ў 1933 г. Генеральным консульствам Польшчы ў Мінску ў Міністэрства замежных спраў у Варшаве: «Амаль усе наведвальнікі-палякі, якія прыходзяць у консульства, за невялікім выключэннем, маюць рашучы прапольскі настрой і з'яўляюцца простымі едакамі хлеба, як толькі гэтага хлеба не хапае на месцы, яны імкнуцца выехаць у Польшчу. Канешне, з польскага, дзяржаўнага пункту гледжання прыезд гэтага (sic!) элемента, асабліва ва ўмовах існуючага ў нас крызісу не з'яўляецца мэтазгодным. Маючы гэта на ўвазе, мінскае консульства ў дачыненні да іх заяў на выезд у Польшчу займае ў асноўным негатыўную пазіцыю, перакладваючы ўсю віну за гэта на савецкія ўлады»[69].

Варта заўважыць, што ў публічным дыскурсе Польшчы існавала памылковае перакананне, што ў СССР падчас рэалізацыі «Польскай аперацыі» ліквідавалі выключна савецкіх дзеячаў польскай нацыянальнасці, якія раней самі прымалі ўдзел у рэпрэсіях[70], а таксама камуністаў з ліку польскіх палітэмігрантаў. Зразумела, што Польская дзяржава не бачыла патрэбы ў іх абароне.

Кошт, які заплацілі палякі ў БССР за прыдуманыя Сталіным і НКУС абвінавачванні, а таксама за жаданне быць палякамі, за прыхільнасць да польскай мовы і культуры, да каталіцкай веры, да індывідуальнай формы вядзення сельскай гаспадаркі на вёсцы быў вялікі – каля 50 тыс. расстраляных, больш за 12,5 тыс. высланых у паўночныя і ўсходнія раёны СССР[71]. Рэпрэсіі быццам зламалі хрыбет польскасці ў БССР, дзе былі знішчаны ўсе формы адукацыі на польскай мове. Перастала існаваць палітычнае, грамадскае і культурна-асветніцкае жыццё, а палякі нават баяліся дэманстраваць уласную ідэнтычнасць. Партыйныя і савецкія ўлады ўзялі курс на канчатковую асіміляцыю польскай нацыянальнай меншасці. Гэтая палітыка праяўлялася ў прымусовай русіфікацыі і саветызацыі, інтэграцыі ў савецкае грамадства, у якім звярталі ўвагу не на нацыянальнасць, а на класавае паходжанне[72].

Цені забытых ахвяр, як пісаў гісторык Анджэй Новак, нагадваюць нам пра трагедыю палякаў у СССР у 1937–1938 гг[73]. Яны ж дазваляюць усвядоміць, які лёс быў наканаваны насельніцтву Польшчы, у т. л. Заходняй Беларусі, калі б бальшавікі ў 1920 г. не былі разбіты пад Варшавай.

### *«Polish Operation» (1937–1938) – Towards Definitive Assimilation of the Polish National Minority in the Belarusian Soviet Socialist Republic (BSSR)*

This article is based on literature review and historical Polish and Belarusian archives and attempts to establish the main reasons for undertaking mass extermination of the Polish population in the BSSR during the years 1937–1938 while so-called «Polish Operation». In addition, an analysis was undertaken to establish the number of Poles spend on shooting or exiled to far regions of the USSR. These numbers significantly differ from the data used by official Belarusian historians. The difference is the result of their use of statistics offered for public use by the National Archives of the Republic of Belarus, the Ministry of Internal Affairs and the KGB; these numbers are treated with certainty. In practice, the en-

actment of the «Polish Operation» was the beginning of the end of the normal functioning of the Polish minority in the BSSR and had the goal of complete forced assimilation and integration to the Soviet People Society for which class consciousness was the most important and deciding factor to further human existence over national identity, national culture and faith. The «Polish Operation», and bloody terror which accompanied it, suspended the harmonious development of the Polish national minority in the BSSR and became the direct reason for the loss of Polish language which resulted in the cessation of use of the native language by Poles in the BSSR in their national communities.

### *Заўвагі*

1 100 лет КГБ. А. Лукашенко о работе органов госбезопасности. [Электронны рэсурс] – 25. 07. 2018. – Рэжым доступу: https://imperiya.by/video/nimO_U5KN54/100-let-kgb-lukashenko-o-rabote-organov-gosbezopasnosti.html.

2 Падрабязней на гэту тэму гл.: Репрессии против поляков и польских граждан, Исторические сборники «Мемориала», Выпуск 1, Составитель А. Гурьянов, Москва 1997.

3 Падрабязней на гэту тэму гл. А. Федута, Американские стихи, Берлин 2012; А. Санников, Моя история. Белорусская «Американка или выборы при диктатуре», Варшава 2016.

4 Падрабязней на гэту тэму гл. Wialiki A., «Operacja polska» w BSRR. Lata 1937–1938. Początek, przebieg, rezultaty // Polacy na Białorusi. Od konca XIX do początku XXI wieku. Wybrane problemy stosunków polsko-białoruskich. Pod redakcją T. Gawina, Warszawa 2017. S. 195–220.

5 Хаустов В. Из предыстории массовых репрессий против поляков. Середина 1930-х гг. // Репрессии против поляков и польских граждан, Москва 1997. С. 10.

6 Nowak A. Ojczyzna ocalona. Wojna sowiecko-polska 1919–1920, Kraków 2010. S. 29–35.

7 У шэрагу «аперацый» супраць нацыянальных меншасцяў першай была Нямецкая. Загад № 00439 на яе рэалізацыю быў падпісаны Мікалаем Яжовым 25 ліпеня 1937 г. і тычыўся немцаў – грамадзян Германіі, якія працавалі ў СССР па кантрактах. Рэпрэсіі супраць немцаў – грамадзян СССР пачаліся толькі ў кастрычніку 1937 г., калі «польская аперацыя» ішла поўным ходам. 17 жніўня 1937 г. Яжоў падпісаў загад аб правядзенні

«Румынскай», 30 лістапада – «Латвійскай аперацыі», 14 снежня 1937 г. пачаліся аперацыі супраць эстонцаў, фінаў, літоўцаў, балгар. У студзені і лютым 1938 г. Яжоў падпісаў загады, якія тычыліся іншых нацыянальных меншасцяў. Падрабязней на гэту тэму гл.: M. Iwanow, Zapomniane ludobójstwo, Kraków 2014. S. 277–281.

[8] Snyder T. Skrwawione ziemie. Europa między Hitlerem a Stalinem, Warszawa 2011. S. 111.

[9] Winnicki Z. J. Krwawa Białoruś // Uważam Rze, 2012, Nr 8. S. 23.

[10] Адамушка У. Палітычныя рэпрэсіі 20–50-х гадоў на Беларусі, Мінск 1994. С. 44.

[11] Кузняцоў І. Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі ў 1939–1941 гадах // Białoruskie Zeszyty Historyczne, 2000, Nr 13, s. 45–70.

[12] Жук В. Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.). Диссертация на соискание учёной степени кандидата исторических наук, Минск 2008. С. 77.

[13] Падрабязней на гэту тэму гл.: Proces księży w Mińsku. Zarys sprawozdawczy, Mińsk 1922. S. 7; Dzwonkowski R. Kościół katolicki w ZSSR. Zarys historii, Lublin 1997. S. 71–104; Ks. J. Dębiński, Kościół katolicki wobec wojny polsko-bolszewickiej i traktatu ryskiego // Да 90-годдзя прыняцця Рыжскага дагавору 1921 г. Матэрыялы з гісторыі польска-беларускіх узаемаадносін у XX в. Зборнік навуковых прац III міжнароднай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі. Мінск, 9–10 чэрвеня 2011 г., Мінск 2012. С. 151–172; Nowak A. Czas walki z Bogiem. Kościół na straży polskiej wolności, Kraków 2011. S. 23-28.

[14] Ibidem. S. 79.

[15] Падрабязней на гэту тэму гл.: Dzwonkowski R. Kościół katolicki w ZSSR. Zarys historii, Lublin 1997. S. 233–238; ён жа, Losy duchowieństwa polskiego w ZSRS 1917–1939, Lublin 1998. S. 106.

[16] Nowak A. Strachy i Lachy. Przemiany polskiej pamięci 1982–2012, Kraków 2012. S. 267; ён жа, Rozkaz 00485: cienie zapomnianych ofiar // Uważam Rze. 30.05–5.06.2011. S. 66.

[17] Об охране имущества государственных предприятий, колхозов и кооперации и укреплении общественной (социалистической) собственности. Постановление Центрального Исполнительного Комитета и Совета Народных Комиссаров СССР // История Беларуси в документах и материалах, ред. И. Кузнецов, В. Мазец, Минск 2000. С. 469–470.

[18] Mironowicz E. Kształtowanie się struktury narodowościowej w BSRR (1921–1939) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2004, Nr 22. S. 52.

[19] Падрабязней на гэту тэму гл.: Лейзеров А. Большевики и коллективиза-

ция // Репрессивная политика советской власти в Беларуси, Минск 2007. С. 135–144.

[20] Mironowicz E. Kształtowanie się struktury narodowościowej w BSRR (1921–1939) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2004, Nr 22. S. 52–53.

[21] Падрабязней на гэту тэму гл.: Rzewuski P. Drugi polski szef czekistów // Uważam Rze. 2013, Nr (2) 11, c. 40–43; Gawin T. O bycie Polakiem, Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991, Grodno – Białystok 2013. S. 92–115.

[22] Stroński H. Represje stalinizmu wobec ludności polskiej na Ukrainie w latach 1929–1939. Warszawa 1998. S. 209.

[23] Селицкая Л. Белорусы и советская паспортизация. [Электронны рэсурс] – 06.07.2018. – Рэжым доступу: http://www.istpravda.ru/bel/research/3797/; Сталин И. В. Сочинения, т. 14, Москва 1997. С. 151–155; «Правда», 29. 03. 1937.

[24] Хаустов В. Из предыстории массовых репрессий против поляков. Середина 1930-х гг. // Репрессии против поляков и польских граждан, Москва 1997. С. 14.

[25] Тамсама. С. 15.

[26] Адным з першых выкрытых польскіх «шпіёнаў» у органах дзяржаўнай бяспекі стаў Макоўскі – намеснік начальніка Асобага аддзела ўпраўлення НКУС Омскай вобласці, а да гэтага рэзідэнт савецкай выведкі ў Польшчы. Потым былі арыштаваны іншыя афіцэры, якія таксама працавалі ў Польшчы ў якасці рэзідэнтаў савецкай выведкі. З гэтага моманту ўжо існавалі ўмовы, каб канчаткова знішчыць «усюдыісную польскую пагрозу». Боцьковски Д. Поляки в СССР в 1919–1939 гг. // Малцинствени и етнорелигиозни проблеми в Югоизточна и Централна Европа между двете световни войни, София 2005. С. 103.

[27] Sablewski Z. (Poczobut A.). Polacy w GPU // Magazyn Polski na uchodźstwie, 2006, Nr 7–8. S. 45. Пасля ХХ з'езда КПСС яны былі рэабілітаваны. Насамрэч ніхто з іх не з'яўляўся польскім шпіёнам, а прызнанні былі здабыты катаваннямі.

[28] Iwanow M. Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939. Warszawa-Wrocław 1991. S. 324.

[29] Петров Н., Рогинский А. «Польская операция НКВД» 1937–1938 гг. // Репрессии против поляков и польских граждан. Москва 1997. С. 22.

[30] Тамсама; Snyder T. Skrwawione ziemie. Europa między Hitlerem a Stalinem. S. 115.

[31] Гэта вынікае з матэрыялаў допыту 11 снежня 1939 г. супрацоўніка УНКУС па Маскоўскай вобл. Аркадзя Постэля (Sommer T. Rozstrzelać

Polaków. Ludobójstwo Polaków w Związku Sowieckim w latach 1937–1938. Dokumenty z Centrali, Warszawa 2010. S. 219–229).

[32] Хаустов В. Из предыстории массовых репрессий против поляков. Середина 1930-х гг. С. 16–20.

[33] Archiwum Akt Nowych (далей: AAN). Z. 510, sygn. 41, k. 13.

[34] Nowak A. Rozkaz 00485… S. 68; ён жа, Strachy i Lachy. Przemiany polskiej pamięci 1982-2012. S. 266–273.

[35] Петров Н., Рогинский А. «Польская операция НКВД» 1937–1938 гг. С. 26.

[36] Snyder T. Skrwawione ziemie. Europa między Hitlerem a Stalinem. S. 120.

[37] Селеменев В., Шимолин В. Партия и НКВД в 1938 году // Репрессивная политика советской власти в Беларуси. Минск 2007. С. 75.

[38] Тамаш Домбаль – польскі камуніст, з 1919 па 1921 г. быў дэпутатам польскага сейма. За антыпольскую дзейнасць пазбаўлены дэпутацкай недатыкальнасці і асуджаны на 10 год турмы. У СССР трапіў у 1923 г. пасля абмену зняволенымі паміж Польшчай і СССР. Віцэ-прэзідэнт АН Беларусі (1932–1934), дырэктар Інстытута эканомікі АН, член ЦК КП(б)Б, член ЦВК БССР. 27 жніўня 1937 г. расстраляны у Маскве па справе Польскай вайсковай арганізацыі. Рэабілітаваны ў 1955 г.

[39] Łatyszonek O., Mironowicz E. Historia Białorusi, od połowy XVIII do końca XX wieku, Biaiystok b. r. w. S. 165.

[40] Michniuk W. Z historii represji politycznych przeciwko Polakom na Białorusi w latach trzydziestych // Polska – Białoruś 1918–1945: Zbiór studiów i materiałów, red. W. Balcerak.Warszawa 1993. S. 115.

[41] Петров Н., Рогинский А. «Польская операция НКВД» 1937–1938 гг. С. 30.

[42] Тамсама. С. 38.

[43] Тамсама.

[44] Snyder T. Skrwawione ziemie. Europa między Hitlerem a Stalinem. S. 126.

[45] Наумов Л. Сталин и НКВД. Москва 2007. С. 299.

[46] Петров Н., Рогинский А. «Польская операция НКВД» 1937–1938 гг. С. 38.

[47] Nowak A. Czas walki z Bogiem. Kościół na straży polskiej wolności, Kraków 2011. S. 27; Iwanow M. Zapomniane ludobójstwo. S. 393.

[48] Sommer T. Rozstrzelać Polaków. Ludobójstwo Polaków w Związku Sowieckim w latach 1937–1938. S. 22–23.

[49] Падрабязней на гэту тэму гл.: Terry M. The Affirmative Action Empire. Nations and Nationalism in the Soviet Union, 1923–1939. Ithaca 2001.

[50] Snyder T. Skrwawione ziemie. Europa między Hitlerem a Stalinem. S. 126.

[51] Ibidem. S. 126.

[52] Петров Н., Рогинский А. «Польская операция НКВД» 1937–1938 гг. С. 41.

[53] Жук В. Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.). С. 102.

[54] Кузняцоў І. Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі ў 1939–1941 гадах // Białoruskie Zeszyty Historyczne, 2000. Nr 13. S. 54.

[55] Падрабязней на гэту тэму гл.: Нацыянальны Архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 13231. Арк. 19-24. Об итогах операции по польской, немецкой и латвийской агентуре в БССР, проводившейся в период август 1937 г.–сентябрь 1938 г. на основе приказов НКВД СССР; Mironowicz E. Kształtowanie się struktury narodowościowej w BSRR (1921–1939). S. 42–57.

[56] Ігар Кузняцоў лічыць, што на тэрыторыі БССР у 1937–1938-х гг. было расстраляна не менш за 50 тыс. палякаў; Gawin T. O bycie Polakiem, Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944–1991. S. 113.

[57] Падрабязней на тэму палітычных рэпрэсій у БССР у канцы 1920-х і 1930-я гг. гл.: Кузняцоў І. Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі ў 1939–1941 гадах. С. 45–70.

[58] Mironowicz E. Kształtowanie się struktury narodowościowej w BSRR (1921–1939). S. 52.

[59] Польскія даследчыкі Анджэй Новак і Мікалай Іваноў ацэньваюць колькасць расстраляных палякаў ва ўсім СССР у 200 тыс. Беларускі палітык і даследчык Зянон Пазьняк, які выкрыў масавыя пахаванні расстраляных у Курапатах пад Мінскам, прыйшоў да высновы, што падчас сталінскіх рэпрэсій у 1937–1940 гг. толькі ў БССР было расстраляна каля 250 тыс. чалавек (Łatyszonek O., Mironowicz E. Historia Białorusi. S. 278–279). З улікам таго, што палякаў расстрэльвалі часцей, чым прадстаўнікоў іншых нацый, то выснова пра тое, што ў БССР у перыяд Вялікага тэрору было расстраляна каля 50 тыс. палякаў выглядае дастаткова абгрунтаванай.

[60] Жук В. Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.). С. 102.

[61] 2 красавіка 1938 г. НКУС СССР выдаў сакрэтны цыркуляр № 65, які рэгламентаваў новы парадак вызначэння нацыянальнасці ў планаванай у 1938 г. пашпартызацыі. Калі раней можна было запісаць сабе любую нацыянальнасць, то, згодна з цыркулярам, чалавек павінен быў пацвердзіць нацыянальную прыналежнасць праз прад'яўленне пашпартоў бацькоў або іншых дакументаў. У тлумачальным указанні ад 29 красавіка 1938 г., якое было накіравана ва ўсе аддзелы актаў грамадзянскага стану НКУС СССР, гаварылася, што калі ў таго, хто рэгіструецца, бацькі былі палякі, то, незалежна ад іх месца нараджэння, працягласці пражывання ў СССР або змены падданства, нельга запісваць яго рускім, беларусам або прадстаўніком іншай нацыянальнасці (Петров Н., Рогинский А. «Польская операция НКВД» 1937–1938 гг., с. 36; Селицкая Л. Белорусы и советская паспортизация. [Электронны рэсурс] – 06.07.2018. – Рэжым доступу: http://www.istpravda.ru/research/3797/.

[62] Пра спыненне масавых аперацый паведаміла сумесная пастанова ЦК УКП(б) і СНК СССР ад 17 лістапада 1938 г., а загад НКУС СССР № 00762 ад 26 лістапада 1938 г., падпісаны ўжо Лаўрэнціем Берыяй, адмяніў усе ранейшыя загады НКУС 1937–1938 гг. Гл.: Лубянка. Сталин и Главное управление госбезопасности НКВД. Документы. 1937–1938. Составители В. Н. Хаустов и др. Москва 2004. С. 612–617.

[63] Хаустов В. Из предыстории массовых репрессий против поляков. С. 10.

[64] Тамсама; Жлоба Е. «Польская операция» НКВД 1937–1938 гг. // Поляки в России: история и современность. Краснодар 2007. С. 98.

[65] Самым вядомым афіцэрам-палякам Чырвонай арміі быў ураджэнец Варшавы, камандзір дывізіі Канстанцін Ракасоўскі. З 17 жніўня 1937 г. да 22 сакавіка 1940 г. ён знаходзіўся ва ўнутранай турме ўпраўлення дзяржаўнай бяспекі НКУС на Шпалернай вул. у Ленінградзе. Нягледзячы на катаванні, не прызнаў сваю віну ў працы на карысць польскай і японскай выведак. Па хадайніцтве маршала Цімашэнкі быў вызвалены і рэабілітаваны. Пасля атрымання звання генерал-маёра камандаваў корпусам у Кіеўскай ваеннай акрузе. Прымаў удзел у Другой сусветнай вайне. Быў маршалам СССР і Польскай Народнай Рэспублікі. Падрабязней на гэтую тэму гл.: Iwanow M. Zapomniane ludobójstwo. S. 364–367; Яшчэ адным афіцэрам-палякам, які цудам пазбег расстрэлу быў Франц Перхаровіч. Ён нарадзіўся ў 1894 г. у Барысаўскім пав. Мінскай губ. У 1937 г. быў звольнены з арміі (у разгар «Польскай аперацыі») і вярнуўся да вайсковай службы ў 1940 г. Падчас вайны з Германіяй даслужыўся да звання генерал-лейтэнанта. З лістапада 1944 г. і да канца вайны быў камандуючым 47 арміяй І Беларускага фронту. Герой Савецкага Саюза (1945 г.). Перхаровіч не карыстаўся поўным даверам савецкага кіраўніцтва. [Электронны рэсурс] – 21. 07. 2018. – Рэжым доступу: http://encyclopedia.mil.ru/encyclopedia/heroes/USSR/more.htm?id= 11904719%40morfHeroes.

[66] Sommer T. Rozstrzelać Polaków. Ludobójstwo Polaków w Związku Sowieckim w latach 1937–1938. S. 179.

[67] Materski W. Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943. S. 485; Петров Н., Рогинский А. «Польская операция НКВД» 1937–1938 гг. С. 32.

[68] Nowak A. Strachy i Lachy. Przemiany polskiej pamięci 1982-2012. S. 270.

[69] AAN. Z. 510, sygn. 95, k. 84–85.

[70] Масавыя забойствы палякаў у СССР у 1937–1938 гг. адгукнуліся ў Польшчы падчас гарбачоўскай «перабудовы». Менавіта ў гэты перыяд на імя першага сакратара ЦК ПАРП Войцаха Ярузэльскага прыйшло шмат лістоў па гэтым пытанні. У адным з іх пра трагічны лёс двух сваіх родных братоў, расстраляных у 1937 г. у СССР, напісаў Мечыслаў Едынак

з Кендзежына-Козьле. «Не магу знайсці адказ на гэта варварскае злачынства супраць людзей, якія змагаліся, не шкадуючы свайго жыцця, за савецкі лад. Верагодна, нацыянальнасць для іх была варожай». Мечыслаў (1908 г. нар.), адзіны з трох братоў застаўся жывы. У 1944 г. ён выехаў у Польшчу (AAN. Z. 1354, sygn. LXXVII–944, k. b. n.

[71] Відавочна, прыведзеныя вышэй даныя пра расстраляных у «Польскай аперацыі» палякаў з’яўляюцца цалкам дакладнымі. Расстраляных і сасланых было так шмат, што нават зараз гэта выклікае хваляванне ў КДБ Беларусі. Нельга выключыць, што КДБ робіць пэўныя захады для таго, каб паводле дакументаў, якія захоўваюцца ў яго архівах, зменшыць колькасць расстраляных палякаў. Пра магчымасць такіх дзеянняў сведчыць публічная заява Маі Кляшторнай, дачкі расстралянага 30 кастрычніка 1937 г. беларускага паэта Тодара Кляшторнага: «Калі пры канцы 1980-х мне паказвалі справу маці, там быў адзін аркуш, а цяпер у справе шмат розных аркушаў, а гэтага няма. А я добра памятаю яго. Там пра маму пісалі ў разьдзеле «асобыя прыкметы» полька, а гэта на той час была расстрэльная прыкмета. У мяне сьлёзы тады градам ліліся. А ў той справе, што мне сёлета перадалі (2017 – Т. Г.) ужо беларуска напісана». [Электронны рэсурс] – 30.10.2017. – Рэжым доступу: https://www.svaboda.org/a/28778135.html.

[72] Пра тое, якія нечалавечыя выпрабаванні і здзекі давялося перажыць палякам ва Усходняй Беларусі падчас рэпрэсій сведчыць аповед Маргарыты Прылепы з Магілёва: «[…] У нас забралі ўсё, акрамя нашай каталіцкай веры, якая ў душы. Дзеду майму не дазволілі нават нацыянальнасць у пашпарце ўказаць (сказалі, што палякі ў Польшчы жывуць), два разы арыштоўвалі, забралі ўсю гаспадарку, брата яго ў 1937 г. арыштавалі. З таго часу яго ніхто не бачыў. Яшчэ адна пляменніца была настаўніцай польскай мовы. Яна была вымушана выкладаць нямецкую, бо польскія школы зачынілі. У акрузе не засталося аніводнага касцёла, але дзед маліўся перад абразом Божай Маці дома. Катком прайшліся па нашай сям’і бальшавікі, спрабуючы выгнаць польскасць. І толькі праз шмат гадоў пасля смерці дзеда я змагла вывучаць польскую мову ў Доме польскім (у Магілёве – Т. Г.), атрымаць Карту паляка не па паходжанні (у Магілёўскай вобл. усё знішчана), а па прычыне актыўнага ўдзелу ў жыцці Дома польскага. Дачка вучылася ў Польшчы і там выйшла замуж. І зараз у мяне будуць сапраўдныя польскія ўнукі. Я спадзяюся, што мой дзед глядзіць з неба і цешыцца з гэтага». [Электронны рэсурс] – 19.07.2018. – Рэжым доступу: https://www.facebook.com/search/top/?q=andrzej%20poczobut.

[73] Nowak A. Czas walki z Bogiem. Kościół na straży polskiej wolności. S 28.

# «Operacja polska» NKWD (1937–1938) w polskiej historiografii

*Maciej Wyrwa,*
*PhD (Warszawa, Polska)*

«Wielka czystka», jak nazywał stalinowskie represje lat 30. XX w. urodzony w Krakowie Aleksander Weissberg-Cybulski[1], czy też «Wielki Terror» jak chciał Robert Conquest do dnia dzisiejszego postrzegane są głównie przez pryzmat procesów pokazowych czołowych przywódców bolszewickich m. in. Grigorija Zinowjewa, Lwa Kamieniewa, Nikołaja Bucharina, Aleksieja Rykowa, Karła Radka[2]. Podczas «procesów moskiewskich», w świetle kamer i fleszy, Stalin rozprawiał się ze swoimi byłymi towarzyszami walki, którzy z dnia na dzień stali się «wrogami ludu». Również zapoczątkowana przez Nikitę Chruszczowa na XX Zjeździe KPZS w 1956 roku polityczna kampania walki z «kultem jednostki» pozostawiła głęboki ślad w postrzeganiu stalinowskich represji zarówno w Polsce jak i na świecie.

W Polsce Ludowej w czasach obowiązkowej przyjaźni polsko-radzieckiej, temat ten praktycznie nie istniał, a pamięć o terrorze lat 30. sprowadzono jedynie do «okresu błędów i wypaczeń», którego ofiarami byli wyłącznie przebywający w ZSRS członkowie Komunistycznej Partii Polski. Z tamtego okresu pochodzi dowcip «Gdzie mógł się czuć w tamtych latach bezpiecznie komunista? W polskim więzieniu». I faktycznie, większość elity komunistycznej, przywiezionej do Polski na sowieckich czołgach po 1944 roku, przeżyła okres stalinowskich represji w polskich więzieniach. Tak było m. in. z komunistycznym prezydentem Bolesławem Bierutem, czy też z pierwszym sekretarzem Komitetu Centralnego Polskiej Zjednoczonej Partii Robotniczej Władysławem Gomułką.

W latach 60. minionego wieku, w ramach obchodów 50. rocznicy rewolucji październikowej, pracownicy Zakładu Historii Partii przy-

gotowali księgę rocznicową Polaków biorących udział w rewolucji bolszewickiej[3]. Nie dało się w niej ukryć represji. Przy wielu spośród 7 700 zamieszczonych biogramów znalazł się zapis: «Aresztowany na podstawie fałszywych oskarżeń. Zrehabilitowany po XX Zjeździe KPZS», lub «Bezpodstawnie represjonowany. Pośmiertnie zrehabilitowany».

Pierwsze wzmianki na temat eksterminacji ludności polskiej w Związku Sowieckim w latach trzydziestych XX w. ukazywały się w polskiej prasie emigracyjnej. Na uwagę zasługują m. in. artykuł dyrektora Biblioteki Polskiej w Londynie Zdzisława Jagodzińskiego[4]. W paryskich «Zeszytach Historycznych» ukazał się artykuł Marcina Wyziembły (Józef Lewandowski) poświęcony losom represjonowanych Polaków w ZSRS[5]. Również na łamach «Zeszytów Historycznych» ukazał się «Słownik biograficzny komunistów polskich represjonowanych w ZSSR» autorstwa Al. An. Myszkowskiego oraz uzupełnienia i uwagi do niego Stanisława Ludkiewicza i S. W. Rawicza[6].

W 1990 roku ukazała się w Polsce broszura autorstwa Wojciecha Lizaka pt. *Rozstrzelana Polonia. Polacy w ZSRR 1917–1939*, która pomimo braku dostępu autora do sowieckich źródeł archiwalnych stanowiła istotny przełom w badaniach[7]. Autor zaprezentował najważniejsze fakty, interpretację przyczyn oraz orientacyjną skalę represji dokonanych na Polakach.

Upadek ZSRS i dostęp do archiwów posowieckich nie zaowocował wzrostem zainteresowania badaczy z Polski tą problematyką. Wyjątek, i to na długie lata, stanowiła praca Nikołaja Iwanowa, *Pierwszy naród ukarany. Polacy w Związku Radzieckim 1921–1939,* która próbowała w możliwie pełny sposób przybliżyć sytuacje Polaków represjonowanych w ZSRS[8]. Warto dodać, że w oparciu o tę publikację i ujawnione już po jej napisaniu archiwalia w 2015 roku ukazała się monografia N. Iwanowa pt. *Zapomniane ludobójstwo. Polacy w państwie Stalina. «Operacja polska» 1937–1938*, a w 2017 praca o charakterze albumowym: *Zginęli, bo byli Polakami. Koszmar «operacji polskiej» NKWD 1927–1938*[9].

Fundamentalne znaczenie dla poruszanej tematyki miała publikacja w 1993 roku w piśmie «Karta» artykułu Nikity Pietrowa *Polska operacja NKWD* oraz po raz pierwszy przetłumaczonego na język polski rozkazu

zlecającego przeprowadzenie zbrodni[10]. Dostęp badaczy do archiwaliów posowieckich w Rosji w latach 90. sprawił, że poznaliśmy inną, jeszcze bardziej przerażającą i mroczną stronę represji lat 1937–1938. Likwidacja «szpiegów, spiskowców i szkodników» wśród nomenklatury i starych bolszewików znana z procesów moskiewskich stanowiła jedynie czubek piramidy zbrodni. Dół piramidy stanowiły tzw. masowe operacje i to właśnie one sprawiły, że bolszewicki terror zapisał się w historii jako «wielki». Ofiarami tych represji byli głównie mieszkańcy bolszewickiego państwa nie zajmujący wysokich stanowisk i nie należący do partii komunistycznej. To właśnie w artykule Pietrowa po raz pierwszy pojawiło się określenie «operacja polska» NKWD i to z tego artykułu dowiedzieliśmy się o zbrodniczym rozkazie nr 00485.

11 sierpnia 1937 roku ludowy komisarz spraw wewnętrznych ZSRS Nikołaj Jeżow podpisał rozkaz NKWD nr 00485 o likwidacji «polskich grup dywersyjnych i szpiegowskich» oraz Polskiej Organizacji Wojskowej (POW) zatwierdzony dwa dni wcześniej przez Biuro Polityczne KC WKP(b). Od 20 sierpnia aresztowaniu mieli podlegać domniemani działacze POW, polscy jeńcy wojenni, którzy pozostali w Związku Sowieckim, zbiegowie, emigranci i więźniowie polityczni z Polski. Fala represji objęła również byłych członków Polskiej Partii Socjalistycznej i innych polskich partii uznanych za antysowieckie oraz działaczy i mieszkańców polskich rejonów narodowościowych funkcjonujących na sowieckiej Ukrainie i Białorusi.

W czasie trwania operacji rozszerzono ją o następną kategorie – osoby mające kontakty z polskimi przedstawicielstwami dyplomatycznymi w ZSRS. «Operacja polska», pierwotnie skierowana niemal wyłącznie przeciwko Polakom, przekształciła się tym samym w operację wymierzoną we wszystkich mieszkańców ZSRS mających jakiekolwiek powiązanie z Polską i z Polakami. Ofiarami «operacji polskiej» NKWD padli Rosjanie, Ukraińcy, Białorusini, Żydzi i przedstawiciele innych narodów Związku Sowieckiego.

By zostać aresztowanym wystarczyła korespondencja z rodziną z «pańskiej» Polski, bądź też… polsko brzmiące nazwisko . Funkcjonariusze NKWD poszukiwali Polaków za pośrednictwem biur adresowych, biur paszportowych, urzędów stanu cywilnego, spisów organizacji za-

wodowych i społecznych itp. Zeznania «wybijano» torturami, które były oficjalnie usankcjonowane i rekomendowane jako metoda prowadzenia śledztwa.

Już w trakcie trwania «operacji polskiej» na podstawie rozkazu N. Jeżowa nr 00486 z 15 sierpnia 1937 roku represjom poddano rodziny «zdrajców Ojczyzny». Żony zsyłano do łagrów, a dzieci poniżej piętnastego roku życia były oddzielane od rodziców i wysyłane do ośrodków wychowawczych, w których poddawano je sowietyzacji.

«Operacja polska», która początkowo miała trwać trzy miesiące, ostatecznie trwała czternaście miesięcy – do listopada 1938 roku. Niestety, archiwa rosyjskie wciąż skrywają nazwiska ofiar i strzegą danych o ich oprawcach dlatego wciąż nie znamy ostatecznej liczby represjonowanych. Według ustaleń moskiewskiego «Memoriału» represje objęły co najmniej 139 835 osób z czego nie mniej niż 111 091 zamordowano najczęściej strzałem w tył głowy, a 28 744 skazano na pobyt w łagrach[11]. Ofiary grzebano w anonimowych zbiorowych mogiłach, których w większości do dnia dzisiejszego nie zidentyfikowano. Wprawdzie jako pierwsi ofiarą masowych represji według kryterium narodowościowego padli przebywający w ZSRS obywatele Niemiec jednak to «operacja polska» stała się modelem wzorcowym dla następnych operacji o charakterze narodowościowym. W kolejce czekały wszak następne podejrzane o szpiegostwo na rzecz zagranicznych mocarstw «niechciane» narody: Łotysze, Estończycy, Finowie, Rumuni, Turcy, Grecy, Afgańczycy, Irańczycy, Chińczycy, Bułgarzy, Macedończycy i Koreańczycy. Według «polskiego modelu» represjonowano także podejrzewanych o szpiegostwo na rzecz Japonii emigrantów z Harbinu w Mandżurii.

Antypolska operacja, przeprowadzona przez NKWD w latach 1937–1938 wyróżniała się skalą i okrucieństwem. Była największą z przeprowadzonych «operacji narodowych», a co druga zamordowana osoba była ofiarą «operacji polskiej». Łącznie, w okresie Wielkiego Terroru, życie straciło co najmniej 200 tys. Polaków.

Niestety, książka N. Iwanowa, artykuł N. Pietrowa nie przyczyniły się do zwiększenia zainteresowania ze strony polskiego środowiska naukowego tą tematyką, dlatego na tym większą uwagę zasługują prace Mieczy-

sława Łozińskiego[12], Henryka Strońskiego[13] i Wasyla Haniewicza[14] podejmujące tematykę represji wobec Polaków obywateli sowieckich w ZSRS w latach 30. XX w.

Bez wątpienia jednym z najbardziej zaniedbanych przez polską historiografie, głównie przez brak dostępów badaczy do materiałów zgromadzonych w białoruskich archiwach, jest problematyka «operacji polskiej» NKWD na sowieckiej Białorusi. Oprócz wspomnianej już publikacji N. Iwanowa ukazała się praca Zdzisława Juliana Winnickiego[15] poświęcona polskiej autonomii w Białorusi, która podobnie jak książka Marka A. Koprowskiego[16] z pewnością nie wyczerpuje poruszanej problematyki.

Na osobną uwagę zasługują prace ks. Romana Dzwonkowskiego poświęcone represjom sowieckim wobec duchowieństwa i wiernym kościoła katolickiego w ZSRS[17].

Pierwszą próbą monografii poświęconej w całości «operacji polskiej» NKWD była wydana w 2014 roku praca Tomasza Sommera *Operacja antypolska NKWD 1927–1938. Geneza i przebieg ludobójstwa popełnionego na Polakach w Związku Sowieckim*[18]. Praca oparta na bogatym materiale źródłowym, ma niestety, w dużej mierze charakter publicystyczny co obniża jej wartość naukową. Stanowi jednak bardzo ważny przyczynek do badań. Represjom sowieckim na Ukrainie w latach 1934–1938 w analizach polskiego Ministerstwa Spraw Zagranicznych i wywiadu wojskowego poświęcona jest praca Roberta Kuśnierza[19].

Tomasz Sommer jest także redaktorem tomu źródeł *Rozstrzelać Polaków. Ludobójstwo Polaków w ZSRS w latach 1937–1938. Dokumenty z centrali*[20]. Praca stanowi próbę przedstawienia najważniejszych dokumentów Biura Politycznego KC WKP(b) i komisarza NKWD Nikołaja Jeżowa. Redakcja publikacji odbiega jednak od standardów opracowywania dokumentów archiwalnych, a wybór dokumentów nie wyczerpuje poruszanej problematyki.

Dotychczas w Polsce ukazało się jeszcze kilka publikacji źródłowych poświęconych interesującej nas problematyce. Zdecydowanie najlepiej udokumentowana jest «operacja polska» NKWD w Ukraińskiej SRS. Ważną publikację stanowi piąty tom serii wydawniczej Południowo-Wschodniego Instytutu Naukowego w Przemyślu pt. *Polacy na Ukrainie. Zbiór dokumentów*, pod redakcją Stanisława Stępnia i Ołeksandra Rublo-

The materials of the fund «P–6452» from the criminal cases of the repressed citizens of the city of Kharkiv and Kharkiv region of the Kharkiv Regional Administration of the SBU (State Archives of the Kharkiv region) were introduced into scientific discourse. A number of documents reveals the tragic destinies of V. O. Babenko, K. A. Berladina, D. P. Gordeev, V. V. Dubrovsky, O. F. Fedorovsky, P. M. Zholtovsky, V. M Zummer, O. A. Nikolskaya, O. T. Poplavsky, S. A. Taranushenko, K. G. Cherviak and other repressed representatives of the Kharkiv intelligence. Investigative materials of the arrests and searches, protocols of meetings of special «troika» of the Collegium of the State Political Administration of the Ukrainian SSR, applications of the arrested, decisions of the penalties, materials of the investigation, protocols of interrogations and confrontations, characteristics, certificates of the relevant institutions, examination materials, handwritten statements of the arrested people about guilty plea of their mythical crimes, letters, indictments, sentences, certificates of rehabilitation give us an opportunity to understand the tragedy of the Kharkiv intelligence in 1933 better.

It's proved that the totalitarian regime failed to break the representatives of the Kharkiv intelligence, despite the cruel methods of repressions. Most of the repressed people after the liberations returned to former scientific interests and they continued their work even far from their hometown.

### *Заўвагі*

1 Реабілітовані історією. Сумська область: Книга 1. Суми, 2005. С. 722–724.
2 Дражевська Л. Совєтський терор проти української інтелігенції в 1930-х роках (Очима очевидця) // Український засів. Харків, 1993. Ч. 5. С. 78–82.
3 Державний архів Харківської області (далі: ДАХО). Ф. Р–6452. Оп. 3. Спр. 658. Арк. 205.
4 Там само. Оп. 3. Спр. 656. Арк. 198.
5 Там само. Оп. 2. Спр. 2809. Арк. 11.
6 Там само. Оп. 3. Спр. 657. Арк. 44.
7 Там само. Оп. 2. Спр. 2803. Арк. 22.
8 Там само. Оп. 2. Спр. 2809. Арк. 11, 15–17, 20–52.
9 Підгайний С. З концепції українського історичного процесу в музейній практиці. Харків, 1930. С. 23.
10 Маньковська Р. В. О. Федоровський та його вклад в пам'яткоохоронну та

музейну справу // Історія України. Маловідомі імена, події, факти: Зб. ст. Київ, 1996. С. 69.
[11] ДАХО. Ф. Р–6452. Оп. 3. Спр. 656. Арк. 140.
[12] Там само. Оп. 3. Спр. 656. Арк. 41.
[13] Там само. Арк. 50, 63.
[14] Там само. Арк. 64.
[15] Хвиля А. Могутнє знаряддя соціалістичного виховання // Комуніст. Київ, 1934, 17 грудня (№ 290). С. 3.
[16] Рибальченко Р. К. Харківська культурна еміграція 1942–1943 років. (Нариси). Харків, 2004. С. 41.
[17] ДАХО. Ф. Р–6452. Оп. 2. Спр. 2809. Арк. 45.
[18] Там само. Оп. 3. Спр. 658. Арк. 10.
[19] Там само. Арк. 269–270.
[20] Там само. Арк. 295–296.
[21] Там само. Оп. 2. Спр. 2809. Арк. 23–24, 27, 41.
[22] Там само. Арк. 20–21.
[23] Там само. Арк. 27.
[24] Там само. Оп. 3. Спр. 658. Арк. 225–226.
[25] Там само. Арк. 127–128.
[26] Там само. Оп. 3. Спр. 656. Арк. 127.
[27] Там само. Арк. 130.
[28] Там само. Оп. 2. Спр. 2809. Арк. 34.
[29] Там само. Оп. 3. Спр. 658. Арк. 47–48, 223.
[30] Реабілітовані історією. Харківська область: Книга перша. Ч. 1. Київ–Харків, 2005. С. 500.
[31] ДАХО. Ф. Р–6452. Оп. 3. Спр. 658. Арк. 224.
[32] Митці України: Енцикл. довід. / Упоряд.: М. Г. Лабінський, В. С. Мурза; За ред. А. В. Кудрицького. Київ, 1992. С. 272.
[33] ДАХО. Ф. Р–6452. Оп. 2. Спр. 2809. Арк. 22–23, 36–38.
[34] Там само. Оп. 3. Спр. 657. Арк. 102–103.
[35] Там само. Оп. 3. Спр. 658. Арк. 5.
[36] Там само. Оп. 3. Спр. 657. Арк. 113, 135, 156.
[37] Там само. Оп. 3. Спр. 658. Арк. 9.
[38] Там само. Арк. 267.
[39] Там само. Арк. 195.
[40] Там само. Арк. 48–49.
[41] Там само. Арк. 49.
[42] Там само. Оп. 4. Спр. 1885. Арк. 1, 247, 249, 251, 255–256, 331–333, 341–342, 380–381, 485–490.

[43] Там само. Оп. 3. Спр. 656. Арк. 197.
[44] Там само. Оп. 3. Спр. 658. Арк. 47.
[45] Про завдання, методи охорони та масової популяризації пам'яток культури // Бюлетень НКО. 1931. № 56. арт. 675. С. 6–7.
[46] ДАХО. Ф. Р–6452. Оп. 3. Спр. 656. Арк. 178.
[47] Там само. Арк. 207, 210.
[48] Там само. Арк. 211, 229.
[49] Хвиля А. Могутнє знаряддя соціалістичного виховання… С. 3.
[50] Інститут рукопису Національної бібліотеки України ім. В. І. Вернадського НАН України (далі: ІР НБУВ). Ф. 278. Од. зб. 1606. Арк. 1.
[51] Білокінь С. Велетень мистецтвознавства // Репресоване «відродження» / Упоряд. О. І. Сидоренко, Д. В. Табачник. Київ, 1993. С. 333–345.
[52] ІР НБУВ. Ф. 278. Од. зб. 1683. Арк. 7.
[53] Там само. Од. зб. 1605. Арк. 1 дод.–2 дод.
[54] Там само. Од. зб. 1609. Арк. 1.
[55] ДАХО. Ф. Р–6452. Оп. 3. Спр. 657. Арк. 9, 19.
[56] Там само. Оп. 2. Спр. 2809. Арк. 40–40 зв.
[57] Там само. Оп. 3. Спр. 657. Арк. 17.
[58] Там само. Оп. 3. Спр. 658. Арк. 49, 237.
[59] Там само. Оп. 2. Спр. 2809. Арк. 40-40 зв.
[60] Митці України: Енцикл. Довід... С. 246.
[61] Скубицкий Т. Классовая борьба в украинской исторической литературе // Историк-марксист. 1930. Т. 17. С. 36–37.
[62] Ястребов Ф. Рецензія на кн.: Д. І. Багалій Нарис історії України на соціально-економічному грунті // Прапор марксизму. 1929. № 5. С. 167–176.
[63] Репресоване краєзнавство (20–30-і роки) / Ін-т історії України. Всеукраїнська спілка краєзнавців. Редкол.: П. Т. Тронько (голова) та ін. Київ, 1991. С. 405.
[64] ДАХО. Ф. Р–6452. Оп. 3. Спр. 656. Арк. 19, 44.
[65] Там само. Арк. 21–22.
[66] Оглоблін О. Пам'яті акад. Д. І. Багалія (1857–1932) // Україна. 1932. № 1/2. С. 167–170.
[67] ДАХО. Ф. Р–6452. Оп. 3. Спр. 656. Арк. 2.
[68] Там само. Арк. 124.
[69] Там само. Арк. 71–72, 109.
[70] Там само. Спр. 658. Арк. 205 зв.
[71] Реабілітовані історією. Харківська область… С. 355.
[72] Нестуля О. О. Понад усе ставив істину (Ф. І. Шміт) // Репресоване крає-

знавство (20–30-і роки) / Ін-т історії України. Всеукраїнська спілка краєзнавців. Редкол.: П. Т. Тронько (голова) та ін. Київ–Хмельницький, 1991. С. 50.

[73] Там само. С. 50–51.

[74] Там само. С. 51.

[75] Там само. С. 51–52.

[76] ДАХО. Ф. Р–6452. Оп. 3. Спр. 658. Арк. 51.

[77] Там само. Арк. 265–266.

[78] Там само. Арк. 266.

## Заступніцтва Якуба Коласа за рэпрэсаваных

*Анатоль Трафімчык,*
*канд. гіст. навук. (Мінск)*

*Когда к Сталину обращались за помощью родственники и друзья арестованных или осужденных, то Сталин с присущим ему юмором, в котором всегда была большая часть правды, отвечал: «Ну, что я могу поделать, товарищ? У меня самого многие родственники и друзья сидят».*

Роман Перин

Вялікіх пісьменнікаў нездарма называюць вялікімі гуманістамі. Да гэтага схіляюць не толькі іх творы, але і жыццё ў цэлым. У першым шэрагу чалавекалюбцаў стаіць і фігура Якуба Коласа. Яго ўнёсак у выратаванне людзей важкі. Шмат каго паэт убярог ад малоха сталінскіх рэпрэсій. Аднак тэма дапамогі дагэтуль застаецца нераскрытай. Фрагментарна ў навуковы зварот на гэты конт ўведзена трохі матэрыялаў складальнікамі апошняга Збору твораў Песняра[1*], вядомым даследчыкам жыцця і творчасці Якуба Коласа Міхасём Мушынскім[2], урэшце аўтарам гэтых радкоў[3]. Але ўвогуле інфармацыю на гэтую тэму даводзіцца збіраць па драбніцах. Дадзеная публікацыя толькі прыадкрывае яркую старонку жыццядзейнасці класіка і заклікае даследчыкаў пашырыць і паглыбіць яе.

У сярэдзіне 1920-х гг. палітычнае дзейства, якое разгарнулася ў Савецкім Саюзе на ніве беларушчыны, выглядала зусім не апты-

* Колас Я. Збор твораў: у 20 т. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы. Мінск, 2007–2012. У далейшым спасылкі на творы Якуба Коласа робяцца па гэтым выданні ў квадратных дужках з пазначэннем тома і старонкі.

містычна для яе. У прыватнасці Якуб Колас, пачынаючы з 1925 г., меў шчыльны кантакт з органамі дзяржбяспекі, часам выступаючы сведкам па справах падазраваемых. Аднак паэт быў кепскім сведкам. Важнай інфармацыі з яго так і не выцягнулі[4]. Яшчэ раней з'явіліся адмоўныя апініі на аповесць «У Палескай глушы» (з боку Галоўліта,1922) і на асобу самога творцы (з боку АДПУ), што было сур'ёзным сігналам пагрозы ўсёй жыццядзейнасці (канец 1924 г.)[5].

На паэта нагаворвалі. І ён, «старый и хитрый враг Советской власти и Коммунистической партии» (з паказанняў на паэта 1937 г.)[6] бачыў, як імкліва радзеюць пісьменніцкія шэрагі, і мог толькі спадзявацца, што меч бальшавіцкай улады апусціцца на яго пазней. Доўгі час народны паэт спаў не распранаючыся, трымаючы клуначак самых неабходных рэчаў пад рукою.

Наколькі глыбока паэт усведамляў той падзейны фон, які сфармаваўся за гады ўлады «голаштанных варвараў», прыходу якіх Канстанцін Міцкевіч баяўся ў свой час (так паведамляе яго «амерыканскі» брат Міхась[7]), мы ведаем фрагментарна. Напрыклад, дзякуючы родным (Людміла Рублеўская называе Міхася Міцкевіча, малодшага Коласава сына[8]) да нас дайшла эпіграма Коласа, датаваная 1938 г.:

Калі на з'ездзе ці на сходзе
К табе фатограф не ідзе,
Дык так і ведай: ты не ў модзе
І не патрэбен ты нідзе.
І думай, браце, аб бядзе. [Т. 2, с. 282]

Гэтыя некалькі радкоў выдаюць пільнае вока Якуба Коласа. Несумненна, ён разумеў і тое, што можа чакаць чалавека, які кінуўся б на дапамогу *бліжняму свайму*, над якім навісла смяротная небяспека. А менавіта – такая самая доля: этапы ці і таго горш. Аднак гэта не спыняла нястрымных парываў чалавечнасці Гуманіста.

Ці не першай спробай выратавання стаў ініцыіраваны самім Якубам Коласам ліст да старшыні Саўнаркаму БССР Мікалая Галадзеда ў абарону арыштаванага Францішка Аляхновіча, падпісаны разам з Янкам Купалам ды іншымі ў 1928 г. На жаль, не дапамагло. Хаця часы яшчэ стаялі, па вобразным выказванні Ганны Ахматавай, «адносна вегетарыянскія».

У 1930 г. Якуб Колас заступаецца за сясцёр і маці самога Янкі Купалы, якіх раскулачылі і падрыхтавалі да высылкі[9]. Гэтым разам паспяхова (хаця сацыяльны кантэкст тым часам згушчаў над абодвума класікамі хмары).

Кожны падобны крок браўся на ўлік. «Все время поддерживал письменную связь с высланными в 1930 году нацфашистами и отдельным из них оказывал материальную помощь», – гэта адзначаў у кампрамаце на Якуба Коласа малодшы лейтэнант дзяржбяспекі Завадскі ў жніўні 1937 г.[10]. А канец 1930-х падобных перажыванняў за рэпрэсаваных людзей падкінуў нашмат болей. І тут ужо просьбы (напісаныя, дарэчы, у адрозненне ад вышэйзгаданага беларускамоўнага заступніцтва за Ф. Аляхновіча па-руску) накіроўваліся сакратару ЦК КПБ Панцеляймону Панамарэнку.

Заступніцтва, аднак, далёка не заўсёды мела пажаданы вынік. К. Міцкевіч не мог уратаваць нават сваякоў. Так, нягледзячы на прашэнні Якуба Коласа, у жорнах рэпрэсіўнай машыны знік, напрыклад, швагер Аляксандр Каменскі (арыштаваны ў лютым 1938 г., перапіска з ім абарвалася з пачаткам нямецка-савецкай вайны).

Што тут казаць пра магчымасці адвесці бяду ад сяброў, таварышаў, аднадумцаў. Не здолеў віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР, якім быў К. Міцкевіч, паўплываць на вырак акадэміку Івану Замоціну (арыштаваны 4 красавіка 1938 г.). У канцы 1939 г. ізноў разам з сябруком Янкам (а таксама са Змітраком Бядулем) Якуб Колас напісаў прашэнне ў абарону арыштаванага Аляксандра Уласава[11]. Яўген Калубовіч пераказваў Коласаў аповед: «Мы з Купалам, – далей казаў Я. Колас, – хадзілі да Панамарэнкі. Прасілі за яго. Але Панамарэнка нам не дапамог. Ён быццам бы званіў у НКВД, скуль яму адказалі, што Ўласава ў БССР ужо няма. Таму ён нічога ня можа зрабіць»[12]. Хоць П. Панамарэнка узяў справу пад асабісты кантроль, як сведчыць нядаўна знойдзеная ў архіве запіска[13], станоўчага выніку пісьменнікі не дабіліся.

Усё ж былі і перамогі. Летам 1939 г. Кузьма Чорны, арыштаваны яшчэ 14 кастрычніка 1938 г. і моцна замучаны, быў выпушчаны. Вызваленню пасадзейнічала таксама заступніцтва Якуба Коласа, з якім П. Панамарэнка ўжо нават раіўся. Паэт запэўніў у высокай якасці творчасці Кузьмы Чорнага і яго палітычнай добранадзейнасці[14] (на

жаль, здароўе апошняга было падарвана катаваннямі і жыць яму заставалася нядоўга).

Ратаваў Якуб Колас і людзей, якія не ўваходзілі ў блізкае кола сяброў і родных ці калег па пяру. Адным з такіх быў Іван Касяк – настаўнік з Павільні, заходнебеларускі актывіст. У фондах Музея Якуба Коласа знаходзяцца чатыры лісты паэта да І. Касяка. У адным з іх гаворыцца, што 7 верасня 1940 г. Якуб Колас займаўся справай знаёмага і рэкамендаваў яму «возбудить ходатайство перед органами НКВД». Паэт не толькі не баяўся розгаласу, што дапамагае патэнцыйным, а то і ўжо нібыта выяўленым «ворагам народа», але і сам складаў пратэкцыю ім і даваў згоду, каб яны спасылаліся ў хадайніцтвах на яго: «В своем заявлении можете сослаться на меня, как знающего Вас и могущего поддержать Ваше ходатайство»[15]. Колькасць такіх выпадкаў, сёння, бадай, не ўстанавіць.

Славуты дзеяч музычнага мастацтва Рыгор Шырма пасля далучэння Заходняй Беларусі інтэнсіфікуе сваю дзейнасць на ніве беларушчыны і стварае прафесійны калектыў – Беларускі ансамбль песні і танца (з 1955 г. – Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла БССР). Аднак ужо ў 1941 г. выбітны дзеяч апынуўся за мурамі Лубянкі. Свайму вызваленню ён мусіў быць удзячны Якубу Коласу, які асабіста хадайнічаў перад Панцеляймонам Панамарэнкам[16]. Прычым адбыўся арышт Р. Шырмы ўжо ў час германа-савецкай вайны, увосень 1941 г. у Краяснаярску, куды эвакуіравалі ансабль, які працягваў гастролі па бяскрайніх прасторах Сібіры з іншым кіраўніком. Урэшце летам 1942 г. калектыў наведаў Ташкент. На канцэрт прыйшоў Якуб Колас, да якога і «ўвалілася аднаго дня група харыстаў, каб расказаць пра сваю бяду, пра долю свайго любімага кіраўніка»[17]. У далейшым паэт таксама сачыў за лёсам гэтага ансамбля, хадайнічаў за яго перад рэспубліканскім кіраўніцтвам: «Ансамблю трэба аказаць маральную, матэрыяльную і іншую дапамогу. [...] Пагутарыце з Панцеляймонам Кандратавічам. На мой погляд, ансамбль заслугоўвае таго, каб яму давесці болей увагі і клопату», – пісаў Якуб Колас у лісце да Цімафея Гарбунова (17 чэрвеня 1942 г.) [Т. 18, с. 387].

Магла страціць маці Эдзі Агняцвет. Сталага веку жанчына пад-

час вайны напісала амерыканскім сваякам з просьбай аб дапамозе ў іх цяжкім матэрыяльным становішчы. «Як жа можна пісаць такое, калі ў нашай савецкай краіне ўсе жывуць заможна і шчасліва і толькі адно і ведаюць, каб і ў дзень, і ў начы славіць любімага і мудрага бацьку і правадыра, дзякаваць яму за шчаслівае і радаснае жыццё»[18], – іранічна пракаментаваў той ліст Даніла Міцкевіч, старэйшы сын класіка і непасрэдны сведка выпадку. Перапіска ў той суровы час кантралявалася максімальна пільна. Адбыўся арышт аўтара. Каб не прыязныя стасункі з Якубам Коласам, які дабіўся вызвалення ўжо нямоглай жанчыны, сувязей самой Эдзі Агняцвет магло б не хапіць (хоць, па некаторых сведчаннях, яна была чалавекам не самым далёкім ад органаў).

Пасля вайны клопат на той час ужо класіка пра бязвінных ахвяр палітычных рэпрэсій не аслаб. Не пабаяўся Колас скласці пратэкцыю і апальнаму геолагу Гаўрылу Гарэцкаму, пра перавод якога ў Беларусь народны паэт гутарыў з П. Панамарэнкам летам 1944 г. [Т. 19, с. 115]. У лісце да самога вучонага ад 11 ліпеня 1944 г. ён выказваў перакананасць, «што мы з Вамі будзем працаваць у Беларусі» [Т. 19, с. 113]. Гэта справа адняла не адзін дзень і, як можна толькі здагадвацца, шмат нерваў. «Калі будзеце ў Маскве, пастарайцеся пабачыцца са мною: мы пойдзем з Вамі ў ЦК і на месцы будзем выратоўваць Вас для работы ў Беларусі […] Калі што трэба дапамагчы Вашым, дык пішыце мне – усё, што змагу, буду рабіць», – напісаў паэт вучонаму ў чарговым лісце ад 18 жніўня 1944 г. [Т. 19, с. 115].

Дарэчы, як паведаміў Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі , калі пасля Другой сусветнай вайны вырашалася пытанне пра мяжу паміж Польшчай і Беларуссю, і ў прыватнасці пра прыналежнасць Беласточчыны, Г. Гарэцкі менавіта праз Якуба Коласа перадаў сваю грунтоўную манаграфію «Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы (нацыянальны склад насельніцтва Заходняй Беларусі)» П. Панамарэнку, які ўзяў яе з сабой на размову з І. Сталіным і прыводзіў адтуль аргументы на карысць Беларусі[19].

Праблема з Г. Гарэцкім, тым не менш, вырашалася надзвычай доўга, і да канструктыву дайшло толькі праз добры дзясятак гадоў, але афармленне вяртання вучонага, як можна ўбачыць толькі з перапіскі паміж ім і паэтам, заняло так шмат часу, што апошні не

дачакаўся гэтай падзеі[20]. Г. Гарэцкі быў рэабілітаваны толькі ў 1958 г., а ў Мінск вярнуўся яшчэ пазней – у 1969 г.

Таксама Якуб Колас, як сведчыць ён сам у Дзённіку, наведаў Першага сакратара ЦК КП(б)Б 3 сакавіка 1944 г. У тыя дні паэт клапаціўся пра вяртанне рэпрэсаванага яшчэ ў 1936 г. мастацтвазнаўца Антона Уса. Палітычны дзеяч прыслухоўваўся да слоў лірыка, але дзейнічаў па прынцыпе «давярай, ды правярай», бо «отдал распоряжение разыскать […] дело для пересмотра» [Т. 19, с. 102]. Канешне, перад прыняццем рашэння неабходна было азнаёміцца з сутнасцю справы. Пасля ў прысутнасці паэта П. Панамарэнка распарадзіўся паслаць выклік праз Усесаюзны ЦК. Аднак прыезд А. Уса з незразумелых прычын зацягваўся і ў выніку адклаўся да канца навучальнага года. Той прыехаў Гомель недзе пасля 20 чэрвеня 1944 г. А пасля вызвалення Мінска прыехаў у сталіцу БССР раней за свайго заступніка[21]. Праўда, супраць А. Уса ў 1948 г. распачалася новая палітызаваная кампанія, і ён быў вымушаны з’ехаць на чатыры гады з Беларусі [Т. 19, с. 658].

Здаралася, што паэт нават арганізоўваў сустрэчы кіраўніка рэспублікі з людзьмі, якія самі ніколі б не дайшлі са сваімі меркаваннямі да вышэйшых эшалонаў улады. Пра адзін такі выпадак даведваемся са стэнаграмы выступлення П. Панамарэнкі на VIII пленуме ЦК КП(б)Б ад 12 снежня 1945 г., калі палітык меў размову па некаторых пытаннях асветніцка-прапагандысцкай работы са сталым настаўнікам-«заходнікам», які меў 40 гадоў педагагічнай практыкі[22]. Прычым са свайго боку заўважым, Якуб Колас не хаваў свайго знаёмства з чалавекам, які з гледзішча савецкай улады цалкам мог патрапіць у катэгорыю «социально-опасных элементов», для чаго было дастаткова быць «заходнікам», а тым больш інтэлігентам старой (польскай, а ў дадзеным выпадку яшчэ і царскай загартоўкі).

Пасля вайны ўвогуле на «заходнікаў» улада глядзела з падазрэннем і нярэдка ішла на прэвентыўныя меры ў выглядзе дэпартацый і зняволення. Пад іх трапілі і некаторыя сваякі К. Міцкевіча. І тут яму таксама давялося прыкладаць намаганні, каб адвесці пагрозу ад жыцця родных, сярод якіх былі і такія, хто афіцыйна працаваў пры нямецкай акупацыі. Напрыклад, дзядзька па маці Антось Лёсік (не блытаць з героем «Новай зямлі») працаваў у выдавецтве

школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі [Т. 19, с. 710-711], а гэта лічылася злачынствам супраць савецкай улады. У 1947 г. паэт «все лето хлопотал об освобождении из ссылки племянника» (сына роднага брата Юзіка – Міхася) [Т. 19, с. 309]. Тут Якуб Колас прыбяднiўся (стасоўна патрачанага часу): першае прашэнне за нябогу датавана 4 сакавіка 1947 г., але яшчэ і на канец года паэт безвынікова грукаўся ў розныя ўладныя інстанцыі, тым не менш пляменнік вярнуўся дадому толькі ў 1951 г., адбыўшы ўвесь тэрмін (рэабілітаваны адно ў 1995 г. [Т. 19, с. 259, 379-380, 766].

Яшчэ адзін «калабарант» (паводле савецкіх падыходаў) – колішні сукамернік Якуба Коласа Уладзімір Міцкевіч (Уладзік) – працаваў у часы акупацыі настаўнікам, за што быў звольнены, і паэту давялося хадайнічаць за таварыша [Т. 20, с. 104]. Пасля звальнення ў такіх выпадках нярэдка чалавека чакала больш сур'ёзнае пакаранне. Аднак вынік атрымаўся станоўчы: У. Міцкевіча на працы аднавілі.

Недзе каля 1950 г. Якубу Коласу давялося парупіцца і наконт роднага брата Язэпа (бацьку згаданага Міхася, якога, па ўсёй верагоднасці, яшчэ на той момант не адпусцілі). «Калі тут толькі стварaўся калгас «Радзіма Якуба Коласа», дзеда Юзіка, як добрага гаспадара ды яшчэ і брата Якуба Коласа, выбралі першым старшынём. І яму гэта ледзьве не вылезла бокам! – расказваў унук Георгій (Юрка) Міцкевіч, экскурсавод філіяла музея Якуба Коласа. – Сабралі ў калгасе добры ўраджай, а тады за працадні нічога не плацілі. І неабходнае калгаснікі здалі дзяржаве, а астатняе падзялілі. І вось дзеда пачалі цягаць па следствах. І каб не Колас, пасадзілі б. Ён дапамог. Выратаваў»[23].

Акрамя таго, дзейсную дапамогу Якуба Коласа атрымаў яшчэ шэраг вартых увагі асоб. Не ўдаючыся ў падрабязнасці, абазначым пару выпадкаў. Недзе вясною 1952 г. паэт накіраваў тэлеграму ў адрас міністра Дзяржбяспекі Татарстана Токарава, просячы за літаратуразнаўца Уладзіслава Чаржынскага (часцей выступаў пад псеўданімам *Ул. Дзяржынскі*), чым выратаваў чалавека і яго сям'ю[24] (але на радзіму Чаржынскія ўжо не вярнуліся).

Асабліва часта Якуб Колас заступаўся за братоў па пяры. «Пасля некаторых папярэдніх захадаў, кансультацый з людзьмі я прыйшоў да заключэння, што Вашым лёсам магу заняцца толькі я. Як дэпутат Вярхоўнага Савета я звярнуўся ў адпаведныя ўстановы і да асоб,

ад якіх залежыць сказаць сваё слова па Вашай справе», – пісаў ён 28 лютага 1951 г. да сасланага на Далёкі Усход паэта Алеся Звонака, хоць і сумняваўся ў паспяховым выніку сваіх хадайніцтваў [Т. 19, с. 524]. І, сапраўды, пратэжэ Якуба Коласа быў рэабілітаваны ўжо пасля смерці І. Сталіна, у канцы 1954 г., і толькі ў наступным годзе вярнуўся ў Мінск.

Прымаліся захады, каб паскорыць перагляд справы яшчэ аднаго вядомага беларускага паэта Уладзіміра Дубоўкі, рэпрэсаванага ў 1930 г. Падчас іх у лісце да маладзейшага калегі ад 1 сакавіка 1955 г. Колас выказаў прароцкае і смелае для таго часу меркаванне: «Як паставяцца там да мае просьбы, не ведаю. Толькі ведаю адно, што ўсе людзі, беспадстаўна рэпрэсіраваныя, вернуцца на свае сядзібы ці аселішчы, і з іх будзе знята судзімасць, і яны будуць адноўлены ў сваіх правах. Усё пытанне зводзіцца да часу: засуджаных і высланых, як Вам вядома, многа» [Т. 20, с. 54]. У. Дубоўка быў рэабілітаваны 15 лістапада 1957 г.

Аналагічна сітуацыя тым жа часам развівалася стасоўна яшчэ аднаго паэта – Юркі Гаўрука. Ён быў арыштаваны ў 1935 г. Прашэнні жонкі (вядома, што хадзіла да Кандрата Крапівы) не дапамаглі. Затое падзейнічала слова Якуба Коласа. У гэтым быў упэўнены сам Ю. Гаўрук, які распавёў гэтую гісторыю вядомаму даследчыку Арсеню Лісу. Праўда, здарылася тое вызваленне ў той час, калі працэсы рэабілітацыі набылі пэўную тэндэнцыю, што, аднак, не зніжае вартасці кроку народнага паэта.

Не мог не заступіцца Якуб Колас проста за слабейшых, якім пагражалі меры па абмежаванні свабоды. Так, у адным з лістоў паэт апісвае выпадак, калі загадчык школы і брыгадзір калгаса п’янымі збіралі подпісы ў рамках адной савецкай акцыі і пачалі прыставаць да жанчыны, маці траіх дзяцей, «с гнусными намерениями», а потым у даносе яе абвінавацілі (каб маўчала) у антысаветчыне. І хоць Якуб Колас той жанчыны зусім не ведаў, ён заняўся яе абаронай (да 16 красавіка 1955 г.) [Т. 20, с. 73].

Часам, як у лісце да жыхаркі Ліды Алены Пруднікавай ад 25 мая 1952 г., які датычыў справы яе арыштаванага мужа, Якуб Колас прызнаваў сваё бяссілле [Т. 20, с. 73]. А ў выпадку з дваюрадным пляменнікам (каля 1950 г.) ён, паводле некаторых успамінаў, наогул

ухіліўся ад аказання дапамогі[25]. Крыўда нашчадкаў ахвяры таго выпадку цалкам зразумелая. Аналагічная цьмяная гісторыя звязана з прадстаўніком беларускай інтэлігенцыі Сяргеем Скандраковым, які праходзіў па справе Саюза вызвалення Беларусі (1930), і якому, калі меркаваць па ягоных пасляваенных лістах да Якуба Коласа, паэт не прыйшоў на дапамогу[26].

Нядзіўна, што пасля афіцыйна ўзятага курсу на развенчванне культу асобы Сталіна народны паэт (ужо на зыходзе свайго жыцця) адным з першых у Беларусі публічна, з разлікам на шырокія грамадскія колы загаварыў пра трагічны лёс многіх рэпрэсаваных. Праўда, пры гэтым ён выказваў сумненні ў магчымасці хуткага высвятлення глыбінных прычын трагедыі. Больш таго, быў упэўнены, што, як вынікае з кантэксту яго слоў падчас адной гутаркі на пачатку ліпеня 1956 г., жорсткі таталітарызм не спыніў свайго панавання: «Не ўсё яшчэ мы ведаем. Мінуўся дваццаты з’езд партыі, днямі апублікавана пастанова аб пераадоленні культу асобы, а ўсё ж мы яшчэ шмат чаго не ведаем. Не ведаем ні пра Чарвякова, ні пра Жылуновіча, як і пра многіх іншых […] Час не дае гарантыі, што мы дачакаемся раскрыцця тайны, якая цікавіць нас»[27].

З прыведзеных прыкладаў можна ўбачыць, што Якуб Колас заступаўся за людзей, над якімі навіс меч рэпрэсій, у самыя розныя часы. Так, было да г. зв. «вялікага пералому» (1929), у жахлівыя 1930-я гг., падчас германа-савецкай вайны, пасля яе заканчэння і тым больш пасля смерці І. Сталіна.

Нейкага правіла ці хаця б тэндэнцыі Коласавых захадаў залежна ад часу (а сталінізм у розныя гады адрозніваўся) ці ад сацыяльнага статусу або ад стасункаў рэпрэсаванага з народным паэтам не выяўляецца. Якуб Колас складаў пратэкцыю прадстаўнікам самых розных сацыяльных катэгорый грамадзян. У першую чаргу ягоная дапамога датычыла пісьменнікаў і дзеячаў культуры, а таксама сваякоў, сярод якіх былі і новаспечаныя беларускія інтэлігенты, і сяляне. Для паэта галоўным крытэрыем была не дзейнасць чалавека, а каштоўнасць асобы.

Якія ж былі вынікі ягонага ўмяшальніцтва ў лёс рэпрэсаваных? З наяўнай інфармацыі відаць, што яны зусім не адназначныя і падзяляюцца прыкладна пароўну на тры часткі: 1) тыя, хто пасля сло-

ва паэта былі вызвалены; 2) тыя, якім атрымалася дапамагчы часткова; 3) тыя, каму заступніцтва не дапамагло.

Аналіз апісаных выпадкаў не дазваляе ўбачыць пэўную тэндэнцыю, у якіх выпадках можна было разлічваць на поспех. Хіба толькі падчас германа-савецкай вайны ўлада стала больш лаяльнай да сваіх патэнцыйных ахвяр.

Праведзеная ў гэтай рабоце пэўная сістэматызацыя заступніцтваў Якуба Коласа (гл. табліцу) не прэтэндуе на паўнату. Аўтар гэтых радкоў прадставіў толькі той матэрыял, які быў сабраны з адкрытых крыніц. Можна лічыць, што шмат якія выпадкі спробы дапамогі з боку народнага паэта яшчэ чакаюць свайго выяўлення. Той жа дзядзька К. Міцкевіча Язэп Лёсік, тройчы рэпрэсаваны (1922, 1930, 1938), не мог быць пакінуты па-за заступніцкай увагаю нябогі. А колькі тым часам было паламаных лёсаў паплечнікаў Коласа?! Дарэчы, многім іх сем'ям народны паэт аказваў матэрыяльную і маральную падтрымку, што таксама было небяспечна. Не выключана, што многія захады Якуба Коласа ў гэтай справе мелі толькі вусны фармат. Давяраць паперы такія ўчынкі ў той непрадказальны адносна чалавечых лёсаў час было рызыкоўна.

Несумненна, калі б не смерць, з наступленнем «хрушчоўскай адлігі» Пясняр за справу вызвалення і вяртання на Беларусь ахвяраў рэпрэсій узяўся б яшчэ з большым імпэтам. Але і так бачна, што для паэта быў галоўным не палітычны кантэкст, а людскія лёсы.

Трэба сказаць (хаця б для параўнання), што прасіць і тым больш выпрошваць літасці для ахвяр палітычных рэпрэсій у той час не ўяўлялася магчымым нават першым асобам Савецкага Саюза. Варта прыгадаць лёс жонак М. Калініна (арыштавана ў 1938 г.), М. Хрушчова (1943), В. Молатава (1948) – асоб з першага шэрагу кіраўніцтва СССР. Якуб Колас не баяўся сістэмы (хоць і асцерагаўся) ды ішоў насуперак агульнай сацыяльна-палітычнай плыні. І нярэдка паспяхова. Рызыка, якою ён падвяргаў сябе і сваіх блізкіх, як паказала практыка, была апраўданай. Вялікі Паэт і Гуманіст не схібіў сэрцам і душой і здолеў прайсці па вастрыі экзістэнцыяльнага ляза.

Прыклад гэтага Чалавека з вялікай літары – на ўсе часы, у т. л. і для сённяшняга. Фактычна ўказаны аспект дзейнасці Якуба Коласа – гэта яшчэ адна, як сёння ў навуцы модна казаць, стратэгія

выжывання. Альтэрнатыўная і кардынальна нязвыклая – у адрозненне ад паводзін шматлікіх аўтараў даносаў. Стратэгія выжывання – не асабістага, а сацыяльнага парадку.

*Табліца. Устаноўленыя пратэжэ Якуба Коласа і вынікі ягонай пратэкцыі*

| *№ п/п* | *Час* | *Прозвішча, імя ці іншае ўказанне на чалавека* | *Статус* | | | | *Вынік: + / –* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | *сваякі* | *літаратары* | *іншыя інтэлігенты* | *іншыя* | |
| 1. | 1928 | Ф. Аляхновіч | | + | | | – |
| 2. | 1930 | Сёстры і маці Янкі Купалы | | | | + | + |
| 3. | 4.04.1938 | І. Замоцін | | + | | | – |
| 4. | 1938 | А. Каменскі | + | | | | – |
| 5. | Лета 1939 | Кузьма Чорны | | + | | | + |
| 6. | Канец 1939 | А. Уласаў | | + | | | – |
| 7. | Восень 1940 | І. Касяк | | | + | | ? |
| 8. | 1941 | Р. Шырма | | | + | | + |
| 9. | 1941 (?) | Маці Эдзі Агняцвет (сапр. прозвішча – Каган) | | | | + | + |
| 10. | Лета 1944 –1956 | Г. Гарэцкі | | | + | | ± |
| 11. | 1936, 1944 | А. Ус | | | + | | + |
| 12. | Канец 1945 | Настаўнік-«заходнік» | | | + | | ? |
| 13. | Як мінімум увесь 1947 г. | М. Міцкевіч | + | | + | | – |
| 14. | Пасля вайны | А. Лёсік | + | | + | | – |
| 15. | Пасля вайны | У. Міцкевіч | | | + | | + |
| 16. | Каля 1950 | Я. Міцкевіч | + | | | | + |
| 17. | 1951 | А. Звонак | | + | | | ± |
| 18. | Вясна 1952 | У. Чаржынскі | | + | | | ± |
| 19. | ? | Незнаёмая жанчына | | | | + | ? |
| 20. | 1952 | Муж А. Пруднікавай | | + | | | – |
| 21. | 1955 | У. Дубоўка | | + | | | ± |
| 22. | Сярэдзіна 1950-х | Ю. Гаўрук | | + | | | + |

## *Yakub Kolas's Intercession for the Repressed*

The article contains more than 20 known examples of Yakub Kolas's protection of those who had been threatened by the Soviet regime. Yakub Kolas stood up for people in very different times: 1) before the Great Turn (1929), 2) in the context of the terrible 1930s, 3) during the German-Soviet war, 4) after the war, and especially after Stalin's death.

There is no rule or at least a trend of Kolas's intercession, which would depend on the time, on the social status, or on the relations of the repressed with the national poet. Yakub Kolas protected representatives of the most diverse social categories of citizens: writers, different cultural figures, and of course his own relatives among whom there were peasants and also newly-made Belarusian intellectuals. It means that the primary importance for the poet was person itself, not the activities which he or she was engaged.

Kolas's intercession had the desired effect only partially. About a third of Kolas's protégé had been set free after poet's help. About the same number of cases had not had any result.

This aspect of Yakub Kolas's activity is a kind of another survival strategy – not personal, but social one.

## *Заўвагі*

1 Колас Я. Збор твораў : у 20 т. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы. Мінск: Беларус. навука, 2007–2012.

2 Мушынскі М. І. Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа / Навук. рэд. А. М. Макарэвіч. Мінск, 2012. 1127 с.

3 Трафімчык А. На ростанях лёсу паэта і палітыка… Якуб Колас і Панцеляймон Панамарэнка // Дзеяслоў, 2011, № 5. С. 249–262; Трафімчык А. «І думай, браце, аб бядзе». Пра што сведчаць прашэнні Якуба Коласа за рэпрэсіраваных // ЛіМ, 2013, 4 кастр. С. 4.

4 Скаруліс С. «Лістападаўская справа» і Якуб Колас // Полымя, 1992, № 11. С. 217–233.

5 Гл. падрабязней: Гужалоўскі А. Чырвоны аловак: нарысы па гісторыі цэнзуры ў БССР. У 2-х кн. Кн. 1. 1919–1941 гг. Мінск, 2012, с. 85; Платонаў Л. Лёсы: Гісторыка-дакументальныя нарысы аб людзях і малавядомых падзеях духоўнага жыцця ў Беларусі 20–30-х гадоў. Мінск, 1998. С. 232.

[6] Платонаў Р. Як Купала і Колас сталі «ворагамі народа» // Беларуская мінуўшчына, 1998, № 1. С. 23.
[7] Міцкевіч М. Якуб Колас. Кароткі ўспамін // Беларускі сьвет, 1991, № 22. С. 26–27.
[8] Рублевская Л. О цензуре, спиритизме и любви // Беларусь сегодня, 2010, 7 мая. С. 9.
[9] Някляеў У. Праз лес, праз лёс. Папулярны біяграфічны нарыс // Дзеяслоў, 2007, № 4. С. 224–225.
[10] Гл.: Іофе І. «Старый и хитрый враг советской власти», альбо Як палявалі на Якуба Коласа // Роднае слова, 2007, № 12. С. 75.
[11] Гл.: Купала Я. Поўны збор твораў. У 9 т. Т. 9. Кн. 1. Пераклады; Эпістальярная спадчына; Дарчыя надпісы; «Расейска-беларускі слоўнік»; Калектыўнае; Службовыя і асабістыя дакументы. Дадатак. Мінск, 2003. С. 488.
[12] Калубовіч А. Якуб Колас і Янка Купала // Беларуская палічка. [Электронны рэсурс] – 13. 01. 2018. – Рэжым доступу: http://knihi.com/Auhien_Kalubovic/Jakub_Kolas_i_Janka_Kupala.html.
[13] Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. У 2-х кн. Кн. 2. 1939–2009, ч. 2 / уклад. В. Дз. Селяменеў, В. У. Скалабан; рэд. калегія: М. І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск, 2012. С. 319.
[14] Міцкевіч М. К. Пад бацькоўскім дахам. Мінск, 2009. С. 74.
[15] Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, КП-7886.
[16] Успаміны пра Рыгора Шырму // Беларускі партал у Казахстане. [Электронны рэсурс] – 13.01.2018. – Рэжым доступу: http://www.belarus.kz/aktueller/aktueller_articles/4/189.
[17] Ліс А. Цяжкая дарога свабоды: Артыкулы, эцюды, партрэты. Мінск, 1994. С. 388.
[18] Міцкевіч Д. Любіць і помніць. Успамінае сын Якуба Коласа. Мінск, 2000. С. 106.
[19] Гарэцкі Р. Гаўрыла Гарэцкі – прадстаўнік беларускай інтэлігенцыі 20-х гадоў. [Электронны рэсурс] – 13.01.2018. – Рэжым доступу: http://www.homoliber.org/ru/xx/xx010105.html. Дата доступу: 13. 01. 2018.
[20] Гл.: Мушынскі М. І. Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа, с. 1086, 1099, 1101, 1102. Гл. таксама: Гарэцкі, Г. Выбранае; уклад. Р. Гарэцкага. Мінск, 2002. С. 372, 397–401.
[21] Гл.: Мушынскі М. І. Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа. С. 651, 655, 675.
[22] Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. Кн. 2, ч. 2. С. 64.
[23] Гнілазуб В. «У радаводзе Коласа больш за 380 чалавек!» // Беларусь се-

годня. [Электронны рэсурс] – 13.01.2018. – Рэжым доступу: https://www.sb.by/articles/u-radavodze-kolasa-bolsh-za-380-chalavek-.html.

[24] Гл.: Мушынскі М. І. Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа. С. 978.

[25] Азарка Н. Крыж пакаяння: жанчына з Нясвіжа пайшла ў госці да міліцыянера, які ў 1949 г. арыштоўваў яе бабу і дзеда // Наша Ніва. [Электронны рэсурс] – 13.01.2018. – Рэжым доступу: https://nn.by/?c=ar&i=200983.

[26] Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. Кн. 2, ч. 1. 1939–2009 / Дэпартамент па архівах і справаводству Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь [и др.] ; уклад. В. Дз. Селяменеў, В. У. Скалабан ; [рэдкал.: М. І. Мушынскі (гал. рэд.) і інш.]. Мінск, 2011. С. 339–240.

[27] Дуброўскі І. Ісціна ў зернях // Полымя, 1996, № 11. С. 139.

# The Birth of the Belarusian Intelligentsia from the Spirit of Repression*

*Anton Liavitski,*
*Master in History (Munich)*

Talking about the historical experience of national cultures in the early Soviet state (that is, about the situation of intellectuals or, to use the self-description term, the *intelligentsia*) is often linked to the moral imperative which emerged from the intellectual dealing with Stalinists' heritage. Since late 1980s, as the policy provided by Michael Gorbachev actively brought this topic back on the agenda of public discussions, the crucial metaphor used for conceptualization of the historical period between 1917 and 1953 (or more generally for the whole Soviet history) has been «*the street of death*»[1]. However, it might be productive to have a look at this from a different perspective, which would treat the violence (repressions) of the Soviet authorities as a resource of social organization, that is, to illuminate the chances which were available for the social agents.

The Bolsheviks' policy regarding Belarus was elaborated slowly and through sharp struggles[2]. Only on 1 January, 1919 the Belarusian Republic of Soviets and its Government were proclaimed. The national policy of the communist party continues to be a delicate matter: in Belarus it was the conflict between the party's bodies and the forces which attempted to develop the national culture, often in isolation from Russia. This conflict turned out to frame the state's repressive policy throughout the 1920s and to significant extent in the 1930s, as the violence was massively increasing.

Warning about this cruel past[3] acted as a crucial motivation for the Historians who has been inquiring into this experience since the end of the 1980s[4]. However, such way of organizing researches on the topic oc-

* This work was supported by the German Research Foundation (within the Graduate School for East and South Eats European Studies, Munich/ Regensburg).

curs to have some significant disadvantages. The scholars tended to mistake their own language for the reality they were considering. Based on a body of empirical work[5] revealing the first Soviet decade, this paper examines research possibilities which still remain unnoticed.

It is possible by turning to the newest reflections on the social role of violence as such[6]. Usually being treated as an extraordinary situation («*Ausnahmezustand*»), violence is misunderstood. Basically the everyday dynamics always tend to be organized, even under such precarious circumstances as violence (e. g. in a war). It is clear that the everyday strategies of the intellectuals (and of all other targets of the Soviet policy as well) were linked to the nowadays so-called «Soviet repressions»[7]. In some way, the Soviet repressive policy could provide the resource for social organization and self-organization.

It is discussed below, firstly, in regard to the new state organs and practices as a place where the «*logical and symbolical conformism*»[8] was being assembled. Secondly, the paper follows how the repressive policy could be used as a framework of the participation and self-empowerment. Thirdly, it is argued that efforts of mobilization of a «*theoretical group*» (discursively produced by the symbolical struggle examined in the second part) referred to the repressive measures as well. The analytical background of the argument is delivered by Pierre Bourdieu[9], which allows to take the latitudes of social agents into account.

In a bit paradoxical way, it was possible for collective solidarity to emerge from and via the repressive measures made by the Communist Party. Exactly through such actions the very term, the «Belarusian intelligentsia», was finally established and maintained.

In the autumn 1925 a range of events played together in a way that illuminated those specific dynamics of social sorting. The first secretary of the Communist Party of Belarus, Aljaksandr Krynicki, held a lecture for the party's activists in Minsk on 18 September. In the lecture he argued that the formal sovereignty of the Soviet republics (including Belarus) had been only a means of the world revolution. He spoke on the topic of the Belarusian intelligentsia as well: some inner divisions in this social group were discussed, especially much attention was given to the «bourgeois intelligentsia» and how it was to be treated[10].

Meanwhile, it was a general attitude in the Belarusian leadership. At 22th October the Central committee discussed another case linked to the question of managing the cultural policy and the intelligentsia itself. A newspaper published an article about the role that the intelligentsia in Belarus had to play[11]. The party's leadership took this as a threat and challenge. Such feelings were being fed by the OGPU. In the special report «*About the Belarusian socialist revolutionary[12] chauvinistic movement*» (presented to the leadership on 29th October 1925) the agency claimed that the intellectual milieus were working on the plan to conquer the Belarus (culturally, economically and ideologically»)[13].

In response to those developments the Central Committee established a special commission to prove the «*structure*» (*sklad*) of the Belarusian intelligentsia. The commission had been working for several months. It found some «chauvinists» working in the Soviet cultural institutions like newspapers, publishing houses and colleges. It proposed to fire them but it did not come to that, at least in some cases. However, the Central Committee summarized the autumn 1925 in its decision «*About the work among the Belarusian intelligentsia*», adopted in March 1926[14].

These activities of decision making and administrative social sorting made it possible to talk about the Belarusian intelligentsia as some important factor of the Republic's development. Expertise, occupation and acts in this regard were a background in front of which the 12th Congress of the Communist Party of Belarus (5–14.02.1929) disputed the issues of national policy and relationship with intelligentsia and control over it[15]. This discussion opened up the divisions in the leadership regarding those questions[16], what indicated the level of institutionalization and scope of the topic again. The discourse encompassed theoretical horizon, practical experience and individual social relations which in some cases began to function as social sorting as well[17].

Those encounters, conflicts and inner negotiations outlined the set of practices which made the Belarusian intelligentsia to occur important and significant from the view of discourse at least (to say it differently, those practices spoke the Belarusian intelligentsia into existence), nevertheless they intended to keep this supposed hostile group small and oppressed. Anyway, another effect of these mechanics was the rise of the in-

telligentsia in the social communication as a relevant point of reference.

The social communication embraced it or reacted to that. Some definitions and terms which were used in the inner party's negotiations efficiently affected the actual social networking in Minsk, acting as norms of sociability, factors of identity and impulses for individual strategies of networking[18].

Due to communicative processes underlined by range of administrative practices and policies and reflecting deep transformation of post-imperial regime of truth[19] the Belarusian intelligentsia not only grew into the discursive relevance but developed a great level of practical influence as a sign and factor in the going-on social composition[20]. The social agents gained new possibilities of self-empowerment.

As a result, the «Belarusian intelligentsia» came to work as a framework of social identity. More precisely it means that the referring to this term might have acted as a background for social participation.

To be sure, the important role in that played institutional dynamics of Soviet cultural policy. The Soviet «empire» was the first state in the world history that understood itself as a multi-national one. It necessarily led to new design of sovereignty and representation. The new almost-national-states like the Belarusian Republic got a whole set of institutions to call themselves real states. Government, parliamentary representation, media and schools produced a general setting in front of which social groups could organize their claims on participation and responsibility. It was an unpredicted effect of this policy, which was basically not supposed to encourage such goals.

Thus, the above mentioned lecture held by Krynicki (1925) was immediately taken by a group of young Belarusian writers as an occasion to articulate the own view of the group in point marked as the Belarusian intelligentsia. The authors of the letter insisted that the Belarusian intellectuals were committed to their revolutionary mission. The Krynicki's main idea that the division of the intelligentsia in groups depending on their assumed loyalty towards proletarian dictatorship, was denied in the latter. The authors maintained the contribution of the intellectual milieus to the revolution and the proletarian character of their own social group.

The Central Committee was not convinced. The dispute was solved

through an obligatory decision of the highest party's authorities. Yet, the collective action directed against the negative description of the Belarusian intelligentsia remained important. As an experience of group organization and stabilization it did influence the Belarusian society, culture and politics.

The great example of the creative dealing with challenges of the external symbolical (for the time being) violence gives the case of Michas' Zarėcki. Judged because of his novel «Kryvičy» (partly published in April 1929), he was excluded from the party and, therefore, from the participation in the Soviet «building of the new world». Trying to minimize the inflicted damage he not only went on the countryside (for the purpose of contribution to the new agrarian policy)[21]. Another way to redefine himself was re-writing of his main mistake, the roman «Kryvičy». This effort was, however, held as a many-level endeavour of critique against the transformed set-up in the Belarusian literature[22].

After all, efforts of group self-empowerment and mobilization came together in the shadow of repressive policy provided by the authorities in the Soviet Byelorussia. Even though they were not always directly linked to this policy, some significant creative tries to turn the violence around in a possibility and chance (to be sure, a decidedly precarious one), might be hardly denied. It is obvious, anyway, that those administrative restricting measures and responds to them exhibited a complicated interrelationship.

Thus the large-scale conflict was progressing between the intelligentsia and the party. The letter was trying to establish the notion of both kinds of intelligentsia: the proletarian one against the bourgeois one. It was not always clear enough with the aid of what parameters it would be possible to sort them plausibly out. One could find examples of this utterly contradictory dynamic[23].

Since the social space is organized according to the logic of differences that rise to distinctions[24], the crucial question in the struggle over the Soviet Belarus appears to have been the one concerning the mutual demarcation of both imagined groups. Through what communicative or visual references was it possible to convey required belonging to the proletarian intelligentsia? The capacities which the social actors could rely on

in order to produce and define such differences has to be regarded as the decisive factor. After all, it might be argued that the lack of those abilities led to the failed mobilization of group.

The first issue to be solved was the question about how to conceive the role of Russia. The attitudes to the large east neighbour were well known, but not explicit enough interpreted. The ideological struggle in the course of Civil War (1918-1920) was decided to the benefit of the national movements. However, in 1928/1929 this outcome was about to change. New policy of Moscow required a new legitimation, which was finally provided in the late 1930s. The symbolical dispute in the Belarus between 1927 and 1929 opened up this new development. Among some other controversies the so-called theatre discussion played a significant part on this.

In the theatre discussion some writers argued against the dependency of the Belarusian culture from the Russian one, which was perceived as a key feature of the culture policy in the Soviet Belarus. In 1927 and then again in 1928 it was shoved with aid of the theatres' repertoire that was dominated by the plays translated from Russian. Zmicer Žylunovič, Michas' Zarėcki, Todar Hlybocki emphasized that for sake of the normal development of the Belarusian culture it was critically necessary to cultivate contacts with the world culture and to provide the conditions for the autonomous growth of the national dramaturgy.

The initiators of this discussion relied on the program of the culture policy in the Soviet state implemented in the early 1920s, whilst the party set completely inverse logic of cultural management in motion. The onetime legitimate position was now presented as the «*theory of the national self*»[25], which again was situated as an important distinction of the hostile bourgeois forces. Michas' Zarėcki ought to define himself while the public meeting of a party unit he belonged to. In the discussion the «*theory of the national self*» was used as an indication of his essential hostile attitude. Zarėcki failed to convince his comrades that the «*national self*» was not a theory but much more a system of pictures. Finally he had to confess his faults.

The biography of Zarėcki, his literary career is a great example of how distinctions work as a base of the social space. Gun-Brit Kolher showed up the ways the writer was acting in the 1920s. His «body policy» was

сама ступені іх удзелу ва ўсталяванні і замацавання гэтай улады з'яўляюцца дыскусійнымі. Так, на сённяшні дзень існуе два асноўныя погляды (стэрэатыпы) адносна становішча яўрэяў у 1939–1941 гг.

*I. Яўрэі – супрацоўнікі НКУС і здраднікі палякаў-суседзяў.*

Гэтая версія канчаткова сфарміравалася ў ходзе вострай дыскусіі пасля выхаду кнігі Яна Томаша Гроса «Суседзі: гісторыя знішчэння габрэйскага мястэчка»[1] (2000 г. – на польскай мове, 2001 г. – у перакладзе на англійскую[2]). Як вядома, у сваім даследаванні Я. Т. Грос выкрыў гісторыю крывавага знішчэння яўрэйскай супольнасці мястэчка Ядвабнэ (на той момант – тэрыторыя Беластоцкай вобласці БССР), здзейсненага ў чэрвені 1941 г. рукамі суседзяў-палякаў. Манаграфія выклікала працяглыя і бурныя дыскусіі[3], якія выйшлі па-за межы Польшчы[4]. Асноўны контраргумент апанентаў Я. Т. Гроса наступны – яўрэйскае насельніцтва само справакавала агрэсію палякаў, бо ў верасні 1939 г. яўрэі найбольш радасна, у параўнанні з іншымі этнічнымі групамі рэгіёну, сустракалі Чырвоную армію, а ў далейшым шчыра і самааддана з ёй супрацоўнічалі, у т. л. удзельнічалі ў савецкіх рэпрэсіях супраць польскага насельніцтва[5]. Такім чынам, яўрэі ў 1939-1941 гг. у дачыненні да сваіх суседзяў-палякаў выступалі не проста ў ролі здраднікаў, але і ў ролі катаў.

*II. Яўрэі – ахвяры савецкага рэжыму.*

Разам з гэтым сёння існуе іншы падыход, які прадстаўляе яўрэяў выключна ў ролі ахвяр[6]. Паводле яго, 1939–1941 гг. – гэта пачатковы перыяд духоўнага знішчэння польскага яўрэйства, калі пад ціскам савецкіх рэпрэсій яны пазбаўляліся свайго традыцыйнага ладу жыцця і звязаных з ім этнічнай ідэнтычнасці і самабытнасці. За гэтым у чэрвені 1941 г. разам з уварваннем нацыстаў пачаўся наступны этап – фізічнае вынішчэнне польскага яўрэйства. Такім чынам, для мясцовых яўрэяў савецкі перыяд – гэта фактычна пачатак Халакосту, у якім яны не могуць выступаць ані ў якой іншай ролі акрамя ролі архвяр.

Дык кім жа з'яўляліся ўсходнепольскія яўрэі ў 1939–1941 гг. – катамі ці ахвярамі? Паспрабуем адказаць, абапіраючыся на матэрыял па гісторыі яўрэйскага насельніцтва Заходняй Беларусі.

У параўнанні з яўрэямі ўсходняй часткі БССР, польскія яўрэі ў значна меншай ступені зазналі акультурацыю. На працягу 1920–1930-х гг. XX ст. яны здолелі захаваць свае традыцыйныя інстытуты, рэлігію і жылі ў звычайных сацыяльна-эканамічных умовах, займаючыся гандлем і рамяством. Аднак не ў апошнюю чаргу гэтаму паспрыяла тое, што ў польскім грамадстве міжваенных часоў, дзе вялікі ўплыў мела ідэалогія нацыяналізму, яўрэі афіцыйна былі чужакамі. Іх не прымалі на дзяржаўныя пасады, дзейнічаў прынцып *numerus clausus** пры паступленні яўрэйскага юнацтва ў польскія ўніверсітэты, а ў грамадстве панаваў антысемітызм.

Відаць, менавіта з гэтай прычыны сярод яўрэйскага насельніцтва Польшчы былі распаўсюджаны камуністычныя ідэі і сімпатыі да СССР. Так, у міжваенны час шматлікія прадстаўнікі яўрэйскай моладзі ўступалі ў шэрагі КПЗБ** альбо нелегальна ўцякалі ў СССР[7]. Былы жыхар мястэчка Жалудок Беластоцкай вобл. Мірон Мардуховіч, бацькі якога таксама лічылі Савецкі Саюз ідэалам раўнапраўнай дзяржавы, прыгадваў: «У нашай сям'і абмяркоўвалі вялікае шчасце некаторых знаёмых, якім давялося перамахнуць праз мяжу і перабрацца ў Расею (sic!). Праўда, аб іх далейшым лёсе нічога не было вядома, з Расеяй не было сувязі, але ці мела гэта значэнне: галоўнае, што яны ТАМ (sic!) І ад гэтага бязмерна шчаслівыя. [...] Праўда, часам даходзілі чуткі, што там лютуе тэрор, людзей расстрэльваюць без суду і адпраўляюць у Сібір, [...] але ў нашай сям'і і сем'ях сяброў у гэта не верылі і казалі, што гэта выдумкі ворагаў Савецкага Саюза»[8].

Такім чынам, калі савецкая ўлада нарэшце прыйшла, то менавіта мясцовыя яўрэі сустракалі яе найбольш радасна. І прычына тут была не толькі ў тым, што, як пісаў Д. Левін, у параўнанні з нацысцкім антысемітызмам, савецкая ўлада ў склаўшыхся ўмовах была для мясцовых яўрэяў «найменшым злом»[9]. Прычынай радасці значнай

---

* Існаванне ліміту на колькасць студэнтаў яўрэйскага паходжання ва ўніверсітэце. У Расійскай імперыі гэта называлася «працэнтнай нормай».

** КПЗБ – Камуністычная партыя Заходняй Беларусі. Створана ў 1923 г., а ў 1938 г. зліквідавана рашэннем Комінтэрна. У Польшчы дзейнічала падпольна.

часткі мясцовага яўрэйскага насельніцтва таксама было яго прыязнае стаўленне да СССР, тым больш, што савецкая прапаганда* абяцала выкараненне антысемітызму і роўнасць, менавіта тое, чаго польскім яўрэям не хапала ў міжваеннай Польшчы.

З прыходам савецкай улады заходнебеларускія яўрэі сапраўды атрымалі доўгачаканую роўнасць**. Пік гэтай з'явы прыйшоўся на першыя два месяцы пасля ўступлення Чырвонай арміі, і праявіўся ў надзвычай актыўным удзеле мясцовага яўрэйскага насельніцтва ў арганізацыі часовых органаў савецкай улады (Часовых управаў і атрадаў народнай міліцыі), якія замянілі былую польскую адміністрацыю.

На тое, што менавіта мясцовыя яўрэі найбольш актыўна адгукнуліся на заклік савецкіх агітатараў «браць уладу ў свае рукі» ўказваюць шматлікія крыніцы. У прыватнасці, першы сакратар КП(б)Б П. К. Панамарэнка ў сваім дакладзе «Аб Заходняй Беларусі» (верасень 1939 г.) наступным чынам апісаў байца народная міліцыі: «Мы прыехалі ў Навагрудак, бачым, банк ахоўвае хлопец – яўрэй гадоў 19-ці, прыладзіўшы да палкі штык яшчэ з 1914 года пражавелы, і вось пільнуе»[10]. Былы жыхар Навагрудка Дж. Каган гэтаксама зазначаў, што сярод людзей, якія замянілі палякаў у кіраванні горадам, яўрэі значна пераважалі. Паколькі многія беларусы не былі «да гэтага гатовыя», яўрэі апынуліся «на вяршыні»[11]. Падобная этнапалітычная сітуацыя склалася не толькі ў Навагрудку[12].

Цікава, што сярод тых яўрэяў, што пайшлі працаваць у савецкую адміністрацыю былі не толькі камуністы і тыя, хто сімпатызаваў

---

* У якасці прыкладу можна прывесці справаздачу савецкага яўрэя і агітатара з БССР, які ў кастрычніку 1939 г. быў накіраваны ва ўжо далучаную Заходнюю Беларусь для працы сярод яўрэйскага насельніцтва. Ён апісаў, з якім здзіўленнем і павагай на яго глядзелі местачковыя яўрэі, калі даведаліся, што працуе дырэктарам школы. У польскіх рэаліях гэта было немагчыма // Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей: НАРБ). Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 13974. Арк. 134. Такі ж эфект на мясцовых яўрэяў аказваў від савецкіх яўрэяў-афіцэраў. Гл.: Kutz M. If, By Miracle. Toronto, 2013.

** Таксама былі забаронены ўсе праявы антысемітызму.

савецкаму строю, але і прадстаўнікі заможных слаёў, таксама бундаўцы і сіяністы. Былы член партыі Паалей-Цыён 19-гадовы Саул Маньскі, папярэдне закапаўшы ў бляшанай пасудзіне свой сіяніцкі сцяг, уступіў у народную міліцыю роднага горада Ліда па запрашэнні сябра[13]. У гэты ж час у м. Жалудок, што за 40 км ад Ліды, ужо згаданы яўрэйскі хлопчык Мірон Мардуховіч назіраў за сваім бацькам, таксама былым сіяністам, а пасля 17 верасня 1939 г. ужо сябрам мясцовай Народнай управы, які патруляваў мястэчка «з вялікім карабінам, праўда, без патронаў»[14].

Такім чынам, увосень 1939 г. яўрэі былі шырока прадстаўлены ў часовай савецкай адміністрацыі і яе сілавых органах. У якасці постфактума, у 1940 г. сакратар Ломжынскага райкама Беластоцкай вобл. характарызаваў сітуацыю восені 1939 г. наступным чынам: «…Напачатку ў нас атрымаўся асабліва выразны ўхіл […] з прыходам савецкай улады яўрэі адразу прыйшлі на дапамогу ў правядзенні мерапрыемстваў партыі і ўрада. Натуральна, за іх ўхапіліся»[15].

Безумоўна, уступленне асобных прадстаўнікоў яўрэйскага насельніцтва ў часовыя дзяржаўныя органы ўлады значна падвышала іх сацыяльны статус і матэрыяльнае становішча. Дадзены працэс ішоў паралельна з падзеннем сацыяльнага статусу палякаў. У гэтых умовах некаторыя яўрэі, афіцыйна атрымаўшы ўладу, не стрымлівалі сябе ў праявах помсты палякам за старыя, нярэдка асабістыя крыўды. Так, вышэйзгаданы Саул Маньскі (г. Ліда) апісваў уласную радасць ад удзелу ў арышце свайго былога школьнага настаўніка, паляка-антысеміта[16]. А былой жыхарцы Гродна польцы Марыі Трахімовіч на доўгія гады ўрэзалася ў памяць наступная сцэна: «Яўрэй Абрашкін ішоў з рускімі (sic!) і паказваў на палякаў, якія ўдзельнічалі ў абароне горада* ад Чырвонай арміі»[17]. Паляк Адам Шыме, тата якога быў асаднікам у Навагрудскім пав., прыгадваў арышт свайго бацькі чырвонаармейцамі, якіх прывеў мясцовы яўрэй[18]. Падобных сведчанняў існуе вялікае мноства[19].

---

* Вядома, што абарона Гродна польскай арміяй і жыхарамі горада была найбольш працяглай і жорсткай у гісторыі польскага паходу Чырвонай арміі ў верасні 1939 г.

Абвастрэнне міжэтнічных стасункаў таксама адлюстравалася ў справаводстве мясцовай адміністрацыі, напр., у стэнаграме нарады сакратароў райкамаў Заходняй Беларусі чытаем (з выступу сакратара Чыжэўскага райкама Беластоцкай вобл.): «Асабліва яўрэйскае насельніцтва распусцілася. Яўрэяў дужа там [у Польшчы] прыгняталі, па некаторых вуліцах нават не дазвалялі хадзіць, антысемітызм такі быў. І пасля вызвалення яўрэі сталі накідвацца на ўсіх палякаў, таму што палякі ў свой час ціснулі іх [яўрэяў] усіх без выключэння»[20].У цэлым сітуацыю, што склалася ўвосень 1939 г. выразна характарызавалі словы, кінутыя яўрэем паляку: «Вы хацелі Польшчу без яўрэяў, а зараз у вас ёсць яўрэі без Польшчы»[21].

Перыяд 1939–1941 гг. быў вельмі дынамічным, і ўжо ўзімку 1940 г. вышэйазначаная сітуацыя моцна змянілася . У студзені 1940 г. пачалася адпраўка ў далучаныя вобласці тысяч «надзейных» савецкіх работнікаў (іх празвалі «ўсходнікамі»), якія б маглі ўзначаліць новастварaныя там дзяржаўныя інстытуцыі і паспрыяць найхутчэйшай саветызацыі рэгіёну[*]. Натуральна, гэтая людзі выціскалі з кіраўнічых пасад тых, хто апынуўся там адразу пасля ўсталявання савецкага рэжыму ў верасні 1939 г. Пачаліся «чысткі» апарату мясцовага кіравання. Выяўляліся шматлікія выпадкі «захопу ўлады варожымі элементамі». Так, супрацоўнік ляснога аддзела Часовай управы г. Пружаны Хайнін спрабаваў вылучыць на кіраўнічыя пасады сваіх сяброў з неадпаведным сацыяльным мінулым – былога гаспадара кравецкай майстэрні Раўніцкага і бундаўца Глейзера[22]. Таксама ў студзені 1940 г. было «нечакана» заўважана, што ў адміністрацыі Баранавіцкага абласнога гандлёвага аддзела працавалі былыя саўладальнікі скураной фірмы, а таксама сіяністы і дачка буйнога фабрыканта[23] і г. д. Такім чынам,

---

* Дадзеная з’ява на прыкладзе Заходняй Украіны выдатна апісана ў артыкуле: Борисенок Е. Ю. Кадровая политика большевиков в западных областях Украины в 1939-1941 гг. // Западная Белоруссия и Западная Украина в 1939–1941 гг.: люди, события, документы. СПб., 2011. С. 177–198. Таксама гл.: Филлипов С. Г. Деятельность органов ВКП(б) в западных областях Украины и Белоруссии в 1939–1941 гг. // Репрессии против поляков и польских граждан. [Электронны рэсурс] – 01.06.2017. – Рэжым доступу: http://old.memo.ru/history/POLAcy/Index.html.

хаця напачатку заходнебеларускія яўрэі былі шырока прадстаўлены ў адміністрацыі рэгіёну, у т. л. у яе рэпрэсіўным апараце, то на працягу зімы 1940 г. яны страцілі свае пазіцыі. Новай элітай у далучаным рэгіёне сталі «надзейныя» выхадцы са «старых» савецкіх абласцей.

Савецкія рэпрэсіі пачаліся ў Заходняй Беларусі адразу пасля ўступлення Чырвонай арміі. Яны былі накіраваны на шырокі сацыяльны слой і датычылі памешчыкаў, былой польскай адміністрацыі, асаднікаў; а таксама буйных банкіраў і фабрыкантаў, актыўных сяброў нацыянальных арганізацый і партый, бежанцаў, духавенства*. Сярод апошніх катэгорый даволі шмат было якраз яўрэяў.

Аператыўныя зводкі НКУС БССР першых месяцаў савецкай улады ў далучаным рэгіёне захоўваюць шматлікія матэрыялы пра арышты сяброў «фашысцкіх арганізацый» і «варожых элементаў». І хаця арышту падвяргаліся пераважна актыўныя лідэры, але няспынныя (і, нярэдка, неаднаразовыя**) выклікі ў НКУС на допыты вельмі многіх мясцовых жыхароў напоўнілі грамадства Заходняй Беларусі страхам. Так у сваіх мемуарах М. Куц (г. Нясвіж) апісаў арышт сваёй маці і той жах, які ў сувязі з гэтым ахапіў усю сям'ю. Ён таксама ўспамінаў: «Атрымаў распаўсюд сумны жарт, што той, хто не быў у турме, будзе ў ёй, а той, хто быў, ніколі не забудзе аб гэтым. Шмат яўрэяў у нашым горадзе былі абвешчаны "ворагамі народа", а некаторыя павесіліся, каб пазбегнуць арышту»[24].

---

* Пры гэтым паўсюдна мелі месца выпадкі, калі арыштаваныя адносіліся адразу да некалькіх «варожых» катэгорый: заможны купец Ейна Зільберштэйн, арыштаваны 9 кастрычніка 1939 г. у м. Сокалы (Ломжынскі пав.), з 1935 па 1939 гг. адначасова з'яўляўся старшынёй мясцовай сіяніскай арганізацыі (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 14616. Арк. 22).

** Жыхар м. Давыд-Гарадок Хаім Фарбэр успамінаў, што ў той час некаторыя з яго былых аднакласнікаў былі арыштаваны як сябры сіяніскіх арганізацыі. Нарэшце, ён сам быў выкліканы ў мясцовы аддзел НКУС на допыт, які пачаўся з роспытаў пра яго знаёмага. Пасля гэтага супрацоўнік НКУС «нечакана пачаў новую сесію пытанняў: вы ведаеце Мендэля Крафчыка, Арку Ліфшыца, Берла Рымара, а Хаіма Баранчыка?» Пасля заканчэння допыту Хаім Фарбэр атрымаў квіток да Пінска і выклік у абласны аддзел НКВД на наступную сесію допыту. (Farber C. Memories of World War II in the Russian Army. New York, 2006. P. 6–7).

Сёння складана назваць дакладную лічбу арыштаваных жыхароў Заходняй Беларусі. Гісторыкі называюць розныя лічбы ад 130 тыс.[25] да 95,5 тыс. чал.[26]. Сярод яўрэйскага насельніцтва за перыяд 1939–1941 гг. было арыштавана не менш за 23 028 чал. (12 695 – у Заходняй Беларусі і 10 333 – у Заходняй Украіне)[27].

Пачынаючы з зімы 1940 г., савецкая ўлада пачала звяртацца да іншага метада вырашэння праблемы «ворагаў» – да дэпартацый. У Заходняй Беларусі прайшлі чатыры хвалі дэпартацый: 1) у лютым 1940 г. (закранула найперш асаднікаў і памешчыкаў); 2) у красавіку 1940 г. (высланы прадстаўнікі польскіх палітычных і эканамічных эліт); 3) у чэрвені 1940 г. (дэпартаваны бежанцы); 4) у чэрвені 1941 г. (высланы асобы, якія падлягалі дэпартацыі, але яе ўдавалася пазбегнуць). З іх найбольш закранула польскае яўрэйства трэцяя дэпартацыя. У чэрвені 1940 г. былі дэпартаваны бежанцы з заходніх польскіх рэгіёнаў, што апынуліся пад нямецкай уладай. Сярод іх абсалютную большасць складалі яўрэі*, якія ратаваліся ад нацысцкага антысемітызму. Усяго ў чэрвені 1940 г. толькі з Заходняй Беларусі ў спецпаселішчы Сібіры і Далёкага Усходу былі дэпартаваны 23 057 бежанцаў[28].

Жыццё дэпартаваных спецпасяленцаў характарызавалася непрыдатнымі ўмовамі пражывання, голадам, холадам, цяжкай фізічнай працай, хваробамі, адсутнасцю належнай медыцынскай дапамогі і г. д. Але, нягледзячы на ўсе жахі жыцця ў спецпаселішчы, менавіта гэтай катэгорыі заходнебеларускіх яўрэяў было наканавана пазбегнуць Халакосту. Часта мемуарысты адкрыта выказваюць шкадаванні аб тым, што іхнія сем'і не былі дэпартаваны ў 1940 г., бо гэта дало б шанс перажыць Другую сусветную вайну. Былы жыхар г. Навагрудка спадар Любаў наступным чынам ахарактарызаваў дэпартацыю бежанцаў у чэрвені 1940 г.: «Тое, што здавалася трагедыяй, праз некаторы час сталася благаслаўленнем»[29]. Паводле Я. Т. Гроса, з агульнай колькасці дэпартаваных з Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ў 1939–1941 гг. 52 % былі палякамі; 30 % – яўрэямі; 18 % – украінцамі, беларусамі і прадстаўнікамі іншых этнічных груп[30].

---

* Каля 84 % дэпартаваных гэтай «партыі» складалі яўрэі (Будницкий О. Слишком поляки для Советов, слишком евреи для поляков: польские евреи в СССР в 1939–1945 // Ab Imperio. 2015, № 4. С. 222).

Трэба адзначыць, што ад савецкіх рэпрэсій у далучаным рэгіёне ў 1939–1941 гг. найбольш пацярпела менавіта польскае насельніцтва*. Аднак, хаця колькасна мясцовыя яўрэі састаўлялі значны адсотак ад агульнай колькасці ахвяр савецкіх рэпрэсій у Заходняй Беларусі**, трэба мець на ўвазе, што яўрэйскае насельніцтва з’яўлялася этнічнай меншасцю і складала па розных сведчаннях не больш за 8–9 % усіх жыхароў[31].

Такім чынам, становішча яўрэйскага насельніцтва Заходняй Беларусі змянялася на працягу 1939–1941 гг. пад уздзеяннем пераменаў у савецкай нацыянальнай і сацыяльнай палітыцы. Так, у першыя месяцы савецкай улады на хвалі агульнага энтузіязму мясцовае яўрэйства прыняло актыўны ўдзел у працы Часовых управаў і атрадаў народнай міліцыі і выступала хутчэй у ролі катаў. Служба ў органах улады давала не толькі права на арышты, але і абавязвала змагацца з праціўнікамі новага рэжыму, сярод якіх было нямала палякаў. Актыўнасць асобных яўрэяў выклікала ў польскім грамадстве нянавісць да этнічнай групы і прагу рэваншу. Аднак пачынаючы са студзеня 1940 г., калі ў рэгіён прыехалі «ўсходнікі», становішча яўрэйскай супольнасці пачало пагаршацца. У чэрвені 1940 г. многія з яе прадстаўнікоў былі арыштаваны і дэпартаваны. У сувязі з гэтым былы жыхар м. Мір Дж. Суцін прыгадваў, што хаця першымі рэпрэсаванымі былі польскія патрыёты і памешчыкі, тым не менш

* Так, у першыя месяцы савецкай улады (верасень-снежань 1939) у Заходняй Беларусі з 8818 арыштаваных налічвалася 2350 беларусаў, 652 яўрэі, 517 рускіх і 4845 палякаў. Гл.: Таблица 8. Массовые операции в западных областях. Национальный состав арестованных за сентябрь – декабрь 1939 г. // Репрессии против поляков и польских граждан. [Электронны рэсурс] – 07.06.2017. – Рэжым доступу: http://old.memo.ru/history/POLAcy/TAB5-12.htm. Аналагічныя суадносіны арыштаваных па нацыянальнасці склаліся ў студзені-траўні 1941 г. Гл.: Таблица 7. Массовые операции в западных областях. Национальный состав арестованных за январь – май 1941 г. // Репрессии против поляков и польских граждан. [Электронны рэсурс] – 07.06.2017. – Рэжым доступу: http://old.memo.ru/history/POLAcy/TAB5-12.htm.

** Сярод ахвяр рэпрэсій як за верасень-снежань 1939 г., так і за студзень-травень 1941 г. колькасна яўрэі склалі толькі 7 %.

вельмі хутка ўсе ўсвядомілі, што неабавязкова быць польскім патрыётам, каб аднойчы трапіць за краты[32].

Безумоўна, прапанаваная карціна дынамікі сацыяльных і нацыянальных змен у Заходняй Беларусі не пазбаўлена абагульненняў і пэўных спрашчэнняў, аднак яна дакладна ўказвае на парадаксальнае становішча мясцовага яўрэйскага насельніцтва, якое ў азначаны час апынулася ў ролі і катаў, і ахвяр савецкага рэжыму, а, па сутнасці, так і не стала ў поўнай ступені ні тымі, ні іншымі.

### *Jewish population of Western Belarus as victims and executioners (1939–1941)*

The discussions on the nature of inter-ethnic relations, and the degree of the various ethnic groups' engagement in the process of establishing the Soviet regime in the Western Belarus territory in 1939–1941 do not lose its relevance. Dividing the local population on the ethnical basis, we can conclude, that while the Polish population certainly suffered from the Soviet repression a lot; and while Belarusians suffered from repression significantly less; the local Jews were victims and executioners at the same time. This article deals with highlighting of that phenomenon basing both on personal and Soviet archival accounts.

### *Заўвагі*

1 Gross J. T. Sąsiedzi. Historia zagłady żydowskiego miasteczka. Sejny, 2000.

2 Gross J. T. Neighbors: The Destruction of the Jewish Community in Jedwabne, Poland. Princeton, NJ, 2001.

3 Niekrasz L. Z. Operacja «Jedwabne»: mify i fakty. Wrocław, 2001; Kleczewski Z. Wielkanocna spowiedź antysemity. Łomża, 2001; Wokół Jedwabnego: T. 1: Studia. Red. P. Machcewicz, K. Persak. Warszawa, 2002; Wokół Jedwabnego: T. 2: Dokumenty / Red. P. Machcewicz, K. Persak. Warszawa, 2002; Gross J. T. Wokół «Sąsiadów»: polemiki i wyjaśnienia. Sejny, 2003; Тамсама гл.: The Neighbors Respond: The Controversy over the Jedwabne Massacre in Poland / Ed. by A. Polonsky, J. Michlic. Princeton, N. J., 2004; Shared History – Divided Memory – Jews and Others in Soviet-Occupied Poland, 1939–1941 / ed. by E. Barkan, E. A. Cole, K. Struve. Leipzig, 2007; Rethinking Poles and Jews:

Troubled Past, Brighten Future / Ed. by R. Cherry, A. Orla-Bukowska. Lanham, Maryland, 2007; Bikont A. My z Jedwabnego. NY, 2015.

[4] Варта адзначыць, што ў вельмі хуткім часе тое грамадскае ўзрушэнне, якое выклікала манаграфія Я. Т. Гроса ператварылася ў прадмет самастойных даследаванняў: Яновский М. Едвабне: 10 июля 1941 года: Дискуссия о событиях страшного дня. [Электронны рэсурс] – 11.02.2015. – Рэжым доступу: http://carnegieendowment.org/files/ProetContra_52_144-164-NEW.pdf; Jankowski R. Jedwabne: spór historyków wokół książki Jana T. Grossa «Sąsiedzi» Warszawa, 2002; Szmagalska K. The Refusal to Mourn: Confronting the Facts of Destruction of the Jewish Community in Jedwabne // Diaspora and Memory: Figures of Displacement of Contemporary Literature, Art and Politics. 2006. Nr 13. P. 125–136.; Karpiński M. M. Thou shalt not kill: the impact of the Jedwabne affair on Polish perceptions of history and concepts of responsibility and redemption: Thesis (M. A.). Carleton University, 2006.

[5] Rudling A. Bogdan Musiał and the Question of Jewish Responsibility for the Pogroms in Lviv in the Summer of 1941 // East European Jewish Affairs. 2005. Nr 35. June. P. 69–89.; Jasiewicz K. Rzeczywistość sowiecka 1939–1941 w świadectwach polskich żydów. Warszawa, 2009; Wierzbicki M. Polacy i żydzi w zaborze sowieckim: stosunki polsko-żydowskie na ziemiach północno-wschodnich II RP pod okupacją sowiecką (1939–1941). Warszawa, 2007.

[6] Pinchuk B.-C. Shtetl Jews under Soviet Rule: Eastern Poland on the Eve of the Holocaust. Oxford, 1990; Levin D. The Lesser of Two Evils: Eastern European Jewry Under Soviet Rule, 1939–1941. Philadelphia, 1995; Bender S. The Jews of Białystok during World War II and the Holocaust. Waltham, 2008; Bauer Y. Death of the Shtetl. New Heaven, 2009.

[7] Прыхільнасць віленскай яўрэйскай моладзі з небагатых сем'яў да СССР апісана ва ўспамінах Хаіма Градэ. Гл.: Граде Х. Мамины субботы: Сборник рассказов. Москва, 2012.

[8] Мардухович М. Местечко Желудок // Желудок: память о еврейском местечке. Москва, 2013. С. 288–289.

[9] Levin D. The Lesser of Two Evils…

[10] НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. спр. 14567. Арк. 19.

[11] Interview with Jack Kagan. RG-50.149*002. United States Holocaust Memorial Museum (далей – USHMM). Part 2, 00:05:20.

[12] Таксама і ў Радуні «міліцыя была сфарміравана з мясцовых жыхароў, пераважна з яўрэяў». Гл.: Aviel A. A village named Dowgalishok. The Massacre at Radun and Eishishok. London, 2006. P. 57.

[13] Manski S. With God`s Help. Madison, Wisconsin, 1990. P. 30.

[14] Мардухович М. Местечко Желудок... С. 295.

[15] НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 16767. Арк. 40.
[16] Manski S. With God`s Help... P. 30.
[17] Interview with Maria Trachimovicz. RG-50.488*0190. USHMM. 00:16:20.
[18] Interview with Adam Szyme. RG-50.030*0784. USHMM. 1:08:01.
[19] Гл., напрыклад: Syska, Barbara J. RG-50.030*0770. USHMM; Czyż, Mieczysław. RG-50.488*0162. USHMM; Barczyńska, Lucyna. RG-50.488*0254. USHMM; Dackiewicz, Włodzimierz. RG-50.488*0051. USHMM.
[20] НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 16767. Арк. 111.
[21] Цыт. па: Gross J. T. Revolution from Abroad: The Soviet Conquest of Poland's Western Ukraine and Western Belorussia. Princeton, 2003. P. 33.
[22] НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 14616. Арк. 154.
[23] Расійскі Дзяржаўны архіў сацыяльна-палітычнай гісторыі. Ф. 17. Воп. 22. Спр. 233. Арк. 27-28.
[24] Kutz M. If, By Miracle… P. 17.
[25] Gross J. T. Revolution from Abroad… P. 15.
[26] Горланов О. А., Рогинский А. Б. Об арестах в западных областях Белоруссии и Украины в 1939–1941 гг. // Репрессии против поляков и польских граждан. [Электронны рэсурс] – 07.06.2017. – Рэжым доступу: http://old.memo.ru/history/POLAcy/Index.htm.
[27] Тамсама.
[28] Толочко Д. Еврейские беженцы из Польши в БССР (сентябрь 1939 – июнь 1941 г.) // Диаспоры. Независимый научный журнал. 2006, № 1. С. 194.
[29] Lubow G. Escape: Against All Odds: A Survivor`s story. Lincoln, 2004. P. 6–7.
[30] Gross J. T. Revolution from Abroad... P. 23.
[31] Pinchuk B.-C. Shtetl Jews under Soviet Rule...
[32] Sutin J., Sutin R. Jack and Rochelle: A Holocaust Story of Love and Resistance. Minneapolis, 1995. P. 23.

## Карательные операции НКВД БССР (23–30 июня 1941 г.)

*Игорь Кузнецов,*
*канд. ист. наук (Минск)*

Предмет авторского исследования – массовые расстрелы заключенных НКВД и НКГБ, осуществлявшиеся во внесудебном порядке в прифронтовой полосе в условиях приближающихся войск противника в июне 1941 г.

В официальных документах НКВД эти действия именовались как «разгрузка тюрем» или «убытие по 1-й категории». Расстрелы преимущественно проводились в тюрьмах, но известны многочисленные случаи, когда расстрелы происходили при конвоировании задержанных и подозреваемых по «контрреволюционным» статьям. Массово подобная практика применялась в ряде западных областей Украинской ССР, Белорусской ССР и в прибалтийских советских республиках, которые были быстро заняты немецкими войсками. Подобная практика применялась также в РСФСР и Карело-Финской ССР во время прорывов немецких войск.

Одна из самых мрачных страниц эвакуации тюрем западных областей – незаконные расстрелы заключенных. Нигде в документах цель этих расстрелов не сформулирована в явном виде. Фактически она состояла прежде всего в том, чтобы не оставить противнику живых свидетелей преступлений НКВД и советского режима, как в довоенное время, так и в дни войны.

Для того, чтобы оценить масштабы этой трагедии необходимо привести данные о количестве тюрем и исправительно-трудовых колоний НКВД БССР[1] .

*Таблица 1. Тюрьмы и исправительно-трудовые колонии НКВД БССР (июнь 1941 г.)*

| *Тип тюрем и исправительно-трудовых колоний* | *Общее количество* | *Фактически содержалось заключенных* |
|---|---|---|
| Следственные и срочные тюрьмы | 33 | 26 237 |
| Исправительно-трудовые колонии из них: | 24 | 77 380 |
| Сельскохозяйственные | 3 | 6 250 |
| Промышленные | 7 | 19 580 |
| Особого строительства | 14 | 48 950 |
| Трудовые колонии для несовершеннолетних | 4 | 2 600 |
| Всего: | 61 | 103 617 |

В связи с быстрым продвижением немецких войск советское руководство осознало, что необходимо принимать срочные меры по вывозу заключенных. 23 июня 1941 г. нарком Государственной Безопасности СССР В. Меркулов отправил директиву:

«НКГБ – тов. Мешик Минск. НКГБ – тов. Цанава, Рига, НКГБ – тов. Шустину Талинн, НКГБ – тов. Кумм Петразаводск, НКГБ – тов. Баскакову Мурманск, УНКГБ – тов. Ручкину Ленинград – тов. Куприну

Предлагаю Вам:

1. Проработать вопрос о вывозе подавляющего числа арестованных, числящихся за НКГБ, НКВД и прокуратурой. Сообщите общее количество имеющихся у Вас арестованных, с указанием – сколько и за какими органами числится и какое количество арестованных, по Вашему, следует вывести […]

2. Примите меры к отбору из числа архивных дел наиболее важных, которые также должны быть Вами направлены в Москву, в адрес 1-го спец. отдела НКВД СССР.

3. Рассмотрите дела на всех имеющихся у Вас арестованных органами НКГБ и составьте списки на тех, которых Вы считаете целесообразным расстрелять.

В списках укажите имя, отчество, фамилию, год рождения, последнюю должность или место работы перед арестом, а также краткое содержание обвинения, с указанием сознался ли арестованный. Указанные списки вышлите не позднее 23 июля»[2].

Но к 4 июля практически вся Литва, Западная Украина и Западная Беларусь уже были заняты немцами. Не найден ни один директивный документ о порядке эвакуации тюрем с этих территорий, которая в ряде случаев сопровождалась физической ликвидацией заключенных. Известно лишь, что ЦК КП(б)Б весьма оперативно, 23 июня 1941 г., издал постановление о срочном приведении в исполнение приговоров в отношении заключенных, осужденных к высшей мере наказания. Реально белорусские тюрьмы начали «разгружать» еще раньше.

По данным исследователей, самый ранний документ НКВД о порядке эвакуации заключенных – это докладная записка от 4 июля 1941 г. замнаркома внутренних дел СССР Чернышева и начальника тюремного управления НКВД Никольского на имя Лаврентия Берии, в которой предлагалось решать вопросы разгрузки тюрем в следующем порядке:

«1. Вывозу в тыл подлежат только подследственные заключенные, в отношении которых дальнейшее следствие необходимо для раскрытия диверсионных, шпионских и террористических организаций и агентуры врага.

2. Женщин с детьми при них, беременных и несовершеннолетних, за исключением диверсантов, шпионов, бандитов и т. п. особо опасных, – освобождать [...]

4. Ко всем остальным заключенным (в том числе дезертирам) применять ВМН – расстрел[3] .

На территории Белорусской ССР и прибалтийских советских республик накануне военных действий дислоцировалась 42 бригада конвойных войск НКВД СССР (со штабом в Минске). Из ее состава в немногих выявленных документах, касающихся эвакуации заключенных, упоминаются 226 и 240 конвойные полки. 226 полк дислоцировался в Минске (с подразделениями в Вилейке, Заславле, Молодечно, Свенцянах и Глубоком), а 240 полк - в Вильнюсе. Кроме них, в состав бригады входили также 131 отдельный конвойный батальон (ОКБ) со штабом в Гродно, 132 ОКБ со штабом в Бресте, 135 ОКБ со штабом в Барановичах.

Следует отметить, что 132-й отдельный батальон конвойных

войск НКВД находился на острове Пограничном в Тереспольском укреплении Брестской крепости на западном берегу Западного Буга. Подчеркиваю, специфика этого батальона – конвойный!

Батальон организационно состоял из трех конвойных рот, выполнявших служебно-боевые задачи пенитенциарного характера на территории Брестской области. 1-я конвойная рота обеспечивала охрану тюрем №№ 24, 25 и 29, находившихся соответственно в районных городах Кобрин, Пружаны и Пинск. 2-я и 3-я конвойные роты, дислоцируясь в Брестской крепости (здесь же: управление батальона и основные штатные подразделения боевого обеспечения и тыла) охраняли две тюрьмы в городе Бресте: общую № 23 (она же – городская) и внутреннюю тюрьму УНКВД (по другим данным, УНКГБ) по Брестской области, обустроенную, заметим, ни где-нибудь, а именно внутри комплекса Брестской крепости.

Расстояние от казарм 132-го отдельного конвойного батальона НКВД до государственной границы составляло всего лишь десяток шагов. Они были ближе к границе, чем пограничники. Размещался батальон на втором этаже кольцевой казармы между Тереспольскими и Холмскими воротами. Это был приемный и пересыльный пункт для «классово чуждого элемента», а во время войны предполагалось быть пункту для военнопленных.

Крепостные рвы, казематы и бастионы – это сооружения, по конструкции и по духу родственные тюремным и каторжным централам. И транспортировка пленных из Бреста проблемы не представляла. Брест – ворота Советского Союза. Из Бреста – на Москву, а дальше – куда угодно, гони эшелонами хоть сто тысяч врагов, хоть миллион. Кстати, арестантские вагоны из Бреста шли ежедневно, последний арестантский вагон отправился из Бреста 21 июня 1941-го года.

Немецкие снаряды и бомбы, обрушившиеся на Брест ранним утром 22 июня, не миновали и тюрьмы. Из рапорта начальника брестской тюрьмы Шафоростова: «Зажигательными бомбами были подожжены: адмкорпус, общежитие, склады, клуб. Корпус тюрьмы был пробит артиллерийским снарядом». Шафоростов связался по телефону с местными начальниками НКВД и НКГБ, которые при-

казали держать оборону силами охранников тюрьмы (17 винтовок и пулемет), обещая прислать подкрепление. Когда спустя несколько часов немецкие солдаты начали приближаться к тюрьме, Шафоростов послал связного за обещанным подкреплением, но ни в НКВД, ни в НКГБ уже никого не было: все «эвакуировались». Затем все заключенные тюрьмы были уничтожены в камерах и во дворе тюрьмы.

Единственное боевое знамя из частей, дислоцировавшихся в Брестской крепости захваченное врагом было знамя 132-го отдельного батальона конвойных войск НКВД.

Несмотря на это, мемориальная доска этому «доблестному» батальону установлена в Брестской крепости; в нескольких десятках шагов восточнее Тереспольских ворот со стороны реки. На этой доске в названии батальона пропущено слово «конвойных»: («Здесь в июне 1941 года героически сражались с фашистскими захватчиками воины 132-го отдельного батальона войск НКВД. Вечная слава героям»).

Почему искажено название подразделения? По невнимательности? Или не хотели писать, что прямая задача подразделения была – конвоировать, т. е., чтобы не возникали у людей вопросы: кого? куда? когда? почему? зачем? Очевидно, что это умышленное замалчивание в многолетней советской идеологии с целью искажения истины.

Из донесения № 1 замначальника Управления Конвойных войск комбрига Кривенко начальнику Конвойных войск генерал-майору Шарапову, по состоянию на 21 час 23 чэрвеня 1941 г. (из Минска): «*[...]* В Паневежисе, Каунасе, Вильнюсе, Шауляй началась эвакуация тюрем [...] НКВД Белоруссии предъявил 226 полку требование на вывоз 23 тысяч заключенных в порядке эвакуации тюрем [...]

г. Глубокое, 24 июня. Во время эвакуации заключенных из тюрьмы г. Глубокое заключенные поляки подняли крики: «Да здравствует Гитлер!» Начальник тюрьмы Приемышев, доведя их до леса – по его заявлению – расстрелял до 600 человек. По распоряжению военного прокурора войск НКВД Приемышев в Витебске был арестован. Приемышев при эвакуации пропал…»

Аналогичная ситуация была и в других тюрьмах Западной Белоруссии. Так, из 32 тюрем НКВД БССР, функционировавших на 22 июня 1941 г., удалось провести эвакуацию лишь из 14 (Глубокое, Молодечно, Пинск, Столин, Дрогичин, Орша, Полоцк, Витебск, Могилев, Мозырь, Гомель, Червень, Вилейка и Столбцы). В результате из БССР в тюрьмы тыловых районов СССР эвакуировано 9573 человека, «оставлено противнику» – 16 048 человек[4].

Из Докладной записки об эвакуации тюрем НКВД БССР замначальника Тюремного управления НКВД БССР лейтенанта госбезопасности Опалева начальнику Тюремного управления НКВД СССР майору госбезопасности Никольскому от 3 сентября 1941 г.: «[...] заключенные были эвакуированы из тюрем: Глубокое, Молодечно, Пинск, Столин, Дрогичин, Орша, Полоцк, Витебск, Могилев, Мозырь, Гомель, Червень, Вилейка и Столбцы. Из остальных тюрем з/к или были выведены из тюрем и разбежались по дороге во время налета на них немецких самолетов, или же были оставлены в тюрьмах при занятии городов немецкими войсками.

В первый день войны 22 июня 1941 года в связи с вступлением немцев в г. Брест в 5 часов утра, Ломжу в 12 часов дня, ввиду невозможности эвакуации тюрем, заключенные были оставлены в корпусах.

[...] После 11 часов дня телефонная и телеграфная связь с Гродно была прервана […] О дальнейшей судьбе тюрьмы [Ошмянской – *И. К.*] стало известно лишь 28 июня 1941 года лично от начальника тюрьмы Владимирова и начсанчасти Горюнова, которые сообщили: политрук тюрьмы г. Ошмяны Клименко и [*неразборч.*] уполном. Авдеев, в момент бомбежки гор. Ошмяны самочинно вывели из камер 30 чел. заключенных, обвиняемых в преступлениях к-р характера и в подвале тюрьмы расстреляли, оставив трупы незарытыми. Остальных заключенных оставили в корпусах и покинули тюрьму со всем личным составом.

На второй день местные жители г. Ошмяны, узнав о расстреле заключенных, пошли в тюрьму и, разбирая трупы, разыскивали своих родственников. [...]

Из тюрем Восточных областей Белоруссии не эвакуированы за-

ключенные из г. Слуцка, Приямино и Борисова. О тюрьме г. Минска мною дано объяснение н-ку Оперативного отдела полковнику тов. Ильину. [... ]»[5].

Автором по официальным и неофициальным источникам подсчитано примерное количество заключенных, расстрелянных 42 бригадой конвойных войск НКВД СССР.

*Таблица 2. Этапы с заключенными, расстрелянными на территории Беларуси (23–30 июня 1941 г.)*

| *Места расстрелов и заключений* | *Примерное количество расстрелянных (чел.)* |
|---|---|
| Тростенец | 2500 |
| Червень | 3000 |
| Глубокое | 2700 (714) |
| Вилейка | 2400 |
| Жлобин | 1500 |
| Барановичи | 3600 |
| Всего: | 15700 |

Трагическая эвакуация тюрем НКВД продолжалась в течение всего 1941 года (а затем в 1942 г.). Описанные выше события относятся к самому началу эвакуации. Последующие этапы также отражены в архивных документах. При изучении представленных выше документов возникает вопрос об ответственности за расстрелы заключенных. К сожалению, до сих пор не обнаружены директивные материалы о порядке эвакуации, которые относились бы к рассматриваемому периоду – первым десяти дням войны.

Не исключено, что местные органы НКВД–НКГБ (включая конвойные части) основывались на устных распоряжениях и инструкциях или на собственной инициативе. В некоторых документах имеются сведения, кто из работников НКВД, НКГБ и конвойных войск отдавал в ходе эвакуации приказы о расстреле заключенных в конкретных случаях: начальник тюрьмы г. Глубокое Приемышев (чьи действия были одобрены секретарем ЦК ВКП(б) Белоруссии П. Пономаренко), начальник Тюремного управления НКВД БССР Степанов, политрук тюрьмы г. Ошмяны Клименко и уполномоченный Авдеев.

Руководители самого высокого ранга в найденных документах

почти не упоминаются, хотя основополагающие решения могли исходить только от них. Выявлены приказы и инструкции 1942 года о порядке эвакуации заключенных из тюрем прифронтовой полосы. Инструкции содержат обтекаемые (без термина «расстрел» ли «убытие по 1-й категории»), но фактически недвусмысленные формулировки о действиях в случае окружения противником.

А несут ли ответственность непосредственные исполнители казней, в том числе надзорсостав тюрем, другие низовые работники НКВД и НКГБ, военнослужащие конвойных войск? Ведь они могли бы сослаться на условия войны и отступления перед немецкой армией, свою подневольность, распоряжения руководства, ведомственную инструкцию или Устав, приказ командира и воинскую дисциплину.

В связи с этим можно вспомнить случаи, когда заключенных «всего лишь» оставили в тюрьме или даже распустили. Значит все же можно было не расстреливать заключенных, а использовать их для противодействия наступающим немецким войскам?

### *The punitive operations of the NKVD BSSR (June 23 – June 30, 1941)*

Time has put forward a number of new problems of military history, which have not yet been investigated by scientists. One of them is the fate of those arrested and convicted, held in places of imprisonment on the territory of Belarus on the eve of Soviet-German war. With the outbreak of the war and the occupation of the BSSR, the system of places of deprivation of liberty, which was under the jurisdiction of the People's Commissariat of Internal Affairs of the BSSR, ceased its activities. But what happened to the prisoners kept in the colonies and prisons remains an unexplored page of history today. All publications devoted to this topic are based, as a rule, on memories and do not give true picture of what happened.

The executions of NKVD and NKGB prisoners – mass executions of prisoners were carried out in extrajudicial order of the NKVD and NKGB

in the front-line zone in the conditions of the approaching enemy troops in 1941 after the beginning of Soviet-German war.

One of the darkest pages of the evacuation of the prisons of the NKVD BSSR was illegal shootings of prisoners. Nowhere in the documents is the purpose of these shootings formulated explicitly. Apparently, in fact, it consisted primarily in not leaving the enemy alive witnesses to the crimes of the NKVD and the Soviet regime, both in the pre-war period and during the war.

The article analyzes documents stored in the State Archives of the Russian Federation. They show the course of the evacuation of prisoners from prisons and colonies of Belarus to the east of the country in 1941.

For the first time, data are given about the places of extermination of prisoners of prisons and camps of the NKVD BSSR and the approximate number of those shot.

### *Примечания*

1 Шарков А. В. Уголовно-исполнительная система Республики Беларусь. Минск, 2010. С. 175–179.

2 Государственный архив Российской Федерации. Ф. 9413, оп. 1, д. 21, л. 306-307.

3 Там же. Ф. 9413, оп. 1, д. 22. л. 112–113.

4 Российский Государственный военный архив. Ф. 40, оп. 1, д. 188, л. 203–204.

5 Приказано приступить: Эвакуация заключенных из Беларуси в 1941 году: сб. док. Сост. А. И. Кокурин [и др.]. Минск: НАРБ, 2005. С. 46–52.

# «Жыццё ў масцы» як рэакцыя грамадства на рэпрэсіі: прыклад першага пасляваеннага дзесяцігоддзя

*Ірына Кашталян,*
*PhD (Мінск)*

Для кожнага чалавека адным з найважнейшых пытанняў з'яўляецца забеспячэнне яго асабістых інтарэсаў. Развагі наконт уласнай будучыні – неад'емны складнік выбару стратэгіі паводзін. Фактар уласнага ці пазнанага вопыту рэпрэсіяў сталінскага перыяду істотна уплываў на гэта. Дасведчанасць аб ступені пагрозы ўжывання ўладамі рэпрэсіўнай палітыкі прыводзіла да таго, што людзі масава спрабавалі ўтойваць інфармацыю пра сябе і тыя свае дзеянні, якія супярэчылі савецкай ідэалогіі і заканадаўству таго часу. Сярод іх былі і службовыя асобы, якія больш за іншых павінны былі прытрымлівацца афіцыйных правіл, хоць маглі з імі і не пагаджацца[1].

Адмаўленне ад мінулага, утойванне некаторых старонак уласнай біяграфіі стала характэрнай стратэгіяй прыстасавання да жыцця ў БССР. За шчырасць выключалі з ВНУ, звальнялі з працы, маглі прыцягнуць да крымінальнай адказнасці, а тых з кіраўніцтва, хто падтрымліваў такіх асоб, таксама чакалі рэпрэсіі[2]. Такім чынам, рэпрэсіўныя фактары ўнутранай палітыкі СССР навязвалі канфармізм як стыль паводзін, прымушалі да «жыцця ў масцы». Адначасна яны абумовілі нежаданне людзей аналізаваць палітыку, з падазрэннем ставіцца да іншых, баяцца наступстваў прамоўленага.

Для тых, каго ўлады пазначалі як «ненадзейных», стратэгіі паводзін станавіліся больш складанымі, чым у «звычайных» людзей, бо забеспячэнне нармальнага ходу жыцця патрабавала большых намаганняў. Пры гэтым чалавек мог заставацца на свабодзе. Калі партыйная арганізацыя ці адпаведныя органы абвяшчалі яго палітычна ненадзейным, то ён, як правіла, заставаўся «па-за грамадствам», без працы і сродкаў для існавання. Блізкія трымаліся ад яго на дыстанцыі. Такія

«ворагі» былі нагодай для рэпрэсій у межах чарговай ідэалагічнай кампаніі, а таксама дапамагалі апраўдваць няўдачы ў дасягненні пастаўленых мэтаў. Часта кампанія палявання за «ворагамі» была ініцыяваная зверху, і іх знаходзілі ва ўсіх дзяржаўных установах. Пры гэтым у мясцовых прадстаўнікоў улады была абмежаваная прастора выбару дзеянняў. Трэба было ўлічваць сітуацыю на лакальным узроўні, стаўленне да канкрэтных, магчыма, добрых знаёмых і адначасова выконваць прынятыя вышэйшым кіраўніцтвам рашэнні.

Істотны ўплыў на будучыню чалавека ў савецкім грамадстве мела не толькі лаяльнасць, але таксама ягонае блізкае атачэнне – сваякі і сябры. Напр., рэлігійныя перакананні бацькоў маглі стаць перашкодай для прыёму іх дзяцей у вышэйшыя навучальныя ўстановы або прычынай для выключэння. Так, у 1948 г. сакратар Драгічынскага райкама КП(б)Б па кадрах К. Аташкоў, звярнуўся да сакратара ЦК КП(б)Б з просьбай аб выключэнні студэнта І курса з Мінскага медыцынскага інстытута, бо той быў сынам прапаведніка баптысцкай царквы І. Навіцкага. Інакш, на думку гэтага партыйнага чыноўніка, людзі маглі атрымаць «няправільнае ўяўленне», што ў вышэйшых навучальных установах маглі вучыцца г. зв. «паразітычныя элементы»[3]. Страх пераследу прымушаў людзей, калі яны імкнуліся зрабіць кар'еру пры савецкай уладзе, хаваць адносіны не толькі са святарамі, але і з вернікамі.

ЦК КП(б)Б заахвочваў да выяўленне такіх людзей, заклікаў павышаць пільнасць пры выбары кадраў, праводзіць праверкі супрацоўнікаў[4]. Улады рэгулярна кантралявалі арганізацыі і ўстановы для выяўлення «палітычна сумнеўнага элемента». Апрача абвінавачванняў, людзей, да якіх не было «палітычнага даверу», як правіла, звальнялі ў ходзе сістэматычных ідэалагічных кампаній у дзяржаўных установах. Значная ўвага надавалася анкеце, якая дапамагала ідэнтыфікаваць «непажаданы элемент». Лісток па ўліку кадраў змяшчаў, напр., пытанні аб сацыяльным паходжанні, знаходжанні за мяжой, у палоне, на акупаванай тэрыторыі, аб судзімасці ды інш.[5], што паказвала кірункі пошуку дадатковай інфармацыі пра асобу. Чыноўнікі не рабілі вялікай розніцы паміж тымі, хто быў толькі «палітычна падазроным» ці злачынцам.

Асобаў на кіруючых пасадах старанна фільтравалі на наяўнасць кампраметуючай інфармацыі. Напр., МДБ БССР пры праверцы знайшлі «дыскрэдытуючую» інфармацыю на Д., памочніка пракурора Васілевіцкага раёна Палескай вобл. Органамі было выяўлена, што ягоны бацька і брат Міхаіл былі арыштаваныя МДБ за антысавецкую агітацыю, а брат Уладзімір пасля вызвалення з палону амерыканскімі войскамі быў рэпатрыяваны ў СССР і збег з фільтрацыйнага лагера МУС[6]. Зразумела, што пасля гэтага Д. ужо не мог працаваць на гэтай пасадзе.

Дакументы яскрава паказваюць, як моцна вайна змяніла статус многіх людзей. Значная колькасць насельніцтва стала патэнцыйным ворагам улады з-за магчымага супрацоўніцтва з немцамі, пражывання на акупаванай тэрыторыі, знаходжання ў палоне, на прымусовых працах у Германіі, змаганні ў войсках саюзнікаў ды інш. Яны дапоўнілі даваенную групу «палітычна ненадзейных», якая складалася з раней рэпрэсаваных, актыўных вернікаў ды інш. Асноўнай прыкметай прыналежнасці да яе з'яўлялася верагодная нелаяльнасць.

У БССР, дзе большая частка насельніцтва магла атрымаць такі ярлык, тыповай стратэгіяй прыставання стала імкненне не паведамляць падрабязнасці пра сваё мінулае. Напр., рэспандэнт Валянціна А., каб мець магчымасць атрымаць вышэйшую адукацыю і адпаведна перспектывы кар'ернага росту, пазначыла ў сваёй анкеце айчыма як бацьку[7]. Яна таксама схавала інфармацыю пра братоў, якія былі салдатамі арміі Андэрса і засталіся на Захадзе ў канцы вайны[8]. Трагічныя падзеі вайны спрыялі ўтойванню інфармацыі. Многія страцілі блізкіх, таму, каб не паглыбляць смутак, іх маглі не запытаць, дзе і як загінулі сваякі[9].

Упершыню маркіраваныя як «ворагі» людзі маглі упасці ў адчай. У гэты момант было важна атрымаць падказку іншых, што некаторыя дэталі ўласнага мінулага павінны быць схаваныя. Напр., былая остарбайтарка Браніслава Астраўко атрымала «інструкцыю» ад службовай асобы з рэпрэсіўнага органа: «*Девушка, идите, получайте направление [з дазволам вучыцца ва ўстанове вышэйшай адукацыі – І. К.] и езжайте. Учитесь, если поступите. Но нигде, никому, никогда не говорите, кто Вы, и что Вы. Скажите: "Жила*

*в оккупации вместе с родителями, в войну родители погибли". Всё, на этом точка»*[10].

Іншую остарбайтарку навучыла сяброўка: «*А мне вот не доходило, что я другого сорта человек. Она говорит: "Зачем ты это пишешь? Пиши, что ты была..." Она уже, наверное, где-то слышала эти разговоры, потому что её родители, отец особенно, по-моему, он был поляк. Они католики, у них, во-первых, имена все такие католические. И он сильно не любил советскую власть. Иногда он высказывался, жена на него цыкала: "Замолчи". Ну, вот при мне он высказывал такие вот [заявы]. Может быть, она в семье это всё знала уже. А мы ещё не знали. Она говорит: "Не пиши ты этого, напиши – была, ну, как и все, была в Минске". И вот с тех пор я замкнулась»*[11].

Эфектыўнай формай барацьбы ўлады з утойваннем падобных «дыскрэдытуючых» фактаў былі даносы. У той жа час публічнае адмаўленне ад мінулага, напр., святароў, да якога заахвочвала ўлада, не перашкаджала ў далейшым адмаўляць у прыёме на працу такім асобам. Такім чынам, кляймо «палітычна ненадзейнага» і статус ізгоя атрымала вялікая катэгорыя людзей незалежна ад іх перакананняў. Валянцін Тарас узгадваў, што для некаторых тактыка ратавання грунтавалася на супрацоўніцтве з органамі бяспекі. Яны дапамагалі апошнім знаходзіць «кампраметуючыя факты» з жыцця іншых[12].

Многія ўтойвалі факты свайго мінулага да канца існавання СССР[13]. Аднак былі і тыя, хто заняў прынцыповую пазіцыю і нічога не замоўчваў, мяркуючы, што з маральна-этычных пазіцый лепш казаць праўду[14]. Гэта таксама залежала ад ступені пагрозы, якая зыходзіла ад прызнання тых ці іншых уласных дзеянняў, а таксама ад псіхалагічных асаблівасцяў чалавека, яго самасвядомасці і аналітычнага патэнцыялу. Так, факт знаходжання пад акупацыяй утрымліваў менш кампраметацыі, чым факт остарбайтарства.

На паспяховасць «жыцця ў масцы» ўплывалі і некаторыя іншыя фактары: дзе чалавек пражываў? У якой арганізацыі працаваў? Наколькі важнай была ягонай дзейнасць для ўлады? Калі такая асоба не эміграваала, то ў некаторых сітуацыях гэта працавала на яе карысць, бо вакол былі знаёмыя, сваякі і сябры.

Тыя, хто баяўся выкрыцця, маглі выбірацца на працу ў іншыя

спрабавалі супраціўляцца і ў апошні раз распараджаліся будынкамі, як сваёй уласнасцю, менавіта прадалі іх для разборкі і перавозкі. Абодвух пакаралі прымусовымі працамі тэрмінам на тры месяцы: Антона Шахлая – па месцы працы з вылічэннем 20 % заробку, Івана Шахлая – з адбыццём у калоніі масавых работ[19].

Калоніі масавых работ (КМР) ствараліся там, дзе была патрэбная рабочая сіла, менавіта пры будаўніцтве дарог, заводаў, на лесанарыхтоўках. У БССР у такіх калоніях утрымлівалі людзей з кароткімі тэрмінамі зняволення.

Фактычна ўсе пяцёра сялян са згаданых прыкладаў былі пакараны за супраціў калектывізацыі. Гэта дазваляе лічыць іх палітычна асуджанымі. А спосабы пакарання за «ціхі» супраціў калектывізацыі ў СССР былі самымі разнастайнымі. Мной былі знойдзены таксама іншыя прыклады прысудаў па артыкуле 131[20].

Калі ў 1990-я г. у Беларусі праводзілася рэабілітацыя, артыкул 131 трактаваўся як «проста крымінальны». Ніхто не спрабаваў ставіць пытанне аб рэабілітацыі асуджаных па ім. Гэты прабел неабходна ліквідаваць і пераглядзець справы людзей, асуджаных па артыкуле 131 КК БССР 1928 г. у 1930-я гг. ва Усходняй і ў 1940-я гг. у Заходняй Беларусі.

*Парушэнне пашпартнага рэжыму і правіл прапіскі*

8 лютага 1935 г. суд 3 участка Менска ў складзе народнага суддзі Манько, засядацеляў Шчаснай і Дудкоўскага пры сакратары Стрыгун разглядаў крымінальную справу Настассі Кастусёвай Гарошка. 55-гадовую малапісьменную беспартыйную беларуску, «кулачку», пазбаўленую выбарчага права, абвінавачвалі па частцы «б» артыкула 120[1] Крымінальнага кодэкса БССР.

Артыкул 120[1] у КК БССР з'явіўся незадоўга перад тым, 15 жніўня 1934 г., і гучаў наступным чынам: «а) Паўторнае парушэнне ўстаноўленых правіл прапіскі пашпартоў або часовых пасведчанняў асобамі, якія прыязджаюць у мясцовасці, дзе ўведзена пашпартная сістэма, і маюць устаноўленыя дакументы, выклікае – папраўчапрацоўныя работы да аднаго года; б) пражыванне ў мясцовасцях, дзе ўведзена пашпартная сістэма, асоб, не маючых пашпарта або

часовага пасведчання і ўжо падвергнутых адміністрацыйнаму спагнанню за гэтае парушэнне, выклікае – пазбаўленне свабоды да двух год».

Унутраныя пашпарты былі ўведзены ў СССР пастановай ЦВК і СНК СССР «Аб усталяванні адзінай пашпартнай сістэмы па Саюзе ССР і абавязковай прапіскі пашпартоў», прынятай 27 снежня 1932 г. Парадак выдачы (і нявыдачы) пашпартоў быў удакладнены пастановамі Саўнаркама СССР ад 14 студзеня і 28 красавіка 1933 г. Пашпарты выдаваліся «ўсім грамадзянам Саюза ССР ва ўзросце ад 16 год, якія стала пражываюць у гарадах, рабочых пасёлках, працуюць на транспарце, у саўгасах і новабудоўлях». Такім чынам, магчымасці атрымаць пашпарт былі пазбаўленыя сяляне, як калгаснікі, так і аднаасобнікі. Гэта абмяжоўвала мабільнасць сялян, прывязвала іх да зямлі. Увядзеннем пашпартоў улады абмяжоўвалі ўцёкі сялян з вёскі, якая ў 1932–1933 гг. галадала. Адсутнасць пашпартоў у сялян часта параўноўваюць з прыгонным правам.

Апрача таго, буйныя гарады (уключна з Менскам) былі аднесены да рэжымных. Выдача пашпартоў у іх праводзілася выбарачна: пашпарты не выдавалі «кулакам», «лішэнцам», «не занятым грамадска-карыснай працай», былым зняволеным і ссыльным і ўсім іншым катэгорыям людзей, у якіх улады СССР бачылі патэнцыйных ворагаў. Да рэжымных былі аднесены і населеныя пункты ў 100-кіламетровай паласе ўздоўж заходняй мяжы СССР (відаць, да іх быў залічаны і пасёлак Дразды). Як піша гісторык савецкай пашпартнай сістэмы Васіль Папоў, першапачаткова выключэнні дапускаліся ў дачыненні да тых не занятых «грамадска-карыснай працай» і пазбаўленых выбарчых правоў асоб, якія былі ўраджэнцамі рэжымных мясцовасцяў і пастаянна там жылі. Але гэтая часовая «саступка» хутка была адменена[21].

Варта адзначыць, што ў Расійскай імперыі жорсткая пашпартная сістэма, якая рэзка абмяжоўвала свабоду перасоўвання, успрымалася як адна з праяваў прыгнёту. У большасці краін Еўропы ўнутраныя пашпарты ў пачатку ХХ ст. адсутнічалі. Яны былі абавязковымі толькі для паездак за мяжу. Часткова гэта захавалася і сёння (для паездак унутры Еўрапейскага Саюза грамадзянам

яго краін неабходны ідэнтыфікацыйныя карткі, а пашпарты не абавязковыя). У СССР 1920-х гг. пашпартная сістэма была заменена легітымацыйнай сістэмай, пры якой асоба чалавека пры неабходнасці магла быць засведчана любым дакументам (напрыклад, прафсаюзным білетам або актавай выпіскай аб нараджэнні ці шлюбе), а рэгістрацыя па месцы жыхарства была правам, але не абавязкам. Старыя бальшавікі ў 1932 г. мусілі адчуць сябе няёмка, бо да рэвалюцыі ўсе яны (у т. л. і Ленін) агітавалі за адмену царскай пашпартнай сістэмы (урэшце яе адмянілі).

У прыгаворы суда запісана наступнае: «Дадзенымі матэрыяламі судовага следства ўстаноўлена, што падвіноўная не атрымала пашпарта, як кулачка, і не мае права без прапіскі пражываць у данай мясцовасці (пасёлак Дразды)». Настассю Гарошка прызналі вінаватай у злачынстве, прадугледжаным артыкулам 120[1] (частка «б») КК БССР. Праўда, яе чамусьці (суд не ўказаў матываў для гэтага) не накіравалі ў зняволенне. Суд палічыў патрэбным падвергнуць яе «прымусоваму высяленню з данай мясцовасці ў двухтыднёвы тэрмін». Прысуд быў канчатковым і абскарджанню не падлягаў[22]. Цікава, што прызначаны судом двухтыднёвы тэрмін высялення не адпавядаў дзесяцідзённаму тэрміну высялення «кулакоў» ды іншых «непажаданых элементаў» з «рэжымных» мясцовасцей, які быў устаноўлены «Інструкцыяй аб выдачы пашпартоў», зацверджанай пастановай Саўнаркама СССР № 43 ад 14 студзеня 1933 г.

Настассі Гарошка пашанцавала, што яе накіравалі не ў ГУЛАГ, не ў высылку ці на спецпасяленне, а ўсяго толькі ў іншы раён БССР. Але яе высялялі з уласнага дому – у невядомасць. Яна страчвала не толькі дах над галавой, але мэблю і сялянскі інвентар, які не магла забраць з сабой. Як адзінокая жанчына сталага ўзросту ўладкавалася на новым месцы? Пра гэта нам невядома. Затое вядома, што яна стала не проста «кулачкай» і «лішэнкай», а яшчэ і судзімай.

Зразумела, што прыведзены прыклад асуджэння па артыкуле 120[1] – толькі адзін з соцень ці тысяч іншых, якія здарыліся ў БССР за час дзеяння артыкула. І калі ў дачыненні да Настассі Гарошка было ўжытае «прымусовае высяленне», то многія іншыя трапілі за краты. Паколькі накіраваны быў артыкул супраць бяспашпартных сялян,

асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, «кулакоў» ды прадстаўнікоў іншых катэгорый, якія ўсяго толькі спрабавалі выжыць ці трошку больш выгодна ўладкавацца ў жыцці праз пераезд у горад ці праз працяг жыцця ў ім, ёсць усе падставы лічыць яго ахвяр пацярпелымі ад палітычных рэпрэсій.

Артыкул «Парушэнне пашпартных правіл» захаваўся і ў Крымінальным кодэксе БССР 1961 г. Як адзначаў Кранід Любарскі, вядомыя выпадкі, калі па гэтым артыкуле ў СССР асуджалі дысідэнтаў[23].

Пастанова Вярхоўнага Савета БССР ад 6 чэрвеня 1991 г. «Аб парадку рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій 20–80-х гадоў», на жаль, не ўключае артыкул $120^1$ у пералік артыкулаў, асуджаныя па якіх падлягаюць рэабілітацыі. Гэты заканадаўчы недахоп неабходна выправіць, як неабходна таксама адшукаць імёны асуджаных. Без іх пералік пацярпелых ад палітычных рэпрэсій у БССР 1930-х гг. няпоўны.

*Парушэнне законаў, пастаноў і правілаў, якія рэгулююць гандаль і прамысловасць*

2 лютага 1935 г. адбылося выязное пасяджэнне суда 3 участку Менска ў Каралішчанскім сельсавеце. Суддзя Шклярман і засядацелі Вараб'ёў, Франц і Касцялецкая пры сакратары Руткоўскім разглядалі крымінальную справу Марыі Юзікавай Запольскай. Як бачна з тэксту прысуду, 50-гадовая непісьменная беспартыйная ўдава пражывала сумесна з дарослай дачкой. Да ўступлення ў калгас мела 3 га зямлі, а на час суда была калгасніцай калгаса «Другая пяцігодка». Непісьменны сакратар Руткоўскі зрабіў у дакуменце безліч памылак (іншыя сакратары гэтага суда высокай культурай мовы таксама не вылучаліся). Верагодна, па памылцы ён запісаў, што калгас месціцца ў вёсцы «Н. Сіліна» Каралішчанскага сельсавета. Недалёка ад Каралішчавіч ёсць вёска Сіняло (Сініла).

Судовае следства ўстанавіла «віну» Марыі Запольскай у тым, што «яна ў снежні месяцы 1934 года, забіўшы сваю свінню пудоў 4-5, замест таго, каб яе – свінню – аблупіць, асмаліла яе, ад чаго сама не адмаўляецца». Марыю Запольскую асудзілі па артыкуле 152 КК БССР да пяці месяцаў прымусовых прац па месцы работы ў кал-

гасе з вылікам 15 % з яе заробку (працадзён). Як і ў іншых асуджаных, у яе была магчымасць абскардзіць прысуд у пяцідзённы тэрмін. Мы не ведаем, ці абскарджвала Марыя Запольская прысуд, але так ці іначай ён застаўся нязменным: на дакуменце стаіць адзнака, што 28 красавіка 1935 г. копія прысуда была накіравана для выканання[24]. Ад працадзён, якія і без таго аплачваліся надзвычай нізка, адабралі яшчэ 15 %. У той галодны час гэта было сур'ёзным пакараннем. Мной былі знойдзеныя яшчэ два прысуды па аналагічных справах[25].

Артыкул 152 КК БССР гучаў наступным чынам: «Парушэнне законаў, пастаноў і правіл, якія рэгулююць гандаль і прамысловасць, калі ў іх спецыяльна не ўказана праследаванне ў адміністрацыйным парадку, выклікае – пазбаўленне свабоды да аднаго года або штраф да двух тысяч рублёў з забаронай займацца гандлем або промыслам на тэрмін да пяці год, або без такой забароны». Як бачна, гэты артыкул не прадугледжваў пакарання прымусова-папраўчымі працамі. Верагодна, суд кіраваўся аналагічным артыкулам Крымінальнага кодэкса РСФСР (арт. 105), які прадугледжваў больш мяккую санкцыю – прымусова-папраўчыя працы на тэрмін да аднаго года ці штраф да двух тысяч рублёў.

Калі кіравацца здаровым сэнсам, гадаванне свінняў на прыватным падворку для ўласнага спажывання цяжка залічыць як да гандлю, так і да прамысловасці. Але 10 лютага 1930 г. УЦВК і СНК РСФСР супольнай пастановай «Аб мерапрыемствах па ўзмацненні нарыхтовак свіных скур» забаранілі ўсім дзяржаўным і кааператыўным прадпрыемствам і прыватным асобам ашпарваць і асмольваць свіныя шкуры, а таксама перапрацоўваць свіныя тушы як для продажу, так і для асабістага спажывання без папярэдняга зняцця скуры. Ашпарванне і асмольванне свіных туш прыватнымі асобамі, згодна з гэтай пастановай, выклікала крымінальную адказнасць па артыкуле 105 КК РСФСР. ЦВК і СНК іншых саюзных рэспублік, дзе гадавалі свінняў, прынялі аналагічныя пастановы. 10 мая 1932 г. УЦВК і СНК РСФСР замянілі гэтую пастанову іншай, падобнай па сэнсе, пад назвай «Аб мерапрыемствах па захаванні свіных скур». 20 красавіка 1940 г. апошняя была замененая супольнай пастановай

СНК СССР і ЦК УКП(б) «Аб мерапрыемствах па паляпшэнні нарыхтовак скуранoй сыравіны». Згодна з апошняй, усе аднаасобнікі БССР мусілі здаваць дзяржаве ў лік абавязковых паставак па адной свіной скуры і адной скуры авечкі ці казы штогод, а двары калгаснікаў – па адной свіной і палове скуры авечкі ці казы. Ад таго часу тых, хто не здаваў скуры, чакала адказнасць ужо не па артыкуле 152, а па артыкуле 94 («невыкананне павіннасцей») КК БССР.

Жаданне есці сала на шкурцы абышлося Марыі Запольскай дорага. Аднак часам сяляне ўсё-ж маглі абхітрыць дзяржаву. Краязнавец з Арлоўскай вобл. Уладзімір Прохараў запісаў успаміны жыхара сяла Малое Крычына Мікалая Рыгоравіча Васількава (1930 г. нар.). Старажыл узгадаў наступнае: «Асмольваць зарэзаных свінняў строга забаранялася. Да разборкі тушы свіную скуру трэба было аблупіць бярозавай ці дубовай лапатачкай і здаць, амаль задарма, дзяржаве. На карпатлівую важданіну з аблупліваннем сыходзіла нямала часу. Ды і сала без шкуркі было не тое. Нярэдка ішлі на рознага кшталту хітрыкі, каб падмануць "родную" дзяржаву. Свінню заманьвалі на край сотак падалей ад хаты (250–300 м) увечары, на сутонні, насоўвалі ёй на галаву мяшок з-пад мукі (каб гучна і доўга не вішчала) і рэзалі. Употайкі, бліжэй да апоўначы, перацягвалі ў хату, саломай сяк-так асмольвалі, разбіралі»[26].

Якімі б нязначнымі ні здаваліся пакаранні для асуджаных па артыкуле 152 КК БССР, а дзеля ўзнаўлення гістарычнай справядлівасці іх трэба рэабілітаваць як ахвяры рэпрэсій. Пакуль гэта не зроблена. Дарэчы, людзі, асуджаныя з 1940 г. за тыя самыя дзеянні па артыкуле 94 КК БССР, трапляюць у лік тых, каго неабходна рэабілітаваць згодна з пастановай Вярхоўнага Савета Беларусі ад 6 чэрвеня 1991 г. «Аб парадку рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій 20–80-х гадоў».

***

У дадзенай публікацыі былі прыведзены прыклады пяці артыкулаў крымінальнага кодэкса, паводле якіх палітычна рэпрэсавалі беларускіх сялян (і не толькі сялян) у 1930-я гг. Асуджаныя не былі рэабілітаваныя (103, 118, 120[1], 131, 152). Безумоўна, такіх «некан-

тррэвалюцыйных» палітычных артыкулаў было болей. Каб прыкладна ацаніць размах асуджэнняў па гэтых артыкулах, трэба звярнуцца да крымінальнай статыстыкі за адпаведныя гады. Неабходна правесці больш шырокую рэабілітацыю палітычных асуджаных, чым гэта адбывалася ў 1990-я гг.

***The unfinished rehabilitation of victims of 1930s repressions in Belarus (example of peasants from Miensk district)***

The process of rehabilitation (whitewashing) of victims of Stalinist political repressions was prolonged, but still is unfinished. The latest national laws (created in early 1990s) list categories of victims according to different articles of the Criminal Code of the Belarusian SSR (1928). Yet, legislators failed to name many categories.

The author examines five examples of the articles of the Criminal Code of the Belarusian SSR which were used for political persecution of Belarusian citizens in 1930s. They are: article 103 (agitation and propaganda against the order of state administration), article 118 (flight from the place of compulsory settlement), article 120-1 (infringement of the passport regime and the rules of registration), article 131 (arbitrariness), article 152 (infringement of laws, resolutions and rules regulating trade and industry).

None of these articles belonged to the part of the Criminal Code regulating so-called «counter-revolutionary crimes» (deeds clearly marked as political crimes).

There is an obvious need to carry out wider rehabilitation of political convicts than the one which took place in 1990s.

***Заўвагі***

1 Адамушка У. Палітычныя рэпрэсіі 20–50-ых гадоў на Беларусі. Мінск, 1994. С. 9–10. Тыя самыя лічбы аўтар паўтарыў у сваёй нядаўняй публікацыі: Адамушка У. Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі: лічбы і факты // Архівы і справаводства. 2017, № 4. С. 110–120.

2 Каралёў Ю. Аб рэальных маштабах сталінскіх рэпрэсій у Беларусі // Arche. 2014, № 5. С. 32-71.

3 Тэматычныя базы дадзеных // Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. [Электронны рэсурс] – 18.01.2018. – Рэжым доступу: http://narb.by/by/scient/edb.

4 Жертвы политического террора в СССР. [Электронны рэсурс] – 18.01.2018. – Рэжым доступу: http://base.memo.ru/.

5 Адамушка У. Палітычныя рэпрэсіі… С. 9. Амаль даслоўна гэтую тэзу ён паўтарыў у артыкуле «Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі: лічбы і факты», апублікаваным у часопісе «Архівы і справаводства» (2017, № 4. С. 113).

6 Падрабязны разбор апошняга з пералічаных артыкулаў КК БССР гл.: Валодзін У. Крымінальны пераслед мужчын-гомасэксуалаў у БССР: невядомыя статыстычныя дадзеныя з архіўных крыніц // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2016, № 46. С. 78–101.

7 Документ № 267. Справка Особого отдела ОГПУ о количестве раскулаченных и выселенных кулаков по состоянию на 10 декабря 1930 г. // Трагедия советской деревни. Коллективизация и раскулачивание. 1927–1939. Документы и материалы. В 5-ти томах. Т. 2. Ноябрь 1929 – декабрь 1930. Под ред. В. Данилова, Р. Маннинг, Л. Виолы. Москва, 2000.

8 Из доклада опергруппы ОГПУ об итогах работы по выселению кулаков второй категории. 6 мая 1930 г. // Трагедия советской деревни... Т. 2. С. 411–430.

9 Докладная записка ПП ОГПУ по Уралу в СОУ ОГПУ о мероприятиях по массовому выселению и расселению кулачества на территории Урала. 29 января 1930 г. // Трагедия советской деревни... Т. 2. С. 143–147.

10 Докладная записка ПП ОГПУ по Уралу в ОГПУ о результатах проведения операции по массовому выселению и расселению кулацких семей. 9 мая 1930 г. // Трагедия советской деревни... Т. 2. С. 436–449.

11 Протокол совещания в СОУ ОГПУ с полномочными представителями ОГПУ по Уралу, Сибири и Северному краю по борьбе с бегством кулаков с мест высылки. 5 июля 1930 г. // Трагедия советской деревни... Т. 2. С. 526–529.

12 Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці (далей: ДАМВ). Ф. 413. Воп. 3. Спр. 49. Арк. 134-134 адв.

13 Тамсама. Арк. 133-133 адв.

14 Заерко А. Л. Побеги из ада. Санкт-Петербург, 2003.

15 ДАМВ. Ф. 413. Воп. 3. Спр. 52. Арк. 17-17 адв.

16 Тамсама. Арк. 16-16 адв.

17 Тамсама. Арк. 113-113 адв. (Максім Баяровіч); ДАМВ. Ф. 413. Воп. 3. Спр. 53. Арк. 59-6 адв. (Уладзімір Мысліўчык). Падрабязней пра абодва выпадкі гл.: Валодзін У. «Антысавецкія агітатары» // Новы час. 2017, 2 чэрвеня. С. 11.

[18] Цытата паводле афіцыйнага беларускага тэксту кодэкса з захаваннем асаблівасцяў правапісу.

[19] ДАМВ. Ф. 413. Воп. 3. Спр. 54. Арк. 39-39 адв.

[20] Тамсама. Арк. 8-8 адв. (Пятро Сухадольскі); Тамсама. Арк. 24-24 адв. (Антон Валент і Сяргей Філіповіч). Падрабязней пра абодва прысуды гл.: Валодзін У. Калектывізацыя: «Самаўпраўства» ў Мінскім раёне // Новы час. 2017, 13 кастрычніка. С. 10.

[21] Попов В. П. Паспортная система в СССР (1932–1976 гг.) // Социологические исследования. 1995, № 8. С. 5.

[22] ДАМВ. Ф. 413. Воп. 3. Спр. 54. Арк. 98-98 адв.

[23] Любарский К. Паспортная система и система прописки в России // Институт прав человека. [Электронны рэсурс] – 19.01.2018. – Рэжым доступу: http://www.hrights.ru/text/b2/Chapter5.htm.

[24] ДАМВ. Ф. 413. Воп. 3. Спр. 54. Арк. 99-99 адв.

[25] Тамсама. Спр. 51. Арк. 64-64 адв. (Ганна Артакян); Тамсама. Спр. 54. Арк. 46-46 адв. (Марыя Нядбайная). Падрабязней пра абодва прысуды гл.: Валодзін У. Дарагія свіныя скуры // Новы час. 2017, 15 снежня. С. 10.

[26] Прохоров, Владимир. Сермяжные истории жителей бывшей Комарицкой волости // Краевед.ру. [Электронны рэсурс] – 19.01.2018. – Рэжым доступу: http://www.kraeved.ru/node/169.

# Грамадства і памяць пра рэпрэсіі ды іх наступствы

## Курапаты і «палітыка мёртвых цел» у Беларусі

*Аляксей Ластоўскі,*
*канд. сацыялагічных навук (Полацк)*

На паўночна-усходнім ускрайку Мінска знаходзіцца адно з найбольш вядомых «месцаў памяці» для Беларусі – Курапаты, урочышча, дзе ў 1930-я гады праводзіліся масавыя расстрэлы падчас сталінскіх рэпрэсій. Пасярод сасновага лесу, дзе актывісты ўсталявалі драўляныя крыжы ў памяць ахвяраў, стаіць камень з таблічкай, на якой абвешчана, што па рашэнню Вярхоўнага Савета БССР, прынятаму 18 студзеня 1989 г. (ужо ў суцемках беларускай савецкай дзяржаўнасці), тут будзе створаны мемарыял ахвярам рэпрэсій. Прайшло 28 год, і гэта рашэнне так і не было выканана. Тут узнік «народны мемарыял», створаны актывістамі палітычных партый, грамадскіх ініцыятыў, нашчадкамі рэпрэсаваных.

Беларускія ўлады пасля 1994 г. і абрання прэзідэнтам краіны Аляксандра Лукашэнка імкнуліся максімальна дыстанцавацца ад Курапат. Тым не менш, у лютым 2017 г. рэдактар галоўнай дзяржаўнай газеты «Беларусь сёння» Павел Якубовіч выступіў з ініцыятывай стварэння дзяржаўнай камісіі, якая ўрэшце зоймецца ўпарадкаваннем мемарыяла ў Курапатах, які мусіў стаць «местом народной скорби и благородной памяти»[1]. Нават прагучала афіцыйная прапанова нобелеўскай лаўрэатцы Святлане Алексіевіч узначаліць гэту камісію, але яна адмовілася[2]. Напачатку чэрвеня 2017 г. таксама было публічна агучана заданне з боку Адміністрацыі Прэзідэнта для Інстытута гісторыі Акадэміі навук падрыхтаваць зборнік дакументаў датычна Курапатаў[3]. 28 год беларускія ўлады ігнаравалі Курапаты, а зараз раптам пачалі клапаціцца пра гэта месца.

Чым можна патлумачыць працяглую адсутнасць і раптоўнае вяртанне сталінскіх ахвяраў у сферу дзяржаўных інтарэсаў?

Адказ на пытанне, чаму Курапаты ігнараваліся ўладай, можа быць мінімальна простым – Рэспубліка Беларусь пад кіраўніцтвам Аляксандра Лукашэнка з'яўляецца сімвалічным спадкаемцам савецкага рэжыму (і ў тым ліку сталінскіх злачынстваў). Адпаведна, «афіцыйная палітыка ў Беларусі адмаўляе сталінскія рэпрэсіі, бо яны адлюстроўваюць злачыннасць савецкага рэжыму і падрываюць гераічны вобраз Вялікай Айчыннай вайны»[4]. Праўда, з гэтай перспектывы сучасныя дзеянні дзяржавы вытлумачыць досыць складана.

Але, калі мы разглядаем Курапаты з пункта гледжання легітымнасці, палітычнай мабілізацыі і барацьбы за сімвалічныя рэсурсы, то паўстае цалкам іншая перспектыва. «Пошук цел заўжды адбываецца з абумоўленымі абмежаваннямі, і выклікае канфлікты, якія трэба вырашаць. І ў большасці выпадкаў гаворка ідзе пра дыпламатыю і квазідыпламатыю недзяржаўных арганізацый, да якой дадаюцца таксама геапалітычныя фактары»[5]. У любым выпадку, тэматыка палітычнага тэрору, масавых пахаванняў, мемарыялізацыі і барацьбы за рэпрэзентацыю стала адной з найбольш улюбёных у сучасных *memory studies*.

Найперш давядзецца звярнуцца да «адкрыцця» Курапат у 1988 г. і ролі гэтага месца ў найноўшай палітычнай гісторыі Беларусі. Публічна заявіць пра тое, што пад Мінскам камуністычныя ўлады расстрэльвалі тысячы людзей стала магчымым толькі пасля таго, як у Савецкім Саюзе набрала сілу палітыка «галоснасці», ініцыяваная Міхаілам Гарбачовым для абнаўлення і асвяжэння спарахнелай сістэмы кіравання. Магчымасць адкрыта прамаўляць пра недахопы і памылкі савецкіх уладаў выклікала зусім не тую рэакцыю, якой чакалі камуністычныя лідэры. Раптоўна па ўсёй дзяржаве прайшла хваля вяртання той памяці, якая была загнаная ў катакомбы цэнзуры – памяці сотняў тысяч людзей, арыштаваных, катаваных, расстраляных, сасланых, замардаваных у ГУЛАГу. «Гістарычныя дэбаты паставілі пад пытанне легітымнасць савецкай дзяржавы, якая не мела іншай законнай сілы апроч святой праваты Камуністычнай партыі і яе гістарычнай правамоцнасці»[6]. Вялізарны грамадскі інтарэс да сталінскіх рэпрэсій нанёс адзін з найбольш балючых удараў па легітымнасці савецкай сістэмы. Пошук ахвяраў рэпрэсій такса-

ма паспрыяў узмацненню незалежніцкіх памкненняў. Як адзначыла Кэтрын Вэрдэры: «Безымянныя мёртвыя таксама могуць граць значную ролю ў дэкляраванні альбо ў войнах за незалежнасць. Ва Украіне і Беларусі адкрыццё месцаў масавых захаванняў, запоўненых ананімнымі ўкраінцамі і беларусамі, якіх закатавалі рускія, падштурхнула гэтыя дзве рэспублікі да выхаду з Савецкага Саюза»[7].

Часткай гэтага працэсу стала адкрыццё месцаў масавых пахаванняў пераважна ва Украіне і ў Расіі (напрыклад, Бутаўскі палігон пад Масквой ці Рутчэнкаўскае поле пад Данецкам). То бок, публікацыя артыкула Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва пра Курапаты кладзецца ў гэты трэнд. Але што важна, большасць вядомых месцаў масавых пахаванняў (прынамсі, знойдзеных напрыканцы існавання Савецкага Саюза) былі ўведзены ў публічную прастору ў 1989 г., а артыкул «Курапаты – дарога смерці» быў апублікаваны 3 чэрвеня 1988 г. Натуральна, варта яшчэ вывучаць дынаміку гэтага працэсу, але, відавочна, што адкрыццё Курапат калі не запусціла агульнасавецкі працэс пошукаў месцаў масавых пахаванняў ахвяраў сталінскіх рэпрэсій, то прынамсі, ляжала ў ягоных вытоках.

Такім чынам, у чэрвені 1988 г. у беларускай дзяржаўнай газеце «Літаратура і мастацтва» (арыентаванай пераважна на колы інтэлігенцыі) з’явіўся артыкул Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты – дарога смерці». Падрыхтоўка гэтага артыкула заняла доўгі час, бо яшчэ ў 1970-я гг. яго аўтары пачалі хадзіць па навакольных вёсках і збіраць успаміны мясцовых жыхароў, якія малымі дзецьмі з цікаўнасцю падглядалі за тэхналогіяй масавых растрэлаў. Дзеці шукалі шчыліны ў плоце, сачылі, як расстрэльвалі людзей, забіраліся нават за агароджу, і з жахам бачылі, як рухаецца зямля над закапанымі ямамі, дзе ляжалі дзесяткі расстраляных людзей. Але, каб апублікаваць гэтыя ўспаміны, трэба было дачакацца адпаведнага часу, бо толькі «галоснасць» стварыла гэтую ўнікальную магчымасць.

Публікацыя артыкула выклікала агромністы розгалас у беларускім грамадстве. Як адзначалася вышэй, адкрыццё Курапат запусціла ланцуговую рэакцыю па пошуку месцаў расстрэлаў па ўсім Савецкім Саюзе. Але ў вялікай агульнасавецкай хвалі гэта месца вылучаецца

цеснай сувяззю з палітычнай мабілізацыяй нацыянальна-дэмакратычнай апазіцыі. Ужо праз два месяцы пасля публікацыі артыкула Пазняка і Шмыгалёва была створана група пад назвай «Камітэт 58», якая пачала ствараць рэспубліканскі камітэт па дакументаванню сталінскіх злачынстваў. 19 кастрычніка 1988 г. на з'ездзе гэты камітэт быў пераўтвораны ў гісторыка-асветнае таварыства памяці ахвяр сталінізму «Мартыролаг Беларусі» на чале з Зянонам Пазняком. У праграме новастворанай арганізацыі асуджэнне палітычнай сістэмы сталінізму спалучалася з патрабаваннем дэмакратычнага вырашэння эканамічных, палітычных і сацыяльных праблем[8].

30 кастрычніка 1988 г. на *Дзяды* адбылася першая маштабная антысістэмная палітычная дэманстрацыя ў савецкай Беларусі*. З гэтага часу штогод на *Дзяды* адбываюцца шэсці з цэнтра Мінска да Курапат. Гэта месца стала цесна знітаваным з крытыкай савецкага ладу, і шмат у чым спрычынілася да падзення папулярнасці камуністычнай улады. «Курапаты – месца масавых расстрэлаў у 1930-х гг. – становіцца першым "антысавецкім" месцам памяці, якое разбурала маналітнасць савецкай гарадской прасторы і давала спадзеў на магчымасць альтэрнатыўнага вобраза сталіцы Беларусі»[9].

Але ў 1994 г. на прэзідэнцкіх выбарах перамог папуліст Аляксандр Лукашэнка, які ўмела абыграў масавую незадаволенасць насельніцтва эканамічным крызісам пасля распаду Савецкага Саюза, палітычнай нестабільнасцю і хуткай беларусізацыяй публічнай сферы. Пасля 1994 г. новая беларуская дзяржава пачала сімвалічна абапірацца на лепшыя традыцыі савецкага часу на чале з культам Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне[10]. Курапаты з месца крытыкі савецкага ладу паступова набываюць новае значэнне і становяцца кропкай збору для ўсіх незадаволеных лукашэнкаўскім рэжымам.

Зразумела, што надзвычайная сімвалічная моц Курапат як «месца памяці» не магла не выклікаць грамадскія дыскусіі. Яны разгортваліся па двух асноўным накірунках: 1) хто расстрэльваў у Курапатах? Хто нясе адказнасць? (насуперак меркаванню Зянона

---

* Хоць першыя *Дзяды* адбыліся яшчэ ў 1987 г., але ўпершыню гэтае шэсце стала сапраўды масавым і ўпершыню людзі ішлі ў Курапаты.

Пазняка паўстала контрверсія, што гэта месца расстрэлаў габрэяў падчас нацысцкай акупацыі), і 2) колькі ахвяраў ляжыць у Курапатах? Фактычна на гэтыя пытанні мусілі адказаць археалагічныя даследаванні дзяржаўных камісій, якіх было праведзена ажно чатыры ў прамежку паміж 1988 і 1998 гг. На першае пытанне быў знойдзены грамадскі кансенсус (за выключэннем некаторых нязломных апалагетаў камуністычнага рэжыму). Навукова абгрунтаваныя вынікі даследаванняў адназначна сцвярджалі, што адказнасць за расстрэлы ляжыць на НКУС.

Але паўстае пытанне, чаму так істотна адрозніваліся ацэнкі колькасці ахвяраў? Зянон Пазняк у сваім слынным артыкуле сцвярджаў, што ў Курапатах пахавана па прыблізных ацэнках 102 тыс. чалавек, але пры гэтым сапраўдная колькасць забітых у гэтым урочышчы можа дасягаць і 220–250 тыс. чалавек (гэтую максімальную лічбу падтрымлівае і знакаміты брытанскі гісторык Норман Дэвіс[11]). Аргументацыя падлікаў наступная: «Аднак сапраўдная лічба пахаваных павінна быць у 2–2,5 разоў большай і дасягаць, пэўна, 220–250 тысяч. Па-першае, існуе шмат магіл, большых памерам за дасьледаваныя намі, а некаторыя пахаваньні ўяўляюць сабой яміны даўжынёй да 10 м па большым баку. У такіх магілах могуць быць пахаваныя тысячы забітых. Акрамя таго, каля сотні (калі ня больш) магільных западзін было засыпана і потым зьнівэлявана бульдозэрам у час пракладкі газатрасы й высечкі лесу вакол яе ў сакавіку-траўні 1988 г. Мноства магіл зьнікла, калі пракладалі кальцавую дарогу ў канцы 1950 – пач. 1960-х гг., і, магчыма, у 1940-х гг. у час высечак, траляваньня й падсадак лесу на гэтым месцы. Рэальная колькасьць пахаваньняў у Курапатах магла сягаць да 900 магіл, а можа і больш, прычым аб памерах зьнішчаных і засыпаных пахаваньняў мы можам меркаваць толькі па велічыні існуючых цяпер магіл»[12].

Дзяржаўныя камісіі даюць розныя лічбы, так камісія 1988 г. вызначыла, што там пахавана не менш за 30 тыс. чалавек, а паводле падлікаў камісіі 1998 г. у Курапатах пахавана не больш за 7 тыс. чалавек. То бок, лічбы адрозніваюцца ў 30 разоў. Чаму так?

Асноўная праблема заключаецца ў тым, што вызначыць дакладную колькасць ахвяраў на месцы масавых пахаванняў вельмі скла-

дана. Для гэтага трэба 1) вызначыць арэал (тэрыторыю) пахавання; 2) канцэнтрацыю пахаванняў; 3) пераважны тып пахаванняў. Больш-менш дакладна вызначаны толькі плошча пахаванняў у Курапатах, што дало магчымасць акрэсліць межы ахоўнай зоны. На другое і трэцяе пытанне археалагічныя даследаванні дакладных адказаў не далі. То бок, мы маем сітуацыю няпэўнасці, калі ў прынцыпе на падставе наяўных дадзеных немагчыма вызначыць нават прыблізную колькасць пахаваных у Курапатах.

Магчымы іншы метад падліку, які выводзіцца не з археалагічных дадзеных, а з магчымай колькасці ахвяр на падставе архіўных дакументаў. На жаль, пакуль архівы КДБ у Беларусі застаюцца практычна зачыненымі для незалежных даследчыкаў, усталяваць лічбу расстраляных у Курапатах з дапамогай дадзенай метадалогіі застаецца немагчымым. Своасаблівым кампрамісам можна лічыць падлікі, праведзеныя расійскім гісторыкам Аляксандрам Дзюкавым. На падставе агульнасавецкай статыстыкі тэрору ён найперш вывеў агульную лічбу расстраляных НКУС у Беларусі ў 1937–1938 гг. Паводле А. Дзюкава, гэта 28,5 тыс. чалавек. Але, відавочна, што не ўсе расстрэлы адбываліся пад Мінскам, таму даследчык паспрабаваў вызначыць лічбу ахвяраў у Курапатах праз суадносіны спраў, якія вяліся НКУС у Мінску і з дапамогай такога разліку (не вельмі надзейнага) выйшаў на лічбу каля 7 тыс. чалавек[13]. Але трэба адзначыць, што гэтыя падлікі не выклікалі асаблівай рэакцыі з боку беларускіх гісторыкаў, для якіх прасцей спасылацца на неадназначную рэпутацыю Аляксандра Дзюкава[14].

Выбар колькасці ахвяраў абумоўлены не навуковым метадам, а палітычнай неабходнасцю. Колькасць ахвяр – гэта моцны сімвалічны рэсурс. Курапаты нішчаць легітымнасць савецкай сістэмы. Калі сучасная Беларусь абвяшчае сябе спадкаемцам савецкага ладу, то вялікая колькасць ахвяр у Курапатах б’е таксама па легітымнасці актуальнага палітычнага рэжыму. Адпаведна, лічбы ператвараюцца ў інструмент палітычнай барацьбы.

Але апошнім часам у афіцыйным публічным дыскурсе Беларусі дамінуе тэма нацыянальнага адзінства ў дачыненні да гэтага «месца памяці». Прычым тэма адзінства ўпарта транслюецца дзяржаўнымі

выданнямі. З такімі заклікамі выступаюць вядомыя асобы, напр., дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі Вячаслаў Даніловіч («Курапаты павінны быць месцам аб’яднання грамадства, а не расколу»[15]), дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімір Пракапцоў («Мемарыял у Курапатах можа стаць сімвалам аб’яднання»[16]), дырэктар Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея Юрый Кітурка («Курапаты – важнае месца для разумення нацыянальнага адзінства»[17]). Сэнс зразумелы. Усе палітычныя адрозненні губляюць значэнне перад неабходнасцю ўшанавання памяці нявінных ахвяраў. З улікам таго, што нейкія важныя выказванні нашых чыноўнікаў звычайна ўзгадняюцца зверху, такая сінхроннасць у выказваннях паказвае на мэтанакіраваную і ўзгодненую дзяржаўную палітыку ў дачыненні да Курапат.

Але пры ўсёй прыгажосці рыторыкі нацыянальнага яднання, палітычная практыка нагадвае, што Курапаты – гэта важны палітычны і сімвалічны рэсурс. Калі зыходзіць з гэтага, заклікі да адзінства, еднасці і прымірэння ствараюць адмысловыя рытарычныя фігуры, якія хаваюць за сабою рэальную і зацятую барацьбу за гэты надзвычай важны рэсурс.

Мы можам паставіць пытанне наступным чынам: каму належаць Курапаты? Ці, іншымі словамі, хто мае права вырашаць, што рабіць у Курапатах, як ушаноўваць памяць пахаваных ахвяраў? І мы бачым, што гэтае пытанне значна больш складанае, бо за 28 год адсутнасці дзяржавы, сфармавалася некалькі супольнасцяў, якія клапоцяцца пра Курапаты:

1) Гэта асяродак, звязаны з Кансерватыўна-Хрысціянскай партыяй Беларускага Народнага Фронту (гэтая партыя ўзнікла пасля расколу БНФ і ўзначальваецца Зянонам Пазняком, які з 1996 г. знаходзіцца ў палітычнай эміграцыі па-за межамі Беларусі);

2) Ініцыятыва «За ўратаванне мемарыяла Курапаты», якая аб’яднала актывістаў іншых палітычных сіл;

3) Моладзевыя асяродкі, якія фарміраваліся са складу актывістаў арганізацый «Малады фронт» і «Зубр». Яны пераважна мабілізуюцца падчас грамадскіх кампаній у абарону Курапат пры спробах парушыць ахоўную зону (зіма 2001–2002 і люты 2017 г.).

Першы асяродак прэтэндуе на поўную манаполію над Курапатамі. Па-першае, ён можа абапірацца на маральны аўтарытэт Зянона Пазняка, які з'яўляецца «адкрывальнікам» Курапат. Па-другое, актывісты з гэтага асяродка на працягу ўсяго часу займаюцца ўпарадкаваннем гэтай мясціны, усталёўваюць крыжы, сочаць за дрэвамі, прыбіраюць смецце. Але сама партыя КХП–БНФ вылучаецца радыкалізмам і ізаляцыянізмам. Яна займае асаблівае становішча ў асяроддзі беларускай дэмакратычнай апазіцыі, не ўдзельнічае ні ў якіх кааліцыйных праектах, паколькі абвінавачвае іншыя палітычныя сілы ў здрадзе і згодніцтве.

Гэтая радыкальная пазіцыя трансліруецца і на стаўленне да Курапат, паколькі прадстаўнікі гэтага асяродка лічаць (з пэўнымі падставамі), што паколькі яны клапоцяцца пра Курапаты працяглы час, то маюць права вызначаць, што, хто і з якімі ініцыятывамі будзе прыходзіць у гэтае «месца памяці». Напрыклад, талакі ў Курапатах звычайна праводзяцца паасобку: КХП і іншымі сіламі, якія часам спрабуюць аб'яднацца ў «агульнанацыянальную талаку». Стратэгія адасаблення яскрава бачна ў наступных словах актывіста КХП–БНФ Алеся Чахольскага, які наступным чынам пракаментаваў дзейнасць канкурэнтаў: «Мы ўжо гэта не адзін раз праходзілі: раптам вылазяць нейкія людзі, пачынаюць лемантаваць... Так яны лямантавалі ў 2001 годзе, адлямантавалі – і потым 12 гадоў іх было не чуваць. І раптам зноў з'явіліся. Але я на гэта не зважаю, а разам зь сябрамі мы робім беларускую справу і ўшануем свае Курапаты»[18].

Тым не менш, далёка не ўсе палітычныя актывісты належаць да гэтага асяродка і падзяляюць яго пазіцыю. Ініцыятыва «За ўратаванне мемарыяла Курапаты» таксама прэтэндуе на абарону гэтага «месца памяці» і выступае за належную мемарыялізацыю. Так, у 2004 г. ва ўрочышчы быў пастаўлены мемарыяльны камень з надпісам «*Нашым адзінаверцам юдзеям, братам па Кнізе хрысціянам і мусульманам – ахвярам сталінізму ад беларускіх габрэяў*» (цікава, што ў якасці матэрыялу быў выкарыстаны пастамент помніка Сталіну, які калісьці стаяў у цэнтры Мінска).

Але значна больш пярэчанняў выклікала ініцыятыва гісторыка Ігара Кузняцова паставіць у Курапатах памятны крыж, які б ад-

значаў яшчэ адну этнічную групу, якая трапіла ў гарніла масавых растрэлаў, менавіта палякаў. Усталяваны на пачатку снежня 2012 г. крыж з надпісам «*Памяці афіцэраў польскага войска, расстраляных НКУС у красавіку 1940 – чэрвені 1941 гадоў*» прастаяў толькі тры дні. Спробы ўвесці польскі нацыянальны элемент у «месца памяці», якое стала атаясамляцца з беларускім нацыянальным рухам, выклікалі зацяты супраціў[19]. Дзеля справядлівасці варта адзначыць, што дакументальных сведчанняў пра расстрэлы польскіх афіцэраў у гэтым месцы, не знойдзена. Але іншых мемарыялаў ахвярам сталінскіх рэпрэсій у сучаснай Беларусі папросту не існуе. Унутраная барацьба за этнічную ідэнтыфікацыю ахвяраў скончылася кампраміснай фармулёўкай на крыжы: «*Памяці ўраджэнцаў Беларусі – вайскоўцаў польскай арміі, забітых НКУС у 1939–1941 гады*». З такім надпісам крыж стаіць да гэтага часу, і яго рэгулярна наведваюць польскія палітыкі і дыпламаты. З боку першага асяродка гэтая ініцыятыва выглядала «правакацыяй», а Ігар Кузняцоў быў абвешчаны *persona non grata* у Курапатах[20]. Дарэчы, апошняе не замінае яму стала там з’яўляцца і праводзіць экскурсіі[21].

Але і ў выпадку агульнай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыяла Курапаты» барацьба за сімвалічныя рэсурсы перамагае спробы інтэграцыі. Ініцыятыва была створана ва ўмовах супрацьстаяння з беларускай дзяржавай у 2001 г., але ў апошні час фактычна распалася, і на яе месцы ўзніклі дзве новыя ініцыятывы: ініцыятыва «Эксперты ў абарону Курапат»[22] і аргкамітэт па стварэнню грамадскай арганізацыі «Вяртанне памяці», у якім галоўную ролю адыгрывае згаданы вышэй гісторык Ігар Кузняцоў[23].

Дадатковае напружанне ў Курапатах перыядычна стварае беларуская ўлада. У 1993 г. за гэтым месцам быў афіцыйна прызнаны статус гісторыка-культурнай каштоўнасці, што не дае магчымасці прамога ўмяшальніцтва. Але тэрыторыя ахоўнай зоны на ўскрайку Мінска становіцца прыцягальным аб’ектам у сілу свайго выгоднага размешчання. Найбольш значны канфлікт разгарэўся ў 2001–2002 гг. падчас будаўніцтва кальцавой дарогі, якая мусіла праходзіць па спрэчнай тэрыторыі. Разгарэлася зацятае супрацьстаянне паміж палітычнымі актывістамі і дзяржаўнымі органамі за вызначэнне мяжы. Спробы

будаўніцтва сабатаваліся, быў створаны намётавы лагер. У выніку кальцавая дарога была пабудаваная па кампраміснаму маршруту[24]. Але спробы зменшыць ахоўную зону час ад часу паўтараюцца. Яна занадта смачны кавалак для мінскіх чыноўнікаў і бізнэсоўцаў. Апошняя спроба забудовы ў Курапатах адбылася ў лютым 2017 г. Яна зноў нарадзіла агульны супраціў усіх асяродкаў, зноў паўстаў намётавы гарадок, падцягнуліся журналісты, ладзіліся імпрэзы з удзелам вядомых музыкаў і літаратараў. Улады ўрэшце былі вымушаны саступіць. Але адзінства ў абаронцаў нараджаецца толькі ў выпадку знешняй агрэсіі, як толькі такія ініцыятывы саступаюць, зноў пачынаецца раздрай і барацьба за права на мемарыялізацыю.

Такім чынам, мы маем сітуацыю не нацыянальнай еднасці, а канфрантацыі і барацьбы за сімвалічны рэсурс Курапат паміж рознымі групоўкамі. Я не хачу станавіцца тут на чыйсьці бок, проста пазначаю, што гэта цалкам прадказальна, з улікам важнасці і значнасці гэтага рэсурсу. На дадзены момант Курапаты сфарміраваны як «народны мемарыял», але па сутнасці гэта зноў жа вынік крохкага балансу паміж рознымі сіламі.

І вось у гэта складанае і насычанае поле са сваёй ініцыятывай дзяржаўнага кантролю ўваходзіць рэдактар Павел Якубовіч. Прапановы гучаць асцярожна и датычаць навядзення належнага парадку, але насцярожвае тое, што дзяржава вырашыла прысутнічаць у Курапатах.

Чаму дзяржава вырашыла накрыць сваёй апекай гэта месца? Курапаты – гэта насамрэч унікальнае месца для Беларусі, бо на дадзены момант гэта ледзь не адзіная прастора ў краіне, якая засталася па-за дзяржаўным кантролем. Бізнэс, палітыка, адукацыя і навука – усё знаходзіцца ў цесных абдымках ненасытнага Левіяфана. Толькі не Курапаты. Апроч няшчаснага каменя, які я згадваў на пачатку артыкула, да стварэння мемарыялу беларуская дзяржава не мела аніякага дачынення. Больш за тое, межы гэтага месца адстойваліся з надзвычайнай упартасцю «актывістамі памяці». Гісторыя Курапат – гэта адна з нешматлікіх гісторый поспеху ў змаганні грамадзянскай супольнасці з аўтарытарнай уладай.

Тое, што прапаноўваецца зараз – гэта па сутнасці разгортванне

таталітарнай логікі, якая кажа пра неабходнасць прысутнасці дзяржавы ў любой сферы, нават ёй не дужа прыемнай. Пад кантролем мусіць быць усё: ад памеру крыжоў да надпісаў. Рэакцыя, зразумела, вельмі супярэчлівая. З аднаго боку, усе вітаюць тое, што беларуская дзяржава пасля такога працяглага маўчання нарэшце афіцыйна прызнала факт ажыццяўлення масавых рэпрэсій камуністычным рэжымам, сімвалічным спадкаемцам якога яна сябе абвясціла. Але практычная накіраванасць выклікае насцярожанасць. Святлана Алексіевіч, якая магла б стаць кампраміснай фігурай, у сілу свайго нобелеўскага аўтарытэту, адмовілася ўзначаліць дзяржаўную камісію. Сітуацыя застаецца патавай. Гісторыя з Курапатамі далёкая ад завяршэння.

Сакавік 2018 г.

P. S. За час пасля напісання гэтага тэксту ў Курапатах разгарэўся новы моцны канфлікт, звязаны з адкрыццём напачатку чэрвеня 2018 года рэстарацыі пад назвай «Поедем поедим» (пачаткова «Бульбаш-Хол») у непасрэднай блізкасці ад ахоўнай зоны. Але гэта новая канфрантацыя не змяняе па сутнасці высноваў, прыведзеных у тэксце. Мы зноў бачым, што тэрыторыя каля Курапатаў з'яўляецца прывабнай для бізнэс-інвестыцый, якія лёгка пераадольваюць раўнадушша дзяржаўных структур. Фактычна толькі актывісты з'яўляюцца дзейснымі абаронцамі межаў мемарыяла. Але нават мабілізацыя супраць знешняга ворага (у дадзеным выпадку – уладальнікі рэстарацыі) не дазваляе дасягнуць рэальнага адзінства сярод «абаронцаў Курапатаў». Пазіцыя КХП–БНФ застаецца нязменна скептычнай і адасобленай. Толькі адзначу, што пры поўным заняпадзе публічнай палітыкі ў Беларусі Курапаты застаюцца практычна адзінай «кропкай збору» для апазіцыйных актывістаў, якая дае ім магчымасць легітымна займацца пратэстамі. Да жаданай беларускай дзяржавай ідыліі «нацыянальнага адзінства» застаецца вельмі далёка…

Жнівень 2018 г.

*Kurapaty and «Politics of Dead Bodies» in Belarus*

This paper deals with the place and role of Kurapaty in all-Soviet context of mass graves discovery, connection of this *lieu de mémoire* with political mobilization, main controversies over Kurapaty «control» from the point of view intragroup struggle on resources, memorialization strategies. The author points out strong ties between Kurapaty and creation of a national-democratic opposition in Belarus. Memorial status of the place gives it a stunning symbolic resource for which the various political groups are fighting. The degree of conflict has increased due to recent attempts of Kurapaty's regulation by Belarusian officials.

## *Заўвагі*

1 Куропаты должны стать общенациональным мемориалом скорби и памяти. Круглый стол «СБ. Беларусь сегодня». // БелТА. [Электронный рэсурс]. – 24.02.2017. – Рэжым доступу: http://www.belta.by/society/view/kuropaty-dolzhny-stat-obschenatsionalnym-memorialom-skorbi-i-pamjati-kruglyj-stol-sb-belarus-segodnja-234851-2017/ (цікава, што на сайце выдання «Беларусь сегодня» спасылка на матэрыялы круглага стала не працуе – *А. Л.*)

2 Дашчынскі А. Сьвятлана Алексіевіч пра помнік у Курапатах: «Узначальваць такую камісію меў бы права толькі Пазьняк». // Радыё Свабода. [Электронный рэсурс]. – 24.07.2018. – Рэжым доступу: https://www.svaboda.org/a/28434821.html.

3 Историкам из НАН Беларуси поручили подготовить и издать сборник по расстрелам в Куропатах. // TUT.BY. [Электронный рэсурс]. – 24.07.2018. – Рэжым доступу: https://news.tut.by/society/545682.html.

4 Goujon A. Memorial Narratives of WWII Partisans and Genocide in Belarus / East European Politics and Societies. Volume: 24 Issue. 1 (2010). P. 18.

5 Anstett E., Dreyfus J.-M. Introduction: why exhume? Why identify? / Human Remains and Identification: Mass Violence, Genocide and the 'forensic Turn'. By: Gessat-Anstett E.; Dreyfus J.-M. Manchester, 2015. P. 9.

6 Church G. J., Hofheinz P., Kohan J. Haunted by History's Horrors. In allowing Stalin's crimes to be exhumed, Gorbachev is trying (to create a mandate for his reforms. But what if debate about the past calls the legitimacy of the state into question? / Time, 0040781X, 4. 10. 1989.

7 Verdery K. Political Lives of Dead Bodies. Reburial and Postsocialist Change. New York, 2000. P. 20–21.

8 Мірановіч Я., Найноўшая гісторыя Беларусі. Санкт-Пецербург, 2003.

9 Казакевич А. Символика места: забывание и фрагментация «советского» в ландшафте Минска // Неприкосновенный запас. 2011, № 6 (80). [Электронный рэсурс]. – 24.07.2018. – Рэжым доступу: http://magazines.russ.ru/nz/2011/6/k4-pr.html.

10 Marples D. R. 'Our Glorious Past': Lukashenka's Belarus and the Great Patriotic War. Stuttgart, 2014.

11 Davies N. Powstanie '44. Kraków, 2004. S. 195.

12 Пазьняк З., Шмыгалеў Я., Крывальцэвіч М., Іоў А. Курапаты. Мінск, 1994. С. 37.

13 Дюков А. К вопросу о расстрелянных органами НКВД в Куропатах // Международная жизнь. 2017, № 7. С. 149–162. [Электронный рэсурс]. – 24.07.2018. – Рэжым доступу: https://interaffairs.ru/jauthor/material/1890.

14 Миллер А. Роль экспертных сообществ в политике памяти в России / Gefter.ru. [Электронный рэсурс]. – 24.07.2018. – Рэжым доступу: http://gefter.ru/archive/11115.

15 Даніловіч В. Курапаты павінны быць месцам аб'яднання грамадства, а не расколу / БелТА. [Электронный рэсурс]. – 24.07.2018. – Рэжым доступу: http://blr.belta.by/opinions/view/kurapaty-pavinny-byts-mestsam-abjadnannja-gramadstva-a-ne-raskolu-2446/.

16 Мемарыял у Курапатах можа стаць сімвалам аб'яднання // Настаўніцкая газета. 11.03.2017. [Электронный рэсурс]. – 24.07.2018. – Рэжым доступу: https://nastgaz.by/memariyal-u-kurapatah-moja-stac-simvalam-abyadnannya/.

17 Курапаты – важнае месца для разумення нацыянальнага адзінства // Звязда. 25.03.2017. [Электронный рэсурс]. – 24.07.2018. – Рэжым доступу: http://www.zviazda.by/be/news/20170325/1490435581-kurapaty-vazhnae-mesca-dlya-razumennya-nacyyanalnaga-adzinstva.

18 Адны Курапаты – дзьве талакі // Радыё Свабода. 24.05.2013. [Электронный рэсурс]. – 24.07.2018. – Рэжым доступу: https://www.svaboda.org/a/24996547.html.

19 Зянон Пазьняк: «Грамадзтва нашае – няшчаснае» // Радыё Свабода. 27.02.2013. [Электронный рэсурс]. – 24.07.2018. – Рэжым доступу: https://www.svaboda.org/a/24914216.html.

20 «Мы, патрыёты-фронтаўцы, абаронцы Курапацкай сьвятыні абвяшчаем савецкага палітработніка, падпалкоўніка Кузьняцова пэрсонай нонграта на тэрыторыі Курапацкай сьвятыні і на тэрыторыі іншых сьвятыняў, дзе ёсьць пакутнікі нашага народа». Гл.: Партыя Пазьняка аб'явіла

гісторыка Кузьняцова пэрсонай нон-грата ў Курапатах. [Электронный рэсурс]. – 24.07.2018. – Рэжым доступу: https://www.svaboda.org/a/dziady-u-loshycy-live/24760074.html.

[21] Кузьняцоў: I надалей буду наведваць Курапаты // Радыё Свабода. 05.11.2012. [Электронный рэсурс]. – 24.07.2018. – Рэжым доступу: https://www.svaboda.org/a/24760727.html.

[22] «Дзіця галосіць, а за ім бяжыць НКВДыст і страляе». Людзі, якія не баяцца расказваць пра сталінскія расстрэлы ў Курапатах // Citydog. 06.11.2016. [Электронный рэсурс]. – 24.07.2018. – Рэжым доступу: https://citydog.by/post/grass-kurapaty/.

[23] Да дня памяці ахвяр палітычных рэпрэсій // Новы час. 24.10.2017. [Электронный рэсурс]. – 24.07.2018. – Рэжым доступу: https://novychas.by/hramadstva/da-dnja-pamjaci-ahvjarau-palitycznyh-represij.

[24] Гаравы М. Што згубіў і прыдбаў нацыянальны некропаль? // Новы час. 24.02.2017. [Электронный рэсурс]. – 24.07.2018. – Рэжым доступу: http://novychas.by/hramadstva/kurapaty-szto-zhubiu-i-prydbau-nacyjanalny-nekrop.

## Курапаты: плот паміж жыцьцём і смерцю*

*Марат Гаравы*
*(Кобрын)*

У канцы 2013 г. ініцыятыву «Экспэрты ў абарону Курапатаў» склалі спецыялісты ў розных галінах – археолягі, архітэктары, гісторыкі, журналісты, інжынэры, культуролягі, мастакі, скульптары, педагогі, эколягі і юрысты. Ёсць і былыя вязні ГУЛАГу. Сярод прыярытэтаў – судовая абарона Курапатаў і зонаў іх аховы ад чынавенства, «дзялкоў» і вандалаў, адкрыццё імёнаў ахвяраў сталінізму ды іх ушанаваньне, а таксама пашырэньне ведаў пра Нацыянальны нэкропаль.

На сёньняшні дзень сябры грамадзкай ініцыятывы завяршылі дасьледаваньне гістарычнай тапаграфіі Курапатаў. Падчас талокаў 2017 г. большасць аб'ектаў гістарычнай тапаграфіі ўрочышча былі пазначаныя на мясцовасьці.

*Зона*

У выніку дасьледаваньняў з дапамогай архітэктараў Вадзіма Гліньніка і Рамана Забелы стала вядомая ўся траса менскай «Дарогі сьмерці» – ад сутарэньняў будынку НКУС БССР і ягонай унутранай турмы «Амэрыканкі» да расстрэльных ямаў у Курапатах.

Гэты апошні шлях бязьвінных людзей на пагібель у 1930–1940-я гг. пралягаў па цэнтральнай вуліцы беларускай сталіцы – Савецкай – да Камароўкі, ішоў па Лагойскай шашы да цяперашняга

---

* За дапамогу ў падрыхтоўцы публікацыі выказваю шчырую падзяку ўсім актывістам нашай грамадзкай ініцыятывы, у першую чаргу былому вязню ГУЛАГу Зінаідзе Тарасевіч, географу Аляксею Галічу, краязнаўцу Алесю Макаву, мовазнаўцу Вінцуку Вячорку, археолягу Міколу Крывальцэвічу і культуролягу Вацлаву Арэшку.

перакрыжаваньня Лагойскага тракту з вуліцай Гамарніка, дзе да вайны ў вёсцы Зялёны Луг знаходзіўся аднайменны саўгас. У Зялёным Лузе «Дарога сьмерці» разыходзілася двума маршрутамі: палявой грунтоўкай на Дроздава і троху на ўсход – па брукаванай Лагойскай шашы (гл. ілюстрацыю ў Дадатку).

На гравійцы Заслаўе–Калодзішчы абодва маршруты сыходзіліся. Далей «Дарога сьмерці» ішла да варотаў праз плот, які агароджваў месца расстрэлаў. За 194 м ад перасячэньня лініі паўднёва-ўсходняй мяжы рэстаранна-забаўляльнага комплексу (былая назва «Бульбаш-хол», зараз рэстаран «Паедем поедим») з Заслаўскай шашой «Дарога сьмерці» збочвала ўлева пад кутом каля 30° ад гравійкі ў паўднёва-заходнім кірунку. Менавіта каля варотаў і пачынаўся апошні грунтавы ўчастак гэтай дарогі працягласцю 485 м, які складаўся з трох адрэзкаў у 125, 160 і 200 м. Праз 125 м ад пачатку былая грунтоўка збочвала ўлева і ішла па трасе дзейнай і цяпер лясной дарогі да Курапацкай гары (вышыня 235 м).

Дзякуючы разлікам архітэктараў Рамана Забелы і Аляксея Зянько вядомая працягласьць абодвух маршрутаў «Дарогі смерці» – дапаможнага (па палявой грунтоўцы на Дроздава – 10 555 м) і асноўнага (па брукаванай Лагойскай шашы – 12 904 м).

Мікола Няхайчык (1930 г. нар.) зь вёскі Зялёны Луг[1], Аркадзь Пацяршук (1935 г. нар.) з Цны-Ёдкава і Лідзія Крывіцкая (1935 г. нар.) зь Зялёнага Лугу расказалі пра карані тапоніма Курапаты. Мясцовыя жыхары традыцыйна называлі Курапатамі падковападобны ўзгорак, што ў канцы 1930-х – пачатку 1940-х гг. быў пераважна ўзараны. Часткова зарослы хмызьняком, ён прылягаў да самага ўрочышча Брод – з паўночна-ўсходняга боку. Пасля Другой сусьветнай вайны гэты раней «лысы» ўзгорак быў засаджаны лесам і зьліўся з урочышчам Брод у адзіны хваёвы бор. Пасьля адкрыцьця ў гэтым бары ў 1988 г. месца масавых забойстваў ахвяраў сталінізму Курапатамі пачалі называць менавіта тую частку Броду, дзе адбывалася жудасная трагедыя.

Як сьведчыць Вольга Бароўская (1927 г. нар.) з Цны, першыя эпізадычныя расстрэлы на Бродзе адбыліся ў 1932 г., а з 1937 г. забойствы сталі масавымі і адбываліся штодзень. І ня дзіва, як

успамінае Дар'я Тоўсьцік (1911 г. нар.) з Цны, што дарога ў лесе была выкатаная, як асфальт[2]. Спачатку забівалі тройчы на дзень, а потым людзей безупынна вазілі на расстрэлы[3], якія адбываліся да поўнай акупацыі Менску нацыстамі. Прычым сьведкі, напр., Мікола Пацяршук (1929 г. нар.) з Цны і ягоны зямляк Уладзімер Бацян (1928 г. нар.), узгадвалі выпадкі, калі ў Брод адразу прывозілі ахвяраў на пяці грузавіках – крытых аўтазаках і адкрытых машынах з высокімі бартамі[4].

Паводле інспэктара па аўтатранспарце НКУС БССР Язэпа Бетанава (1915 г. нар.), увесну 1936 г. у аўтапарку камэндатуры НКУС, які месціўся на тэрыторыі «Амэрыканкі», налічвалася каля 60 грузавікоў, у т. л. два «аўтазакі» шэрага мышынага колеру, што ў народзе атрымалі назву «чорны варанок». Для транспартаваньня ахвяраў на расстрэл выкарыстоўвалі таксама іншыя аўтамабілі – грузавікі рознага танажу з высокімі бартамі. Прычым у «чорны варанок», разьлічаны на пяць арыштантаў, упіхвалі па 15–20 чалавек[5].

Вольга Бароўская і Лідзія Крывіцкая пацьвердзілі аповед сваякоў Сільвестра Мацкевіча (1909 г. нар.) зь вёскі Скібічы Драгічынскага раёну на Берасьцейшчыне пра тое, што ў Бродзе расстрэльвалі з кулямётаў і што гэта адбывалася нават у першыя некалькі дзён пасьля нападу немцаў.

З адкрытых крыніцаў вядомыя імёны пяцёх забітых у Курапатах. Сярод іх – Мардыхай Шулькес, Мойша Іясеевіч Крамер і Штам. 10 чэрвеня 1940 г. у Горадзенскім астрозе ў іх былі канфіскаваныя грошы, што пазначана на афіцыйных блянках квіткоў, знойдзеных у адным з курапацкіх пахаваньняў. Найбольш верагодным часам расстрэлу гэтых ахвяраў археоляг Алег Іоў лічыць лета – раньнюю восень 1940 г. Дакладна вызначана, што ў Курапатах адпаведна 22 і 27 лістапада 1937 г. былі забітыя менчукі, муж і жонка Сьцяпан і Соф'я Жукоўскія, абвінавачаныя ў супрацы з польскай выведкай. Гэтыя невінаватыя людзі былі рэабілітаваныя толькі праз 22 гады – 5 лістапада 1959 г.[6]

Сьведчаньнямі менчука Алеся Макрушына (1973 г. нар.) у Курапатах лякалізаванае месца, дзе з дапамогай тагачасных васьміклясьнікаў менскай сярэдняй школы № 171 – самога Алеся Макрушына

і Віктара Пятровіча (1973 г. нар.), а таксама іхнага сябра муляра Алега Багі (1970 г. нар.) у 1988 г. беларускія археолягі Зянон Пазьняк, Алег Іоў і Мікола Крывальцэвіч адкрылі таямніцу старога лесу.

У другой палове 1937 г. хваёвы бор на ўзгорку агарадзілі плотам. Зрабіць гэта было шмат прычынаў. Бывала, што людзі ўцякалі з-пад расстрэлу. Прычым, паводле Марыі Пацяршук (1911 г. нар.) з Цны, некаторыя ўцекачы вырataваліся[7]. Дарэчы, пра такія шчасьлівыя ўцёкі з-пад расстрэлу ўзгадвалі шматлікія сьведкі[8]. Тацьцяна Матусевіч (1906 г. нар.) зь Зялёнага Лугу сьведчыла пра выпадак, калі ляснік Караль Кананові ч наткнуўся на засыпаную яму з забітымі, утыканую хвойкамі, а побач знайшоў забытую сялянскую торбачку з кілбасой і хлебам[9]. Пасьля таго як ляснік прыбег у саўгасную кантору і патэлефанаваў у міліцыю ці ў пракуратуру, да яго прыехалі з НКУС і параілі менш прыглядацца, калі хоча жыць[10].

Усё гэта, а таксама масавы характар забойстваў і чуткі па Менску, што пад горадам каля Цны расстрэльваюць «ворагаў народу», прымусіла катаў паставіць драўляны плот. Урэшце загарадзілі хваёвы бор на ўзгорку, не раўнуючы як замчышча. Не ад чужынцаў – ад тутэйшага народу. А найлепшых яго прадстаўнікоў – найбольш працавітых, адукаваных і таленавітых – назвалі «ворагамі народу». Падчас расстрэлаў за плотам, бывала, брахалі сабакі. Загарадку ахоўвалі «энкавэдзісты» ў форме. Дзяжурылі яны кругласуткава, удзень – па 2–3 чалавекі.

Сьведкі Вольга Бароўская, Аркадзь Пацяршук і Лідзія Крывіцкая дапамаглі ўзнавіць выгляд плоту і варотаў, а таксама прыкладныя трасу плоту і месца знаходжаньня варотаў ля Заслаўскай шашы. Плотам была агароджаная частка Броду між шашой Заслаўе–Калодзішчы і Баравой дарогай; з захаду агароджа стаяла на самым краі лесу, а перад ёй расло толькі кустоўе і малады падлесак. Менавіта ў гэтым драбналесьсі і стаялі вароты.

Паводле Івана Церлюкевіча (1935 г. нар.) з Цны, у драўлянай будцы для ахоўнікаў, што месьцілася недалёка ад варотаў на ўзгорку, на сьцяне вісела абмундзіроўка супрацоўніка НКУС, стаялі стол і лаўка. На стале – пачаты пачак папяросаў «Эпоха» тытунёвай фабрыкі расейскага Растова-на-Доне[11]. Каля папяросаў няцяжка

ўявіць бутэльку гарэлкі, кілбасу і бохан хлеба. Якраз гэтыя тавары ахоўнікі часьцяком куплялі ў краме саўгасу «Зялёны Луг». Пры гэтым скардзіліся прадаўцу, што ім цяжка працаваць, – распавядаў сын прадаўца Мікола Няхайчык[12]. І пасьля «кипучей чекистской работы» каты, як звычайна, выпівалі, бо ўдзельнікам «операций» абавязкова выдавалі сьпірт. Як сьведчылі самі «энкавэдзісты», вячэры з выпіўкамі адбываліся ў сталоўцы НКУС[13]. Вось чаму амаль заўжды каты былі нападпітку.

Прыкладнае месца будкі вызначана з дапамогаю нямецкага аэрафатаздымку Курапатаў за 23 чэрвеня 1941 г. і агляду мясцовасьці. Гаворка ідзе пра аб'ект на ўсходнім краі кар'еру, адкуль бралі пясок падчас пракладкі шашы Заслаўе–Калодзішчы ў сярэдзіне 1930-х гг. і дзе пасьля вайны месьціўся стралковы тыр «энкавэдзістаў».

Для надзейнага прадухіленьня ўцёкаў і аховы месца расстрэлаў ад цікаўных таксама выкарыстоўваліся лясная прасека (з паўднёвага боку выгарадкі), роў (з паўднёва-ўсходняга боку агароджы) і, імаверна, назіральныя вышкі, што знаходзіліся на паўднёва-заходнім і паўночна-ўсходнім кутах плоту. Мабыць, пра гэта сьведчаць вялікія ямы, што засталіся ад слупоў вышак. Дарэчы, пра трасу былой лясной прасекі да гэтай пары нагадваюць шматлікія западзіны, што засталіся ад дзесяткаў расстрэльных ямаў, выкапаных побач як па лінейцы – адно да аднаго.

Аднак дакладна лякалізаваць сьляды агароджы, варотаў, будынкаў аховы, першыя 125 м грунтоўкі ды іншых матэрыяльных аб'ектаў ва ўрочышчы можна толькі з дапамогай археалягічных раскопак. На жаль, такія дасьледчыя працы ў Курапатах стануць магчымыя толькі тады, калі сама беларуская дзяржава будзе зацікаўленая адкрыць праўду пра масавыя палітычныя рэпрэсіі савецкага таталітарызму і ўшанаваць памяць бязьвінных ахвяраў.

*Жыцьцё каля плоту*

Пра трагедыю на Бродзе захавалі шмат сьведчаньняў жыхары навакольных вёсак – Цнянкі, Цны, Зялёнага Лугу, Дроздава, Малінаўкі, Падболацця, Якубавічаў і Чыжоўкі. Прычым больш за іншых ведалі пра расстрэлы насельнікі бліжэйшай да бору вёскі Цна, бо

шмат чаго чулі і бачылі. Не было шуму кальцавой, і прыкладна па яе трасе ў той час праходзіла грунтоўка – Баравая дарога, што злучала вёскі Цну і Зялёны Луг. А на Баравой дарозе было ціха. Вось чаму ў Цне было добра чуваць усё, што адбывалася на гары ў Бродзе, асабліва ноччу. Катаў выдаваў гул машын, якія, зьяжджаючы з Заслаўскай шашы ў лес, некалькі разоў паварочвалі налева, і сьвятло фараў грузавікоў падала ў вокны хатаў, што стаялі на горцы з паўднёва-ўсходняга краю Цны (з успамінаў жыхара вёскі Івана Церлюкевіча, 1935 г. нар.)[14].

Сярод жыхароў Цны былі і каты, і праведнікі. Адны забівалі бязьвінных, другія ратавалі. Дачка Сьцяпана і Соф'і Жукоўскіх Галіна Сідзякіна (1924 г. нар.) зь Менску засьведчыла, што да вайны ў вёсцы жыў Рыгор Бацян, які працаваў у НКУС і сп'яну хваліўся аднавяскоўцам, што Жукоўскіх ён сам страляў на Бродзе[15].

Ад жыхароў вёскі Якубавічы Зінаіда Тарасевіч (1937 г. нар.) зь Менску даведалася пра лёс вядомага мясцовага абібока Грышкі Бацяна: «Гэты несусьветны гультай нідзе не вучыўся, не хацеў працаваць, толькі хадзіў па навакольных вёсках у пошуках здабычы альбо проста пабавіць час. І людзі шкадавалі гэтага дзівака і падкормлівалі яго. Грышку было здалёк чуваць, калі ён падыходзіў да чарговай хаты і заўсёды прамаўляў: "Гзачем, гзачем Вы слово дали, гзачем не думали любить?" Мабыць, гэтыя словы зь нейкага верша ён толькі і вывучыў, да таго ж з памылкай. І вось, як аказалася, гэты абібок вельмі спатрэбіўся "энкавэдзістам", бо менавіта ён расстрэльваў людзей у тых самых Курапатах, побач зь якімі жыў у 1930-я гг. Больш за тое, як стала вядома, гэты латруга і мярзотнік, пра якіх у нас кажуць: "Дурны, дурны, але сала любіць!", падчас нямецкай акупацыі Беларусі выдаваў нацыстам мясцовых людзей».

Колькі словаў да характарыстыкі Грышкі Бацяна дадала Вольга Бароўская (1927 г. нар.) з Цны: «Жылі ў нашай вёсцы тры браты Бацяны – Грышка, Міхаіл і Андрэй. Гэтыя гультаі і злодзеі адразу ўступілі ў партыю, каб не працаваць і быць начальнікамі. У каго авечачку, у каго курэй пакрадуць. Я ўжо была замужам, пайшла на працу, а тымчасам Міхаіл зьняў замок з нашага хлява і скраў мае курачкі. А Грышка, які служыў у НКУС, за адну ноч згроб за краты вельмі па-

важаных людзей, у т. л. настаўніка Арсеня Паўлавіча Грушу і доктара Канановіча, імя якога, на жаль, не памятаю. Праз колькі дзён мой малодшы брат, 1924 году нараджэньня, калі ішоў са школы, бачыў, як па Смаргаўскім тракце (цяпер паміж Даўгінаўскім трактам, вуліцамі Арлоўскай і Карастаянавай) браты Бацяны везьлі сабе цэлы воз дабра, нарабаванага ў дамах арыштаваных. Дабра было столькі, што адзін чамадан жоўтага колеру зваліўся з возу, і мой брат схаваў яго ў жыце за Дзядкавым лесам (на захад ад цяперашняга Цнянскага вадасховішча). Потым брат з татам прынеслі да нас гэты чамадан, дзе былі недашытая коўдра, іголкі і нейкія анучы. Вось такія былі браты Бацяны, нічым ня грэбавалі. Была ўлада савецкая, яны падтрымлівалі яе, прыйшла ўлада нямецкая, сталі на бок гэнай. Потым аднаго з братоў забілі, а Грышка пахаваны на мясцовых могілках».

Аднак, апрача вырадкаў Грышкі Бацяна і ягоных братоў, жылі ў Цне і сапраўдныя людзі. Сярод іх – старшыня калгасу «Перамога» Цімох Бацян (1901 г. нар.). Гэты прыстойны чалавек ніколі не зрабіў подласьці – ня выдаў і не прадаў аніводнага земляка, нават пад пагрозай сьмерці[16].

Пра трагічныя лёсы людзей, якія жылі, працавалі, кахалі, нараджалі і выхоўвалі дзяцей каля месца забойстваў у Бродзе, сьведчаць гісторыі двух сем’яў з Цны – Зоі Залецкай (1937 г. нар.) і Вольгі Бароўскай.

Найбольшы стрэс ад сутыкненьня з штодзённым гвалтам і лютасьцю за плотам атрымлівалі дзеці, якім было цікава і незразумела ўсё тое, што адбывалася на Бродзе. Пра адзін такі выпадак апавяла Надзея Няхайчык зь Зялёнага Лугу: «Мой сын Мікола, калі яму было гадкоў сем (ён з трыццатага году), пайшоў зь дзецьмі ў лес у ягады. Вельмі хвалявалася, бо даведалася, што яны скіраваліся туды, дзе расстрэльваюць людзей. Чакала сына, усё прыслухоўвалася, а потым пачула стрэл і ўбачыла, як мой сын бяжыць дахаты, галосіць, а за ім гоніцца работнік НКВД зь пісталетам. Аднекуль прымчаўся мой муж, схапіў за руку “энкавэдзіста” і стаў пытацца, навошта ён стрэліў у хлопчыка. Той пачаў выбачацца, але было відаць, што ён моцна п’яны. Усё паўтараў, што палічыў нашага сына за дарослага, думаў, што хтосьці з-за плоту зьбег»[17].

У выніку апытаньня старажылаў вёсак у навакольлі Курапатаў і ранейшых публікацыяў складзены сьпіс 47 рэпрэсаваных мясцовых жыхароў. Сярод іх – вядомы беларускі пісьменьнік Міхась Зарэцкі, настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, дырэктары Цнянскай школы, земляробы і гаспадары, мясцовыя каваль і доктар.

Пра спробы ўладаў схаваць сьляды злачынстваў і зьнішчыць месца расстрэлаў апавяла Лідзія Крывіцкая (1935 г. нар.) зь Менску: «Праз колькі гадоў пасьля вайны ў вёсцы Зялёны Луг пайшла пагалоска, што на Бродзе сьпілуюць лес, пні выкарчуюць, а тэрыторыю бульдозэрамі выраўняюць пад ральлю. Супраць гэткіх плянаў паднялася адважная жанчына, рабочая саўгасу Лідзія Яцук (1913 ці 1914 году народзінаў), якая сама выхоўвала сына, бо муж загінуў на вайне, як і мой бацька. Гэтая ўдава нікога не баялася і адкрыта казала, што нельга араць Брод, бо там увесь лес на касьцях, а поля ў саўгасе і так зашмат, толькі працоўных рук бракуе. Менавіта Лідзія Яцук вымусіла тагачаснага дырэктара саўгаса, былога партызана, чалавека прыстойнага (імя і прозьвішча ягонае ня памятаю) пайсьці на прыём да адпаведнага міністра, каб скасаваць гэтыя пляны. І, як ні дзіўна (гэта ж былі сталінскія часы!), настойлівасьць сьмелай Лідзіі Яцук дала свой плён. Пасьля таго як міністар наведаў нашыя мясьціны, улады адмовіліся ад плянаў узараць Брод і пакінулі гэтае месца ў спакоі, а потым вырашылі пашыраць ва ўрочышчы плошчы пад пасадкі лесу».

Дарэчы, дзякуючы сьведкам было лякалізаванае месца, дзе на Дзяды 30 кастрычніка 1988 г. адбыўся гістарычны мітынг падчас шэсьця ў Курапаты, разагнаны міліцыяй. Вывучэньне здымкаў з архіву пісьменьніка і навукоўца Алеся Адамовіча, якія перадала ягоная дачка Натальля Адамовіч, а таксама апытаньне ўдзельнікаў мітынгу пацьвярджаюць, што падзея адбылася ва Уруччы, каля МКАД, у раёне перакрыжаваньня сучасных вуліц Гінтаўта і Гарадзецкай, перад сучасным тралейбусным паркам № 1 УП «Менсктранс». Спадзяемся, што з цягам часу на гэтым месцы паўстане адпаведны мемарыяльны знак.

## *Сьпіс 47 жыхароў вёсак у навакольлі Курапатаў, рэпрэсаваных у 1930–1940-я гг. (складзены на падставе вусных успамінаў)*

- Мясцовы настаўнік Грыневіч. Быў арыштаваны да вайны.
- Антон Матусевіч (1906 г. нар.). Жыў на хутары, дзе цяпер трамвайны прыпынак на вул. Сядых у Менску. Быў арыштаваны 19 лістапада 1937 г. 28 снежня таго ж году расстраляны ў Менску як агент польскай выведкі.
- Настаўнік беларускай мовы і літаратуры Цнянскай школы Маслоўскі. Быў забіты партызанамі падчас нямецкай акупацыі.
- Настаўніца батанікі Цнянскай школы. Была забітая пасьля вайны.
- Дырэктар і выкладчык беларускай мовы і літаратуры Цнянскай школы Цітовіч. Быў забіты пасьля вайны.

(*Паводле Лідзіі Крывіцкай, 1935 г. нар. зь вёскі Зялёны Луг.*)

- Сям'я Скварчэўскіх з Дроздава – 8 чалавек. У 1930-я гг. НКУС выслаў дваіх – бацьку і сына. Пяцёра дзяцей сына і ягоную жонку не чапалі. Аднак бацькаву хату адабралі і перавезьлі на торфазавод (цяпер торфабрыкетны завод «Цна»), што ў той час дзейнічаў недалёка ад вёскі.
- Андрэй Філіповіч, Сьцяпан Церлюкевіч, Сяргей Воранаў і Павел Дзятко з Хмарынскай Цны. Былі расстраляныя ў 1937 г.
- Сям'я Шалімаў з Новай Малінаўкі з трох чалавек была раскулачаная ў 1930 г. Гаспадара Хведара Цімохавіча расстралялі, а гаспадыню Домну Паўлаўну і сына Зьмітра выслалі ў Сьвярдлоўскую вобл. Ніхто зь іх на Бацькаўшчыну не вярнуўся.
- Сям'я Зенчык з Чыжоўкі – 11 чалавек: Настасься Паўлаўна Зенчык, яе дзеці Ўладзімер, Антаніна, Іван, Кацярына, Тацьцяна, Вікенцій, Вера і Павел, а таксама нявестка Вера і ўнучка Алена. Сям'ю раскулачылі ўначы з 3 на 4 сакавіка 1930 г. і выслалі на Поўнач СССР. Ніхто зь іх на Бацькаўшчыну не вярнуўся, апрача Тацьцяны з дачкой Зінаідай, народжанай у ГУЛАГу ў 1937 г. (цяпер – старшыня Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў Зінаіда Тарасевіч).
- Сям'я Мільгуй з Цнянкі – 4 чалавека: Віталь Мільгуй, Лізавета Мільгуй-Тоўсьцік зь вёскі Падбалоцце, дзеці Алесь і Соф'я. Сям'ю ў 1930-я гг. раскулачылі і выслалі на капальні золата на Калыму. Пакольні золата прадавалі ў ЗША, вязьні адносна добра харчаваліся і выжылі.

(*Паводле Зінаіды Тарасевіч, 1937 г. нар. зь Менску.*)

- Беларускі пісьменнік Міхась Зарэцкі, сапр. Міхаіл Яўхімавіч Касянкоў (20 лістапада 1901 г., в. Высокі Гарадзец Сеньненскага пав. Магі-

лёўскай губ. (цяпер Талачынскі раён Віцебскай вобл. – 29 кастрычніка 1937 г., Менск, НКУС). Да вайны жыў у Цне. Імаверна, расстраляны ў Курапатах.

- Каваль Уладзімер Залецкі (05.08.1900–05.08.1973). У 1932 г. яму забаранілі жыць у Менску, і ён вымушаны быў пасяліцца ў бацькоўскай сядзібе ў Цне. Праз тры гады выслалі ў Быхаў, а ў 1937 г. асудзілі на 10 гадоў лагераў. Калі пачалася вайна, зьбег з Калымы, аднак яго злавілі і клеймавалі. Удалымі былі другія ўцёкі. Зімою 1942 г. таварнякамі дабраўся да Усьць-Каменагорску. На мясцовым базары, распухлага ад абмарожаньняў, яго выратаваў ад немінучай пагібелі старшыня мясцовага калгасу. Там бацька працаваў і адтуль на пачатку 1944 г. пайшоў на фронт артылерыстам пад прозьвішчам *Залескі*. Быў узнагароджаны мэдалём «За баявыя заслугі». Пасьля вайны, пазьбягаючы новых рэпрэсіяў, уладкаваўся на працу ў вёсцы Сьлепні пад Менскам. І толькі праз гады сам выправіў прозьвішча ў вайсковым білеце на сапраўднае. Але так і не дачакаўся рэабілітацыі.

(*Паводле Зоі Залецкай, 1937 г. нар. з Цны.*)

- Зьміцер Бароўскі (1918–1994), былы франтавік, з Цны. Быў высланы на Салаўкі, але перад вайною вызваліўся і вярнуўся дахаты. Пасьля забойства 22 верасьня 1943 г. гаўляйтэра Беларусі Зьміцер Бароўскі па падазрэньні ў падрыхтоўцы замаху год правёў у вязьніцы гестапа. Пасьля вызваленьня Беларусі ўдзельнічаў у Другой сусьветнай вайне. Аднак праз тое, што выйшаў жывым з рук нацыстаў, 29 сьнежня 1949 г, быў арыштаваны «энкавэдзістамі» і асуджаны на 10 гадоў лягераў на Калыме. Вызваліўся ў 1956 г.
- Дырэктар Цнянскай школы Арсен Груша і мясцовы доктар Канановіч. Былі арыштаваныя ў адну ноч вясною 1938 г. супрацоўнікам НКУС і жыхаром Цны Грышкам Бацяном. Расстраляныя.

(*Паводле Вольгі Бароўскай, 1927 г. нар. з Цны.*)

- Двух мужчынаў Стрыго з Падбалоцця забралі ноччу ў 1937 г.

*(Паводле Матруны Мантасавай, 1914 г. нар. з Зялёнага Лугу. Гл.: Пазьняк З., Шмыгалёў Я. Курапаты – дарога сьмерці // Літаратура і мастацтва, 1988, 3 чэрвеня.)*

- Трох жыхароў вёскі Якубавічы расстралялі за тое, што адзін на аднаго па злосьці нагаварылі.

(*Паводле Валянціны Шаханавай, 1929 г. нар. з Цны. Гл: Пазьняк З., Шмыгалёў Я. Курапаты – дарога сьмерці // Літаратура і мастацтва, 1988, 3 чэрвеня.*)

- Быў арыштаваны Зароўскі, потым браты Іван і Васіль Стрыго з Падбалоцця, затым настаўнік Касьцюк, і, урэшце, Антон Матусевіч. Паводле архіўных сьведчаньняў, браты Стрыго і Антон Матусевіч праходзілі ў адной справе і былі расстраляныя як «агенты польскай выведкі». У 1950-я гг. гэтая крымінальная справа была прыпыненая «праз адсутнасьць у іхных дзеяньнях складу злачынства».

  (*Паводле Тацьцяны Матусевіч, 1906 г. нар. зь Зялёнага Лугу. Гл: Тарнавский Г., Соболев В., Горелик Е. Куропаты: следствие продолжается. Москва, 1990. [Электронны рэсурс] – 30.07.2018. – Рэжым доступу: https://freedocs.xyz/view-docs.php?pdf=453296930.*)

# *Дадатак*

*Ілюстр. 1. Схема гістарычнай тапаграфіі Курапатаў*




1. Маршруты «Дарогі сьмерці».
2. Месца першапачатковай лакалізацыі тапоніму «Курапаты».
3. Плот.
4. Вароты.
5. Будкі ахоўнікаў (назіральныя вышкі?).
6. Крама саўгасу «Зялёны Луг».
7. Траса былой ЛЭП.
8. Інжынерныя камунікацыі.
9. Прасека.
10. Роў.
11. Месца, дзе ў траўні 1988 г. з дапамогай вучняў менскай СШ № 171 беларускія археолягі адкрылі таямніцу старога лесу.
12. Па выніках раскопак гэтай магільнай западзіны ў 1997–1998 гг. былі ідэнтыфікаваныя парэшткі Моўшы Крамера, Мардыхая Шулькеса і Штама – вязьняў Горадзенскага астрогу, забітых НКУС у Курапатах ўлетку-увосень 1940 г.
13. Найбольшая ў Курапатах магільная западзіна памерам 7,5×5,3 м, дзе ў 1998 г. былі паднятыя парэшткі ня менш як 373 чалавек са зьвязанымі рукамі (у т. л. 19 жанчын), забітых позьняй восеньню 1938 – зімой 1939 г.

*Ілюстр. 2. Нямецкі аэрафотаздымак Курапатаў і наваколля ад 23 чэрвеня 1941 г. З прыватнага збору Паўла Растоўцава (Менск)*




Гэты здымак дапамог аднавіць апошнюю частку маршруту «Дарогі сьмерці» – ад Лагойскай шашы да найвышэйшага пункту Курапатаў (235 м)

*Ілюстр. 3. Лідзія Крывіцкая (1935 г. нар.) зь вёскі Зялёны Луг (здымак 1956 г.)*



Гэтая сьведка шматлікіх падзеяў у лясным ўрочышчы стала жыве ля самых Курапатаў з 1939 г. Менавіта ад спадарыні Лідзіі мы дазналіся пра першую абаронцу Курапатаў – адважную Лідзію Яцук. Яшчэ ў сталінскія часы гэтая ўдава, муж якой загінуў на фронце, рашуча ўзьнялася ў абарону ляснога ўрочышча і захавала для нашчадкаў гэтае сьвятое месца. Апрача таго, Лідзія Крывіцкая дапамагла аднавіць паходжаньне тапоніма Курапаты і гістарычную тапаграфію бору, данесла да нас сьведчаньні пра начныя расстрэлы ў лесе з аўтаматычнай зброі ў самым пачатку вайны, пра апошні рэйс «чорнага ворана» ў Курапаты, калі немцы ўжо займалі Менск, а таксама пра тое, як пасьля вайны ўлады хавалі сьляды злачынстваў.

*Ілюстр. 4. Кацярына Багайчук (1919 г. нар.) зь вёскі Цна-Ёдкава*



На фотаздымку справа муж спадарыні Кацярыны, зьлева брат мужа. Абодва родам з Украіны. У Беларусі трапілі ў палон ды так і засталіся. У артыкуле Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты – дарога сьмерці» («Літаратура і мастацтва», 3 чэрвеня 1988 г.) прыводзяцца сьведчаньні Кацярыны Багайчук, паводле якой штодзень у Бродзе стралялі і машыны гулі. Бывала, як толькі вечар, мужчыны зьбяруцца, выйдуць на двор, паслухаюць, як страляюць, пагавораць гэтак ціха, пабядуюць і разыходзяцца.

*Ілюстр. 5. Алесь Генералаў (1935 г. нар.) зь вёскі Цна-Ёдкава*



Перад самаю вайною шасцігадовым хлопчыкам вырашыў пацікавіцца, а што ж там, за агароджай. Але дзіцёнка спаймаў ахоўнік у форме НКУС, пасьля чаго Алесь больш за плот ані кроку. Паводле Алеся Генералава, па вёсцы хадзілі чуткі, што за загарадкай забіваюць «ворагаў народу», але шмат хто лічыў ахвяраў невінаватымі. З Цны было добра чуваць стрэлы, што даносіліся зь лесу, у асноўным па начах.

*Ілюстр. 6. Цімох Бацян (1901–1979) зь вёскі Цна-Ёдкава*



Перад вайною быў старшынём мясцовага калгасу «Перамога». Паводле Зянона Пазьняка («Шумяць над магілай сосны…» // «Літаратура і мастацтва», 16 чэрвеня 1988 г.), спадар Цімох – прыстойны чалавек, які ніколі не зрабіў подласьці – ня выдаў і не прадаў аніводнага земляка. Калі забралі любімага настаўніка мясцовай дзятвы Арсеня Паўлавіча Грушу, Цімох Бацян не зачыняў дзьвярэй сваёй хаты перад няшчаснай жонкай арыштаванага, таксама настаўніцай Вольгай Іванаўнай, і падтрымаў адзінокую жанчыну ў бядзе. У адказ на адмову спадара Цімоха выдаваць энкавэдзістам «ворагаў народу» старшыню калгасу ўначы схапілі і павезьлі ў Брод. Калі на краі ямы прыставілі наган да горла і пад страхам сьмерці патрабавілі назваць імёны тых, хто павінен пайсьці за плот, мужчына закрычаў: «У мяне няма ворагаў!» Ка́ты не забілі Цімоха Бацяна, відаць, таму, што не хапіла фармальнасьцяў.

*Ілюстр. 7. Вольга Бароўская-Мацкевіч (1927 г. нар.) зь вёскі Цна-Ёдкава.*



Вольга Бароўская-Мацкевіч – сьведка расстрэлаў у Курапатах. Распавядала, што, апроч адзіночных стрэлаў, на Бродзе былі чутныя і чэргі, бо «парою трашчала, як смажаны гарох на патэльні». Падрабязна апісала канструкцыю варотаў, што стаялі ля самай гравійкі на Заслаўе. Былі яны вялікія – вышынёю ў плот (больш за 2,5 м) з дошак і жэрдак, зьбітых цьвікамі. Гэтыя простыя (бяз стрэшкі і гзымсаў) і доўгія нефарбаваныя шэрыя двустворкавыя вароты адчыняліся і зачыняліся звонку на клямку, што накладалася на прабой, куды ўстаўляўся вісячы замок, а знутры – на кручок ці штабу. Дзірку ўнізе паміж зямлёй і варотамі закладалі дошкай. Распавядала, што плот атачаў усю тэрыторыю расстрэлаў, на захадзе цягнуўся ад варотаў ля Заслаўскай шашы ўздоўж ускрайку лесу амаль да Баравой дарогі, што праз Брод зьвязвала Цну зь Зялёным Лугам.

На здымку – вясельле Вольгі Мацкевіч зь Зьмітром Бароўскім (1918 г. нар.) пасьля ягонага вяртаньня з Другой сусьветнай вайны. Вёска Цна, 1946.

### *Kurapaty: the fence between life and death*

Investigation of historical topography of Kupataty was held by activists of the civil initiative «Experts in the defense of Kurapaty» in 2014–2017. The study focuses on: traces of the main and optional routes of «road of death» from Minsk center to the top of Kurapaty Mount and its length; the roots of the name «Kurapaty»; the type of the fence and gate that in the second half of 1937 enclosed live fire range in the forest Brod; the place of the gate and the fence; other objects of live fire range,

including the moat, forest glade, gatehouse and, probably, watch towers; the place of the farm shop «Zialiony Luh»; Tsna village plan with the names of the owners of plots of land in the beginning of the German-Soviet War; localization of the place where in May 1988 the Belarusian archaeologists led by Zianon Paznyak with the help of Minsk schoolboys uncovered Kurapaty secret.

### *Заўвагі*

1 Тарнавский Г., Соболев В., Горелик Е. Куропаты: следствие продолжается. Москва, 1990. [Электронны рэсурс] – 30.07.2018. – Рэжым доступу: https://freedocs.xyz/view-docs.php?pdf=453296930
2 Пазьняк З., Шмыгалёў Я. Курапаты – дарога сьмерці // Літаратура і мастацтва, 1988, 3 чэрвеня.
3 Тамсама.
4 Тарнавский Г., Соболев В., Горелик Е. Куропаты: следствие продолжается. Москва, 1990. [Электронны рэсурс] – 30.07.2018. – Рэжым доступу: https://freedocs.xyz/view-docs.php?pdf=453296930
5 Тамсама.
6 Тамсама.
7 Пазьняк З., Шмыгалёў Я. Курапаты – дарога сьмерці // Літаратура і мастацтва, 1988, 3 чэрвеня.
8 Тарнавский Г., Соболев В., Горелик Е. Куропаты: следствие продолжается. Москва, 1990. [Электронны рэсурс] – 30.07.2018. – Рэжым доступу: https://freedocs.xyz/view-docs.php?pdf=453296930
9 Пазьняк З. Шумяць над магілай сосны… // Літаратура і мастацтва, 1988, 16 верасьня.
10 Тарнавский Г., Соболев В., Горелик Е. Куропаты: следствие продолжается. Москва, 1990. [Электронны рэсурс] – 30.07.2018. – Рэжым доступу: https://freedocs.xyz/view-docs.php?pdf=453296930
11 Тамсама.
12 Тамсама.
13 Тамсама.
14 Тамсама.
15 Пазьняк З. Шумяць над магілай сосны… // Літаратура і мастацтва, 1988, 16 верасьня.
16 Тамсама.
17 Тарнавский Г., Соболев В., Горелик Е. Куропаты: следствие продолжается. Москва, 1990. [Электронны рэсурс] – 30.07.2018. – Рэжым доступу: https://freedocs.xyz/view-docs.php?pdf=453296930

# Урочышча Хайсы пад Віцебскам як месца масавых расстрэлаў ахвяр камуністычнага рэжыму

*Ян Дзяржаўцаў*
*(Віцебск)*

Захоп улады бальшавікамі ў Расіі ў 1917 г прывёў да Грамадзянскай вайны і абярнуўся шматмільённымі ахвярамі сярод грамадзян СССР. Бальшавіцкія лідэры Ленін і Сталін залілі крывёю краіну. Дыктатарскі рэжым Сталіна праводзіў бесчалавечныя эксперыменты над народам. Падчас Грамадзянскай вайны, індустрыялізацыі, калектывізацыі і Вялікага тэрору камуністы без суда і следства забілі і закатавалі ў турмах і ГУЛАГу мільёны людзей.

Асабліва пацярпелі ад бальшавіцкага нашэсця Украіна і Беларусь. Украіна толькі ад Галадамору страціла больш за 6 мільёнаў чалавек. Страты Беларусі склалі каля 300 тыс. чалавек забітымі, а каля 1,5 млн былі асуджаны на турмы, лагеры і ссылку. Большасць з іх былі закатаваны або памерлі ад голаду, холаду, інфекцый і знясілення.

Упершыню пра ГУЛАГ і сталінскія рэпрэсіі я пачуў у дзяцінстве ад свайго дзеда Максіма, які калісьці жыў у Вунаўскім латышскім нацыянальным сельсавеце на хутары Новае Клішына Лёзненскага раёна Віцебскай вобл. Дзед распавядаў, што шмат латышоў было выслана на Салаўкі і ў Сібір, дзе большасць з іх загінула. Дадому вярнуліся адзінкі. Дарэчы, мой дзед у 1928 г. набыў сядзібу ў латыша Аляксандра Шлякана, якога пазней выслалі ў Сібір. Пра сталінскія рэпрэсіі распавядалі таксама дзедавы суседзі. Так, Аляксандр Грачышнікаў расказваў, што з яго вёскі забралі на Салаўкі 12 чалавек, а выжылі толькі двое.

Падчас працы ў Дзяржаўным архіве Віцебскай вобл. я цікавіўся сталінскімі рэпрэсіямі ў Лёзненскім раёне і знайшоў сляды больш чым 5 тыс. рэпрэсаваных. У той жа час у кнізе «Памяць» па Лёз-

ненскаму раёну спіс рэпрэсаваных складаўся з чатырох дзясяткаў прозвішчаў. Утойванне сапраўднай колькасці рэпрэсаваных жыхароў Беларусі – гэта частка злачыннай палітыкі Камуністычнай партыі і савецкай улады. Яе рэцыдывы відавочныя і сёння ў нашай краіне.

Шмат год я шукаю звесткі пра рэпрэсаваных у архівах, бібліятэках і музеях, збіраю вусныя ўспаміны пра рэпрэсіі і рэпрэсаваных. Таксама выяўляю месцы расстрэлаў ахвяр камуністычнага рэжыму. Так, у 2014 г., дзякуючы братам Івану і Сяргею Кудзінавым, адшукаў такое месца ў 1,5 км ад вёскі Хайсы. Сяргей Рыгоравіч Кудзінаў распавёў, што яшчэ напрыканцы 1980-х гг. знайшоў у лесе каля Хайсы чалавечыя парэшткі і паведаміў участковаму Мазалаўскага сельсавета, старшыні сельсавета і святару Лужаснянскай царквы. Але іх рэакцыя была нечаканай. Братам Кудзінавым было сказана, што разбяруцца… без іх. Аднак насамрэч нічога не было зроблена.

11 лістапада 2014 г. сябры КХП-БНФ напісалі заявы ў праваахоўныя органы Віцебска і ініцыявалі пачатак разбіральніцтва. У лесе з’явіліся міліцыянеры, якія забралі косткі (у т. л. чатыры прастрэленыя чалавечыя чарапы), і распачалі даследчую праверку. Яна цягнулася некалькі месяцаў. У выніку заявіцелям паведамілі што крымінальная справа ўзбуджацца не будзе, бо парэшткам больш за 50 год і немагчыма ўстанавіць прычыну іх смерці. Хоць было відавочна, што ўсе чарапы прастрэляныя ў патыліцу кулямі з кольтаў і наганаў, а таксама з вінтоўкі Мосіна.

У верасні 2015 г. я запрасіў ў Хайсы вядомых археолагаў з Інстытута гісторыі НАН Міколу Крывальцэвіча і Валянціну Вяргей. Яны агледзелі 13 раскапаных ям з чалавечымі парэшткамі і прыйшлі да адназначнай высновы: усё, як у Курапатах.

З сярэдзіны кастрычніка па лістапад 2015 г. у Хайсах праводзілі раскопкі пошукавікі 52 асобнага батальёна Узброеных сіл Беларусі, якія знайшлі парэшткі 172-х чалавек. Парэшткі яшчэ 60-ці чалавек мы знайшлі ўвесну 2015 г. падчас працы па добраўпарадкаванню могілак. Косткі былі складзены ў дзве кучы і прыкрыты галінкамі елак. Пра гэта мы паведамілі міліцыі, але тая нават не запрасіла нас на размову. Парэшткі міліцыянерам паказваў ляснічы Лосвідскага

лясніцтва. Дарэчы, тое ж адбылося і ў лістападзе 2014 г. І тады нас таксама не паклікала міліцыя, каб мы паказалі, дзе ляжаць чалавечыя косткі, а Следчы камітэт не прызнаў нас заяўнікамі. Адпаведна мы не атрымалі вынікаў судмедэкспертызы і не даведаліся пра іншыя дзеянні следчых.

Лёс парэшткаў, якія былі забраны міліцыянерамі па нашай заяве ад 29 красавіка 2015 г., нам невядомы, бо яны праігнаравалі нашу заяву. Не выключана, што гэтыя парэшткі былі знішчаны.

Падчас раскопак 2015 г. было знойдзена адзенне і абутак ахвяр (галошы і туфлі былі выпушчаны не пазней 1937 г.), манеты (не пазней 1937 г.), 45 гільз і куль ад кольтаў, тры кулі – ад наганаў, тры кулі – ад вінтоўкі Мосіна і тры кулі замежнай вытворчасці (нямецкая, французская і чэхаславацкая), а таксама невялікі фрагмент нямецкага мундзіра. Дарэчы, хто яго насіў, і як ён трапіў да археолага 52 батальёна В. Д. Таміліна засталося для нас таямніцай. Але на падставе гэтага фрагмента і трох куль замежнай вытворчасці Тамілін заявіў, што ва ўрочышчы Хайсы людзей расстрэльвалі немцы. Адпаведна, праз год у кастрычніку 2016 г. супрацоўнікі Віцебскага райвыканкама запрасілі вайскоўцаў і пад грукат барабанаў і салют з удзелам вучняў з Далжанскай і Мазалаўскай школ пахавалі парэшткі людзей у воінскай брацкай магіле каля чыгуначнай станцыі Лосвіда як ахвяр нямецкай акупацыі Беларусі. Большага блюзнерства мясцовыя ўлады ўчыніць не маглі...

З 2014 па 2017 г. я апытаў і запісаў успаміны 32-х рэспандэнтаў, якія засведчылі, што ва ўрочышчы Хайсы расстрэльвалі супрацоўнікі НКУС, а не нямецкія акупанты. Аднак супрацоўнікі органаў КДБ Віцебска і Мінска, у якія мы тройчы звярталіся з запытам наконт масавых расстрэлаў НКУС у Віцебскай вобл., сцвярджалі, што ім нічога невядома.

Аднак пра гэта памятаюць людзі. Так, жыхар в. Хайсы Зміцер Сцяпанавіч Ганчароў (1928 г. нар.) распавёў, што ў дзяцінстве ён жыў у в. Мазалава і ўлетку пасвіў бычкоў са сваім сябрам Паўлам Борухавым. Аднойчы бычок згубіўся. Хлапчукі пабеглі яго шукаць і ўбачылі машыну, якая ішла па Гарадоцкай шашы і звярнула на пераезд насупраць хутара Хайсы. Потым праз некаторы час сябры пачулі

стрэлы і пабеглі на гукі, бо палічылі што нехта забіў бычка. Хацелі ўбачыць злодзеяў. Аднак натыкнуліся на ачапленне міліцыянераў, якія іх прагналі. Зміцер Ганчароў прыбег да хаты і расказаў маці аб здарэнні, а тая сказала, што, калі нават згубяцца ўсе бычкі, каб яны ні ў якім разе не хадзілі ў той лес, бо там «энкавэдэшнікі» расстрэльваюць людзей. Як пазней высветлілася, пра гэта ведалі ў в. Мазалава ўсе дарослыя.

Таксама варта пераказаць аповед Вячаслава Тамашавіча Буевіча, бацька якога працаваў леснікам і жыў у в. Дрыколле. Аднойчы аднавяскоўцы паведамілі яму, што ўначы нібыта крадуць лес, бо ў лесе бачылі фары аўтамашын. Ляснік выправіўся, каб праверыць сігнал. Позна ўвечары ён, сапраўды, убачыў фары аўтамашыны, якая ехала па лясной дарозе. Яна спынілася на паляне. З кабіны выйшлі людзі, якія адчынілі кузаў і сталі выцягваць людзей, ставіць іх на калені і страляць ззаду ў патыліцу. Ляснік моцна напалохаўся, упаў на зямлю і ляжаў, пакуль забойцы не зарылі яму і не з’ехалі. Потым ён падышоў да месца расстрэлу і ўбачыў, што там ужо нават пасаджаны маладыя елкі.

Гэта пераказ толькі двух аповедаў (з 32-х), якія я пачуў ад жыхароў навакольных вёсак. Дзякуючы ім, мы даведаліся пра месцы забойстваў ва ўрочышчы Хайсы.

У 2017 г. ізноў ад вяскоўцаў сябры Аргкамітэта па стварэнню грамадскай арганізацыі «Хайсы» даведаліся, што ў тым самым урочышчы прыблізна ў 400 метрах ад вядомага месца расстрэлаў знойдзены яшчэ 13 ям, вакол якіх валяліся шматлікія чарапы і косткі. Улады зноў выклікалі 52 батальён. Былі знойдзены парэшткі каля 300 чал. Гэтым разам не было аніводнай нямецкай гільзы ці кулі. Усе яны былі толькі ад наганаў, кольтаў, ТТ і адна гільза – ад маўзера. Таксама было шмат даваенных манет, жаночага і мужчынскага абутку, выробленага не пазней за 1936 г, былі акуляры, мужчынскія і жаночыя грэбні, зубныя шчоткі з імёнамі ўладальнікаў, партсігары, муштукі, гаманцы, у адным з якіх нават былі паперы, што забралі следчыя. На адным з жаночых грабянёў было накрэмзана імя і частка прозвішча ўладальніцы: *Оля Дан.* Працяг прозвішча аказаўся на адламанай частцы грэбня.

Пошукі па базе дадзеных «Мемарыяла» дазволілі знайсці сярод ахвяр рэпрэсій настаўніцу 30-й латышскай школы г. Віцебска Ольгу Данцыт, 1910 г. нар., родам з вёскі Матушова Лёзненскага раёна Віцебскай вобл. Яна была абвінавачана ў прыналежнасці да латышскай контррэвалюцыйнай арганізацыі і расстраляна ва ўрочышчы Хайсы 30 красавіка 1938 г. разам з тымі, хто праходзіў па той самай следчай справе. Усе яны (64 чалавекі) былі расстраляны ў тую трагічную ноч катамі НКУС БССР.

У раскопках ізноў ўдзельнічаў ў якасці археолага сумна вядомы В. Д. Тамілін. Але гэтым разам у раскопках прымаў удзел таксама археолаг, старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі Алег Вільгельмавіч Іоў, які раней працаваў у Курапатах разам з Міколам Крывальцэвічам і Зянонам Пазняком. Як мы ведаем, камуністы пад цяжарам неабвержных фактаў вымушаны былі прызнаць Курапаты месцам масавых бальшавіцкіх расстрэлаў.







*Знаходкі ва ўрочышчы Хайсы (2017)*

У сваім інтэрв'ю ў Хайсах 4 мая 2017 г. Алег Іоў заявіў журналісту газеты «Беларусь сегодня» па Віцебскай вобл. Сяргею Галесніку, што без сумневу ў Хайсах ляжаць ахвяры сталінскага рэжыму. Гэта таксама пацвердзіў Інстытут гісторыі НАН Беларусі ў сваім адказе лісце Аргкамітэта па стварэнню грамадскай арганізацыі «Хайсы». А вось супрацоўнікі Віцебскага райвыканкама, у які мы звярталіся з запытаннем пра ўшанаванне памяці ахвяр камуністычных рэпрэсій, адказалі, што не маюць справаздачы вайсковай часткі № 28443 аб выніках працы пошукавага батальёна. Але гэта хлусня. Мы ведаем, што вайскоўцы і Інстытут гісторыі НАН Беларусі ўжо ў чэрвені 2017 г. пераслалі ў Віцебскі райвыканкам свае справаздачы і заключэнні.

Падобна, што мясцовая ўлада, а канкрэтна адміністрацыя Віцебскага райвыканкама зноў імкнецца перакласці віну за забойствы мірнага насельніцтва з НКУС СССР на нацыстаў, як гэта ўжо зрабілі ў 2015 г. Будзем спадзявацца, што гэтым разам падмануць грамадскасць не атрымаецца. Людзі павінны ведаць, што ва ўрочышчы Хайсы пад Віцебскам у 1930–1940 гг. у час Вялікага тэрору праводзіліся масавыя расстрэлы ахвяр камуністычнага рэжыму.

### *Khaisy outside Vitsebsk as a place of mass executions of communist regime victims*

In 2014–2017 members of initiative group of organizing non-governmental organization «Khaisy» discovered the place of mass executions of communist regime victims in an area Khaisy. The results of excavations prove that it is the place of executing at least 530 people who were shot to death by NKVD in the second half of 1930s. But local administration (Vitsebsk district executive committee) tries to gloss over about this place and do nothing to commemorate those who died here.

# Калектыўная памяць пра савецкія рэпрэсіі ў вусных успамінах

*Вольга Іванова,*
*канд. гіст. навук (Мінск)*

З канца 80-х гг. XX ст. у гістарычнай навуцы Беларусі пачаў актыўна выкарыстоўвацца метад вуснай гісторыі. Праз індывідуальны жыццёвы вопыт асобнага чалавека і яго памяць гэты падыход праблематызаваў, актуалізаваў і суб'ектывізаваў гістарычныя даследаванні. Вусная гісторыя ў Беларусі на сённяшні дзень ўжо прайшла некалькі этапаў ад пошуку альтэрнатыўных традыцыйным новых гістарычных крыніц да іх сістэматычнага збірання, аналізу і спробаў інтэрпрэтацыі як асобнага самадастатковага носьбіта інфармацыі[1]. Пералік тэмаў, якія распрацоўваліся метадам вуснай гісторыі, з-за недахопу ці з-за недаступнасці іншых крыніц, пачынаючы з 1990-х гг., з аднаго боку ёсць дастаткова шырокім, з іншага – традыцыйным. Гэта тэмы, як правіла, дыскусійныя, траўматычныя і выклікаючыя інтарэс грамадства. Адной з іх з'яўляецца тэма савецкіх рэпрэсій.

У онлайн-сховішчы «Беларускі архіў вуснай гісторыі (БАВГ)» знаходзіцца каля 1 350 успамінаў жыхароў Беларусі, якія ахопліваюць асноўныя сюжэты яе гісторыі XX ст. Каля 400 успамінаў утрымліваюць згадкі савецкіх рэпрэсій на кожным з асноўных этапаў, што адрозніваюцца зместам, метадамі і маштабамі рэалізацыі а таксама катэгорыямі рэпрэсаваных. Ва ўспамінах адлюстроўваюцца наступныя падзеі:

– пачатак 1930-х гг. – арышты і высылкі сялян, першая хваля раскулачвання;

– перыяд «Вялікага тэрору 1937–1938 гг.» (уключаў г. зв. «польскую аперацыю» НКУС ды інш. нацыянальныя аперацыі) у БССР (Усходняя Беларусь);

– высылкі і раскулачванне 1939–1941 гг. у Заходняй Беларусі (другая хваля);

– высылкі і раскулачванне 1949–1952 гг. у Заходняй Беларусі (трэцяя хваля);

– арышты ў Заходняй Беларусі пасля 1939 г.;

– пасляваенныя арышты за супрацоўніцтва з немцамі, арышты остарбайтараў;

– рэабілітацыя і пошук звестак аб рэпрэсаваных іх роднымі 1950–1990-я гг.;

– 1990-я гг. – працэс рэабілітацыі і выплат кампенсацый сем'ям рэпрэсаваных.

Толькі чатыры калекцыі БАВГ збіраліся непасрэдна па тэме рэпрэсій – гэта калекцыі гісторыкаў Ніны Стужынскай (32 успаміны), Ірыны Раманавай (13 успамінаў), Віртуальнага музея савецкіх рэпрэсій (40 успамінаў), «Мемарыяла» (3 успаміны). У астатніх інтэрв'ю – тэма рэпрэсій узгадвалася ў кантэксце біяграфічнага аповеду. Пры гэтым амаль не звярталася ўвага на факталагічны бок падзей. Сярод сабранага можна вылучыць некалькі асноўных катэгорый рэспандэнтаў:

– арыштаваныя ў 1930–1940-я гг. (Соф'я Грыц, Сяргей Яноўскі, Леанід Шкода, Надзея Дземідовіч, Рыгор Клімовіч, Юзэф Шудзель, Леакадзія Шышэя, С. Шаўроў, Канстанцін Ган, Мікалай Гіцэвіч, Аляксандр Кандратчык, Ірына Волкава, Віктар Сікора, Вера Касмовіч ды інш. – больш 20 асобаў);

– арыштаваныя остарбайтары (Уладзімір Стругацкі ды інш.);

– народжаныя ў лагерах і высылцы (Уладзімір Раманоўскі, Соф'я Эбергарт, Міхаіл Харытановіч, Зінаіда Тарасевіч ды інш.);

– высланыя з Усходняй Беларусі (Ніна Лятучая, Марыя Шпак, Марыя Філіповіч, Марыя Рублёва, Мікалай Мельнікаў, Зінаіда Купрына, Даніла Мікітчык, Сафія Смагур ды інш. – каля 20 асобаў);

– высланыя з Заходняй Беларусі (Павел Абадзінскі, Зінаіда Мандрык, Станіслаў Траскевіч, Уладзімір Бабчанок, Крысціна Яфімчык ды інш. – каля 20 асобаў);

– дзеці і сваякі арыштаваных і высланых (самая шматлікая катэгорыя – каля 200 асобаў);

– аднавяскоўцы арыштаваных і высланых (шматлікая катэгорыя – каля 100 асобаў).

Апошнія две катэгорыі – гэта пераважна жыхары сельскай мясцовасці, па нацыянальнасці беларусы, 1920–1930-х гг. нараджэння. Паўната і дакладнасць прамоўленых звестак залежаць ад ступені ўцягнуцасці ў падзеі (найбольшая ў арыштаваных, найменшая – у аднавяскоўцаў), ступені іх траўматычнасці, наяўнасці ў рэспандэнтаў звестак з дзяржаўных установаў (найбольшая факталагічнасць звязана з пераказваннем інфармацыі афіцыйных дакументаў).

*Калектыўная памяць дзяцей «польскіх шпіёнаў»*

Даволі грунтоўную ў вуснагістарычным кантэксце тэму рэпрэсій можна праілюстраваць на падставе ўспамінаў дзяцей «польскіх шпіёнаў» – асобаў, якія былі арыштаваныя падчас г. зв. «польскай аперацыі» НКУС 1937–1938 гг. Яе пачатак звязаны з загадам Мікалая Яжова № 00485 ад 11 жніўня 1937 г. «Аб фашыстска-паўстанцкай, шпіёнскай, дыверсійнай, паразнай і тэрарыстычнай дзейнасці польскай выведкі ў СССР»[2].

Паводле загаду, вызначалася 6 катэгорый насельніцтва, якія падлягалі арышту. Вельмі шырокая шостая група – «найбольш актыўная частка мясцовых антысавецкіх і нацыяналістычных элементаў польскіх раёнаў» – патэнцыйна ўключала ў сябе насельніцтва ўсяго польска-беларускага памежжа, не толькі польскага паходжання, але таксама іншых нацыянальнасцяў. Першапачаткова на выкананне «польскай аперацыі» адводзілася тры месяцы. Яна павінна была пачацца 20 жніўня і закончыцца 20 лістапада 1937 г. Аднак гэты тэрмін неаднаразова падоўжвалі, і канчатковай датай заканчэння аперацыі стала 1 верасня 1938 г.[3] Большасць арыштаваных абвінавачвалася ў розных відах шпіянажу, шкодніцтве, удзеле ў падпольных арганізацыях, антысавецкай агітацыі, сувязях з польскай выведкай, падрыхтоўцы тэрарыстычных актаў супраць прадстаўнікоў савецкай улады ды інш.

Арыштаваных адносілі да першай ці другой катэгорыі. Першая прыгаворвалася да расстрэлу, другая – да высылкі на 5 ці 10 гадоў. Пры гэтым высылцы падлягалі спачатку і сем’і рэпрэсаваных па

першай катэгорыі, а пасля толькі сем'і «здольныя на актыўныя антысавецкія дзеянні», а таксама тыя, што пражывалі ў памежнай паласе[4].

Памежная паласа была ў цэнтры ўвагі НКУС. У разгар аперацыі (кастрычнік 1937 г.) наркам НКУС БССР Б. Берман падрыхтаваў аналітычную запіску, у якой падкрэслівалася, што асноўная контррэвалюцыйная дзейнасць праводзілася ў памежных раёнах[5]. Значная ўвага надавалася жыхарам хутароў, якіх у памежных раёнах налічвалася больш 40 тыс. Атрымлівалася, што большасць насельніцтва хутароў, якія знаходзіліся на памежжы, была звязана з роднымі, якія пражывалі ў Польшчы. Па меркаванні НКУС, яны таксама з'яўляліся базай стварэння г. зв. «контррэвалюцыйных падпольных арганізацый»[6]. На лёс жыхароў памежных раёнаў таксама паўплывала ліквідацыя Дзяржынскага раёна ў ліпені 1937 г., што прывяло да істотнага пераразмеркавання людскіх і адміністрацыйных рэсурсаў і масавых «зачыстак».

Пры гэтым вядомыя архіўныя матэрыялы ўтрымліваюць толькі статыстычныя дадзеныя аб расстраляных і вывезеных. У гэтыя дакументы зрэдку траплялі прозвішчы «простых людзей». Звычайна там сустракаюцца звесткі пра арыштаваных кіраўнікоў калгасаў, прадпрыемстваў, арганізацый, ці г. зв. «слёзніцы» былых супрацоўнікаў НКУС. У большасці выпадкаў дакументы ўтрымліваюць толькі шаблонныя формулы «арыштаваны», «асуджаны», «расстраляны», але шмат хто не ведаў і гэтага, не кажучы пра прычыны арышту, асабісты лёс ці месца пахавання. За сухімі афіцыйнымі формуламі схаваныя лёсы дзесяткаў тысяч людзей, іх страты, слёзы, траўмы, пра якія сёння можна даведацца толькі праз успаміны сведкаў падзей.

У БАВГ можна вылучыць 30 успамінаў дзяцей, сваякоў і аднавяскоўцаў тых асобаў, якія былі арыштаваныя падчас г. зв. «польскай аперацыі» НКУС 1937–1938 гг. у БССР. У большасці яны былі запісаныя на былым савецка-польскім памежжы 1921–1939 гг. ад в. Малешава на поўдні да г. Дзісны на поўначы. Заўважу, што памежжа з'яўляецца спецыфічным рэгіёнам, які аказвае ўплыў на свядомасць і самаідэнтыфікацыю рэспандэнтаў, але таксама рэгіёнам, дзе

рэпрэсіі былі найбольш жорсткімі і масавымі. Больш 200 успамінаў, сабраных на памежжы, першапачаткова мелі на мэце даследаванне палітычных і сацыяльна-эканамічных трансфармацый у Заходняй Беларусі пасля восені 1939 г. Аднак на пярэдні план даследаванняў таксама выйшла праблематыка рэпрэсій у 1937–1938 гг. у БССР. Прычым яна прысутнічала ва ўспамінах жыхароў не толькі з усходняга, але і з заходняга боку былой «Рыжскай мяжы».

Наўпрост пытанне аб рэпрэсіях амаль не задавалася. Калі рэспандэнтаў прасілі расказаць пра сваіх бацькоў, і пра тое як сям'я жыла да вайны, яны распавядалі пра арышты, страту бацькі. Іншае пытанне, якое выводзіла на аповед пра рэпрэсіі, было пытаннем пра мяжу, якая займала адно з цэнтральных месцаў у жыцці рэспандэнтаў памежнага рэгіёна. У выпадках калі рэспандэнты не мелі блізкіх і сваякоў сярод рэпрэсаваных, працавала пытанне пра рэпрэсаваных аднавяскоўцаў. Звычайнымі адказамі былі: «шмат вывозілі», «усіх мужчын забралі» ды інш. Сталая прысутнасць тэмы рэпрэсій у аповедзе сведчыць пра яе значны траўматычны ўплыў на лёс і свядомасць рэспандэнтаў.

Паспрабую рэканструяваць калектыўную памяць[7] дзяцей «польскіх шпіёнаў» з дапамогай аналізу індывідуальных успамінаў і іх узаемадзеяння з гістарычнай і запазычанай памяццю.

*«Эта ж было дзецкая жызня, дзецкае врэмя…»*
*Дзіцячая памяць пра рэпрэсіі*

Рэспандэнты 1920–1930-х гг. нараджэння, якія ў час Вялікага тэрору былі яшчэ дзецьмі, апавядаюць праз прызму свайго дзіцячага досведу. Іх інтэрпрэтацыя падзеяў, з аднаго боку можа адрозніваецца ад інтэрпрэтацыі дарослых, а з іншага – утрымліваць існуючыя стэрэатыпы. Дзеці часткай свядомасці звязаныя з дарослымі. Адпаведна тое, што турбуе дарослага, хвалюе і дзіцячы розум. Але з-за недахопу досведу ці ўвагі сэнс многіх фактаў застаецца зразумелым толькі часткова[8].

Найбольш ярка ў дзіцячай памяці захаваліся вобразы таго, як забіралі бацьку. Для большасці суразмоўцаў гэта была апошняя з ім сустрэча.

- *Вот, мне было 9 лет, когда не стало отца. 9 или 10, так. В 37-м году. Это 10 лет, да. Его чекисты пришли ночью арестовали и увезли. И всё. И следов нет. (Шаўчук Сцяпан Савіч, 1927 г., в. Малы Малешаў, Жыткавіцкі р-н // БАВГ. 20(1) – 430 – 1134. 00:05:01).*

Дзіцячыя ўспаміны пра апошнюю сустрэчу з бацькам зафіксавалі спробы развітацца і тыя эмоцыі, якія перажывалі сямейнікі.

- *Я помню, папа сядзеў, як яго арыстоўвалі і дзяржаў на руках яго, маленькага [брата]. (Дземідовіч (Крывічанін) Анастасія Антонаўна, 1927, в. Вольберавічы, Докшыцкі р-н // БАВГ. 46(1) – 868 – 3598. 00:24:07).*
- *Папы ў нас не было… Папу забралі от нас пяцерых дзяцей в 37-м году… Без ніякага ні суду, нічога… Я гэта добра помню… Прыехалі. Шукалі нешта. Шо ж ты знойдзеш, калі дзеці пяцёра?! (Туміловіч (Станілевіч) Ганна Рыгораўна, в. Сверынава, Стаўбцоўскі р-н // БАВГ. 40(1) – 594 – 1875. 00:01:06).*
- *Прыехалі НКВД... Я пабегла ў школу за братам... Прывяла дамоў... А як павялі, мы ззадзі беглі за бацькам, плачучы. Яны вывернуліся і гавораць: «Дзеткі, не бяжыце, к вечару прыйдзець». А ён і сягоння не прыходзіць (Цялушка (Грачушнік) Кацярына Віктараўна, 1929, в. Шпакоўшчына, Полацкі р-н // БАВГ. 46(1) – 862 – 3546. 00:01:39).*

Забіралі, як правіла, «усіх мужчын» і ў «адну ноч», што сведчыць аб паралізуючым страху і тым горы, якое перажывалі людзі, як малыя, так і дарослыя.

- *У Веліком Бокові жыў Сідор, Цярошко і Патап Ярашэвіч… Разом з маім бацьком забралі, у адну ноч (Дуброва (Мішота) Надзея Апанасаўна, 1928, в. Стараселле, Мазырскі р-н // БАВГ. 32(1) – 537 – 1560. 00:19:03)*
- *У нас было дзесяць дамоў і ўсіх забралі дзесяць мужчын і ніхто не вярнуўся… У адзін дзень, у адну ноч… І ніхто не вярнуўся*[9] *(Грынюк (Юркевіч) Валянціна Емельянаўна, 1928, в. Бараўскія, Дзяржынскі р-н // БАВГ. 40(1) – 669 – 2443. 00:24:50).*

Страх узмацняўся прысутнасцю мяжы і хутароў.

- *Очэнь опасно было жыць [каля граніцы]. Дажэ мая мама была рада, што нас перасялілі ў Магілёўскую вобл., а не вывезлі ў Сібір ці што… Каб атца не забралі, дык зусім добра было б… Пра бацьку мала помню… Яго забралі… Ён з хутару, з багацейшай сям'і (Шпілеўская (Сарнацкая) Ядвіга Іванаўна, 1933 г., в. Дубава, Дзяржынскі р-н // БАВГ. 40(1) – 678 – 249. 00:01:43).*
- *А после пад корэнь усех... З этых футарэй… 37-ы год, ні аднэй раніцы*

*спакойна не было. Бралі падрад!.. У 37-м годзе Ячмянёвага, несматра, што он быў начальнік заставы... І яго забралі (Шакаль Канстанцін Уладзіміравіч, 1925, в. Целяшэвічы, Дзяржынскі р-н // БАВГ. 40(1) – 679 – 2493. 00:18:09).*

Захаваліся сведчанні пра сувязь арыштаў з наступнымі высылкамі і адсяленнямі сем'яў, жанчын з дзецьмі з памежных вёсак.

- *Мужыкоў у асноўным бралі… А жанчын ужо после тады адсялялі. У Баравыя, дзе Шунеўка… І ў Шклоў высылалі (Ільініч (Ціхановіч) Любоў Міхайлаўна, 1928, в. Вольберавічы, Докшыцкі р-н // БАВГ. 46(1) – 875 – 3629. 00:21:06 – 00:26:13).*

Так у памяці тагачасных дзяцей выглядалі асноўныя сюжэты звязаныя з рэпрэсіямі 1937–1938 гг., да якіх можна аднесці масавыя арышты, блізкасць мяжы і наяўнасць хутароў. Аналагічныя аспекты прасочваюцца таксама ў афіцыйных дакументах.

*«Адзін аднаго здавалі…» Даносы.*

Наступным ужо больш дарослым і больш асэнсаваным вобразам, было тлумачэнне таго «за што забіралі?» Пры гэтым, як правіла, казалі пра арышты па даносах, часам нават ведалі хто даносіў і чаму.

- *[Дзядзька] Іван іграў-іграў, а тады запеў: «Дзякуй Сталіну-грузіну, што абуў нас у рэзіну». Гэтые ўзялі ананімку напісалі, і яго зразу ноччу хватанулі[10]… (Тамук Віктар Вікенцьевіч, 1932, в. Папкі, Дзяржынскі р-н // БАВГ. 40(1) – 665 – 2431. 00:27:23-00:34:00).*

Да даносчыкаў рэспандэнты найчасцей адносілі суседзяў, а таксама асобы на кіруючых пасадах. Ілюстрацыйнай у гэтым сэнсе з'яўляецца гісторыя, рэканструяваная на падставе ўспамінаў з памежнай вёскі Кавальцы Дзяржынскага р-на (калгас «Чырвоны памежнік»). Як асноўнага даносчыка рэспандэнты называлі Марыю Людвігаўну Янкоўскую, першую старшыню калгаса ў Кавальцах, потым загадчыцу малочна-таварнай фермы. Яна мела дзяржаўную ўзнагароду ордэн «Знак пашаны» за 5 «уласнаручных затрыманняў» парушальнікаў мяжы. Гэткую ж узнагароду атрымаў і старшыня суседняга таксама памежнага калгаса І. І. Шпілеўскі.

І. І. Лысюк ў артыкуле «Дазорнымі былі ўсе…» адзначаў: «У нялёгкія перадваенныя гады практычна ўсё цывільнае насельніцтва

Койданаўскага р-на ўдзельнічала ў работах на дзяржаўнай граніцы. А многія (у т. л. М. Л. Янкоўская) праявілі сябе у самай адказнай і небяспечнай справе – затрыманні парушальнікаў»[11]. Але ў вусных успамінах высвятлілася не гераічная, а трагічная праўда.

- *Забралі… У мяне бацьку забралі… У 1938… Адзін аднаго здавалі… Майго бацьку была такая Янкоўская называлася… Яна заведуюшчая фермы… Там цялё мёртвае нарадзілася, за гэта і забралі яго… Яе мужык у кавальні работаў… Кажа: «Павезлі твайго бацьку. Туда яму і дарога». А назаўтра самога забралі (Барысевіч Уладзімір Казіміравіч, 1933, в. Кавальцы, Дзяржынскі р-н // БАВГ. 40(1)–668–2442. 00:11:00).*

Бацьку рэспандэнта Казіміра Казіміравіча Барысевіча (1901 г.) арыштавалі 15 чэрвеня 1938 г. як агента польскай выведкі. Ён быў расстраляны ў Барысаўскай турме 31 кастрычніка таго ж года. Мужа Янкоўскай, калгаснага сталяра Альфрэда Паўлавіча (1898 г.) арыштавалі праз тры тыдні 7 ліпеня 1938 г. таксама як агента польскай выведкі. Але ён быў асуджаны на 10 гадоў лагера. Арышт мужа, здаецца, ніяк не паўплываў на лёс самой Янкоўскай.

Карціну «польскай аперацыі» ў Кавальцах дапаўняе яшчэ адно сведчанне:

- *У нас у дзярэўне дваццаць дзевяць мужыкоў забралі… Друг на друга штота... Не знаю пачэму… Кагда папу забіралі, дык траёх забралі (Прыстром (Марэцкая) Антаніна Адамаўна, 1928, в. Кавальцы, Дзяржынскі р-н // БАВГ. 40(1) – 671 – 2512. 00:03:00 – 00:10:00).*

Сапраўды, 15 чэрвеня 1938 г. у в. Кавальцы былі арыштаваныя тры калгаснікі: згаданы Казімір Барысевіч, а таксама Адам Марэцкі (1891 г.) і Канстанцін Залатар (1882 г.). Усе яны атрымалі вышэйшую меру пакарання.

Дадзены сюжэт звяртае ўвагу на той факт, што афіцыйная палітыка, скіраваная з аднаго боку на г. зв. сціранне «класавых супярэчнасцяў», прыводзіла да змены спрадвечных маральных каштоўнасцяў, падзяляла людзей беларускай вёскі на ахвяраў і катаў, пераможцаў і пераможаных. Прызнанне ўладаў можна было атрымаць толькі шляхам злачынных, па меркаванні вяскоўцаў, дзеянняў.

Паводле рэспандэнтаў, даносчыкаў праз некаторы час спасцігала справядлівае пакаранне (напр., хваробы) або сустрэча з ахвярамі даносаў, што было пэўнай формай расплаты.

- *Ён тады хварэў. Гэтулькі гадоў ляжаў за гэта, што ён пісаў на людзей. Былі ж гэткія врэдныя людзі, …[што] пісалі на людзей (Анастасія Дземідовіч).*
- *После ўжэ зналі, хто іх папродаў… Дык устрэчаліся, ды кажуць «Ну што, гад, палягчэла, што ты мяне выслаў?» (Віктар Тамук).*

*«Ні аднаго врага не забралі, тока чэсных людзей…»*
*Ацэнка рэпрэсій*

Ад афіцыйных дакументаў вусныя ўспаміны адрозніваюцца ацэнкамі падзей, эмоцыямі, адчуваннем несправядлівасці і незразумеласці сітуацыі. У адносінах да арыштаў, нават органы НКУС фіксавалі шмат выказванняў пра рэпрэсіі супраць «нявінаватых» і «лепшых» людзей. Адзначалі панічныя настроі сярод польскага насельніцтва Дзяржынскага р-на і Мінска, страхі арышту[12].

На пытанне пра прычыны арыштаў найчасцей казалі пра адсутнасць віны арыштаваных або прызнаваліся ў неразуменні прычын арышту.

- *Ні аднаго врага не забралі, тока чэсных людзей. Хто-та напісаў, … прыехалі, схвацілі і ўсё. У нас чалавек можа восем схвацілі так, і дзярэўня небальшая (Кляпец Сямён Сцяпанавіч, 1927, в. Пруды, Ушацкі р-н // БАВГ. 46 – 833 – 3413. 00:12:36 - 00:21:28)*
- *А хто знае чаго тады арэстоўвалі?! Тады ўсіх арэстоўвалі падрад… А за што нас выслалі, беднягаў такіх? Мы галодные і голые жылі, і нас выслалі (Валянціна Грынюк)*

Таксама арышты тлумачыліся сваякамі ў Польшчы, блізкасцю мяжы, крадзяжамі ў калгасе, патрэбамі дзяржавы і асаблівасцямі гістарычных варункаў, ці патэнцыйнай небяспекай наяўнасці мужчынскага насельніцтва на памежжы. Але ўсе абвінавачванні рэспандэнты звычайна лічылі няслушнымі і неадпаведнымі праўдзе.

- *Рускіе всех мужыкоў од граніцы забралі! Вродзе з полякамі тут связные былі. Хто іх знае!? (Малькевіч Іван Філарэтавіч, 1922, в. Грабава Жыткавіцкі р-н // БАВГ. 20(1) – 378 – 949. 00:42:02)*
- *І за што ж? Ён ні хадзіў за граніцу! Будта бы за граніцу хадзіў! (Налівайка Францішка Эдвардаўна, 1929, в. Язвіны, Капыльскі р-н // БАВГ. 40(1) – 687 – 2517. 00:31:45)*

- *Он не краў. Он такі буў чоловек, што не краў… (Харытановіч Таццяна Якаўлена, 1933, в. Новае Леніна, Жыткавіцкі р-н // БАВГ. 20(1) - 329 – 864. 00:04:00).*
- *«Я, Пелагія, прыду. Я нічога нідзе не зробіў». А прышлі да забралі. Усех мужчын такіх выбралі, штоб не воевалі (Лінкевіч Алена Адамаўна, 1937, в. Новыя Мілевічы, Жыткавіцкі р-н // БАВГ. 20(1) – 377 – 946. 00:05:01).*
- *Так нада была, наверна. Каму-то... (Валянціна Грынюк).*
- *Там не спрашывалі, сколько ты віноват. Там, наверно, добра іздзевалісь. Такіе врэмена былі (Бялко Еўдакія Рыгораўна, 1928, в. Дварэц, Тураўскі р-н // БАВГ. 20(1) – 425 – 1109. 00:17:12).*
- *Тады ж тут быў Цанава, кат. Яны з Берыем работалі дваём. Гэны там душыў, а гэты тутака. І катуюць... (Віктар Тамук).*

Часта абвінавачванні супраць «польскіх шпіёнаў», прымушалі рэспандэнтаў задумвацца аб уласнай ідэнтычнасці, якая адрознівала іх ад палякаў, а таксама адмяжоўвацца ад родных, што жылі за мяжой. Гэтаму садзейнічала палітыка арыштаў па «польскай справе» прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў. У першую чаргу арыштоўваліся тыя, хто раней пражываў у Польшчы, а потым па нейкіх прычынах апынуўся ў Савецкім Саюзе. Потым забіралі тых, хто падтрымліваў сувязь з грамадзянамі Польшчы, і нарэшце – іх сяброў і блізкіх[13]. Большасць арыштаваных былі палякамі, але далёка не ўсё.

- *Прыпісалі радню ў Западнэй. А ў нас сягоння няма яе. Радні… (Кацярына Цялушка).*
- *Папы ў нас не было… Папу забралі... Ён нідзе не быў. Но яго радня была ў Польшчы[14]. (Ганна Туміловіч).*
- *Ну хто ураг народа?.. Янкоўскі, Шыркоўскі, Пятроўскі, Казлоўскі, бо ў іх былі такія прозвішчы… Значыць яны урагі народа (Шыркоўская Інэса, 1930 г., г. Гомель // БАВГ. 9–221–674. 00:22:58).*

Рэпрэзентатыўнай з’яўляецца гісторыя Зоі Апанасаўны Грыц (1907 г.), арыштаванай у 1933 г. за тое што перайшла мяжу з Польшчай і вучылася ў БДУ на польскім аддзяленні літаратурнага факультэта[15]. Таксама былі арыштаваныя яе браты і бацька. Бацька яшчэ да рэвалюцыі працаваў настаўнікам і катэгарычна не прымаў польскую ўладу, быў сябрам Беларускай сялянска-

работніцкай грамады. Тым не менш, арыштаваны ён быў як «польскі шпіён».

Відавочна, што палітыка ўладаў была скіраваная на стварэнне падставаў для канфлікту ў ацэнках чалавечага вымярэння падзеяў, дэматывацыі і страты ідэнтычнасці. З іншага боку, самі рэспандэнты, на момант інтэрв'ю, як правіла, мелі дастатковы ўзровень рэфлексіўнасці, каб не ўвайсці ў канфлікт з уласнай ідэнтычнасцю і ацаніць падзеі, як знешняе ўздзеянне, якое не мела рэальных падстаў у рэчаіснасці.

Шырокі спектр тлумачэнняў і ацэнак на гэтым не вычэрпваўся, бо далейшы лёс родных быў невядомы. І ў сувязі з гэтым вобразы заснаваных на рэальных фактах падзей дапаўняліся ўласнай інтэрпрэтацыяй. Такія вобразы, з аднаго боку, давалі ілюзію разумення сітуацыі, а з іншага – дапамагалі яе перажыць.

- *Дак прагаварвалі после, што ў цэркві ў подвалі замуравалі, да оны там гулі як пчолы… Гэта па-людцкіх толькі ўжэ казках. Што, кажуць, яны поўміралі ат удуш'я. Замуравалі наглухо (Дуброва Надзея Апанасаўна, 1928, в. Стараселле, Мазырскі р-н // БАВГ. 32(1) – 537 – 1560. 00:19:03).*
- *Бацьку [у турме] дзерэво прыбіло. Людзі оттуля з цюрмы прыйшлі і нам казалі… (Тацяна Харытановіч).*
- *[Бацьку] прыехалі ноччу забралі і зразу катавалі – золото ці е. Калі е золото – давай. Дык адпусцім. Ён кажа, дзе ў мяне золота? Адкуда магло быць золота. Тутака прадзяржалі, мусіць, нядзелю, тады аддалі ў Паланевічы. Ну, расследавалі, што невіновен і адпусцілі (Віктар Тамук).*
- *В камере тихонько было просверлена дырочка и передавалися записочки кое-какие. И он передал записку, мой отец, что – Михаил и брат Матвей, я тоже здесь. Но, когда вывели их на прогулку, они друг друга не узнали. Они были все такие заросшие, на них не было человеческого виду. Они встретились и быстро расстались (Сцяпан Шаўчук).*

Тлумачэнне падзей было важнай часткай перажывання стратаў. Ацэнкі даваліся з пункту гледжання афіцыйнай прапаганды, рэальных умоў жыцця на памежжы і працы ў калгасе, нацыянальнай і сацыяльнай ідэнтычнасці, пазнейшых звестак пра рэпрэсіі, а таксама зыходзячы з жыццёвага разумення сітуацыі і створаных уласных вобразаў падзей.

*«Будзеш шпіёнам…» ці моўны вобраз рэпрэсій*

Моўныя вобразы і паняцці, якія выкарыстоўваюцца рэспандэнтамі ў нарацыях, дазваляюць убачыць мяжу паміж памяццю ўласнай, калектыўнай і «памяццю афіцыйнай». Гэтыя напластаванні складана выявіць і размежаваць іншымі метадамі.

Абраная катэгорыя рэспандэнтаў з'яўляецца дастаткова цэласнай. Так, усе яны – жыхары сельскай мясцовасці, пераважна з нясконачанай сярэдняй адукацыяй, размаўляюць гаворкамі беларускай мовы, часта змешанай з расійскай. У мове заўважальныя ўласныя паняцці рэспандэнта і паняцці, што былі ўзятыя з афіцыйнай тэрміналогіі атрыманых дакументаў, стасункаў з дзяржаўнымі структурамі, з камунікацыі з больш «дасведчанымі» сваякамі, знаёмымі, аднавяскоўцамі.

Паняцце «шпіён», вынесенае ў назву раздзела, у аповедах рэспандэнтаў мае два вобразы і фактычна два значэння: «шпіён сапраўдны», які хадзіў праз мяжу і магчыма (!) мог перадаваць пэўныя звесткі, і «шпіён несапраўдны», які ніколі не быў за мяжой, не меў да яе ніякіх адносінаў, і з'яўляецца ахвярай беспадстаўных абвінавачванняў. Розніца паміж гэтымі катэгорыямі «шпіёнаў», а таксама адносінамі да іх з боку мясцовага насельніцтва, была вызначана ў нарацыі Сямёна Кляпца. Паводле яго меркавання, мяжу маглі пераходзіць таксама «чэсныя людзі».

- *Мы не знаем, шпіоны яны ілі не, но лавілі… Тутака было такой перыад, што аттуда з Польшы ішлі сюда на жызнь людзі, з гармошкамі перахадзілі, думалі, каб усё ж такі прымуць іх… А іх как врагоў ў Сібір… Мы не зналі, хто яны, шпіоны ілі жа чэсныя людзі перахадзілі.*

«Шпіёны сапраўдныя», як правіла, атрымлівалі значна меншае пакаранне з боку дзяржавы за сваю «дзейнасць». Так, «сапраўдны шпіён», жыхар в. Грабава з Заходняй Беларусі Філарэт Малькевіч (1896 г.), атрымаў толькі 8 гадоў лагера, з якога, аднак, не вярнуўся.

- *Яму [рускія] далі нарад такой – будзеш шпіёном. Яго ўстроілі… по дзерэвне солтусом. Рускім он перэдаёт данные, што тут дзелаецца... Он росказвае, што поехал з отчотом. Оттуда два шпіёна польскіе ехалі з ім на возе. Ну, гэтые шпіёны: «О, пся крэв, мы дадзім рускім!» Оні ж думалі, он солтус, значыць, он польскі ўжэ роботнік. Он перэходзіт*

*туда граніцу, росказвае, што ехалі са мной два шпіёна. У Ясковіч оні будут перэходзіць граніцу, караўльце. Це паймалі іх... [Потым] далі бацьку 8 лет полякі. Хазяйства всё ліквідзіравалі. Всё забралі! [У 1937] рускія за перэход граніцы 8 лет яшчэ далі. Оні не шчыталі, што ты там… связны, несвязны… Бацька не вярнуўся… Рускія забралі, і всё (Іван Малькевіч).*

Яшчэ адзін «шпіён» з в. Юшавічы Заходняй Беларусі Ігнат Адольфавіч Кавалеўскі (1903 г.), таксама першапачаткова быў асуджаны на заключэнне ў лагеры, але пазней мера пакарання была зменена на вышэйшую:

- *Бацька сатруднічаў з польскай паліцыяй і пашоў у Расію, уродзе бы як шпіён… Там яго злавілі і асудзілі на пяць лет, у ісправіцельна-трудавую калону. Два годы строгага далі, так было ў дакументах напісано. А патом… ў 39-м гаду… усе гэтые, хто быў… у заключэніі – ўсіх растрэлялі (Канстанцін Кавалеўскі).*

Вобраз «шпіёна несапраўднага» больш складаны і вымалёўваецца праз адсутнасць віны рэпрэсаванага і несправядлівасць агульнай сітуацыі.

- *Бацьку расстралялі…! І за што? Будта бы за граніцу хадзіў! Тудака шпіёны хадзілі, многія цераз граніцу смаглі перайці, а каго злавілі, дык… расстрэльвалі (Францішка Налівайка).*

У сваёй натуральнай мове рэспандэнты звычайна не выкарыстоўваюць паняцце «рэпрэсіі». Для характарыстыкі падзей ужываюцца словы *забіралі, расстрэльвалі, арыштоўвалі, прышывалі, хваталі, вывозілі, катавалі*, якія сведчаць аб раптоўнасці, нечаканасці і незваротнасці тых падзей. Часам сустракаюцца своеасаблівыя сінонімы паняцця «рэпрэсіі», такія, напрыклад, як «хапун» ці «хаптус», а таксама бытавое тлумачэнне таго, што называлі «тройкай». «Чорны воран» у аповедах часам набываў рысы жывой істоты.

- *Ужо пачалі расстрэльваць, забіраць, арыштоўваць, дак давай уцякаць (Францішка Налівайка).*
- *Прыехалі і яго схвацілі… Вот эта тройка… Нада тры чалавекі, каб падпісаліся на заяўленні.... Хапун такой, называлі «тройка» (Сямён Кляпец).*
- *У 37-м гаду, як стаў нейкі хаптус, у нас дужа хапалі людзей… Дужа многа людзей вывезлі (Ільініч (Ціхановіч) Любоў Міхайлаўна, 1928, в. Вольберавічы, Докшыцкі р-н // БАВГ. 46(1) – 875 – 3629. 00:21:06 – 00:26:13).*

- *Чорны воран ухваціў, павёз і ўсё… (Падцяроб Марыя Мікалаеўна, 1930, в. Гліннае, Докшыцкі р-н // БАВГ. 46(1) – 876 – 3632. 00:55:03 – 00:56:00).*

*«Я пісала вездзе...» Пошукі праўды ў дзяржаўных установах*

Важнай часткай аповеду рэспандэнтаў з'яўляліся апісанні іх кантактаў з дзяржаўнымі ўстановамі як у тыя часы, так і цяпер. Толькі яны маглі праліць святло на лёс блізкіх. Пра стасункі з дзяржаўнымі ўстановамі ў пошуках інфармацыі аб сваяках рэспандэнты звычайна распавядаюць выкарыстоўваючы словы афіцыйнай тэрміналогіі *рэпрэсіравалі, рэабілітавалі, места заключэнія, враг народа, донесеніе граждан* ды інш.

- *Папу рэпрэсіравалі ў 37-м гаду… Гэта ўказаніе было, рэпрэсія была сталінская. Врагоў народа гэткіх шукалі (Анастасія Дземідовіч).*
- *Бацьку ўжо рэабілітавалі... у 90-я гады. Я… на прыёме была ў КГБ… Мне так хацелася даведацца: ну за што? За што? Так сказана: «По донесенію граждан был арестован». Не сказалі: «Ці ён там, ці яго растралялі ці яго асудзілі?». «Отбыл із места заключенія...» І поныне мы не знаем (Леакадзія Н., 1930, Ракаў // БАВГ. 2(2)-83-287. 00:06:03).*

У выпадках, калі рэспандэнты мелі інфармацыю аб прычынах арышту з афіцыйных дакументаў, у нарацыях выкарыстоўвалася паняцце «польскі агент».

- *З дзярэўні забралі іх у цюрму, а там прышывалі што-небудзь. Папу прышылі – польскі агент. Вот у дакументах (Антаніна Прыстром)*

Шуканне праўды аб лёсах сваякоў пачалося адразу пасля іх арышту, спробы атрымаць інфармацыю ці абараніць рабіліся нават дзецьмі:

- *Я ўжэ пісала вездзе... Абманывалі часто… Напісалі пісьмо Калініну… Я помню, как я начынала: «Дорогой мой дедушка Міхаіл Івановіч». Напісалі пісьмо в зашчыту атца. Расказалі аб атцэ. Ну, ніхто не атвеціў, канешно... (Кавалец Надзея Іванаўна, 1927, в. Хільчыцы Жыткавіцкі р-н // БАВГ. 20(1) – 439 – 1172. 00:04:17).*

Толькі параўнальна нядаўна родныя атрымалі звесткі пра загінуўшых сваякоў. Сама інфармацыя была для іх значнай палёгкай. Але ні яна, ні абвешчаная дзяржавай кампенсацыя ў выглядзе двухмесячнага заробку на момант рэабілітацыі, не маглі апраўдаць ні маральныя, ні матэрыяльныя страты.

- *Толькі рэабілітацыя да ўсё. Напісалі. Нейкую суму энную далі. А што сем'я поцерала кормільца на столькі год! Што дочке было одзін год всего! Так і мучылісь (Еўдакія Бялко).*
- *Нашоўся [бацька толькі цяпер]… Забраў брат мой дакументы з КГБ… І только цяпер узналі, як ужо пастарэлі (Канстанцін Кавалеўскі).*
- *Вы знаяце што, у архіві ў Копылі ўсё ест... Дочка мая езьдзіла і прывезла, і мне чытала, сколька Язьвінскіх людзей дзе расстралялі, дзе людзі пагіблі, ўсё-ўсё-ўсё ізвесна. І пра брата майго: дзе пахаронены, дзе ўбіты – усё ў архіві ў Копылі ест (Францішка Налівайка).*

Пошукі праўды ў дзяржавы да пачатку 1990-х гг. для многіх рэспандэнтаў былі напоўненыя падманам і здзекам. Так, шмат каму паведамлялі, што іх родныя памерлі ў турме ад хваробы. Сям'я рэспандэнткі Анастасіі Антонаўны Дубровай атрымала даведку ў 1960 г. аб тым, што яе бацька Крывічанін Антон Іванавіч (1891 г.) арыштаваны 24 жніўня 1937 г., памёр у зняволенні ад інфаркту лёгкіх у 1941 г. Насамрэч, ён быў расстраляны ў Віцебску як «польскі шпіён» у снежні 1937 г.

Тое, што родныя, пацярпелі несправядліва, а таксама што гэтага апраўдання і матэрыяльнай кампенсацыі трэба «дабівацца», для многіх было яшчэ адной пакутай і расчараваннем ва ўладзе.

- *Маці адна. Пяцёра дзяцей. Трудно было… Вырабілі. А цяпер ужо невінаваты. Ужэ ў кнізе «Памяць» напісано, што ён рэабіліціраваны (Канстанцін Кавалеўскі).*
- *Ну, цяпер ужо, хто рэабіліціраваны, павышэна пенсія даюць… Сказалі, што нада, штоб я сама была рэабіліціравана… А эта нада дабівацца… А Бог з імі. Пражыву і без гэтага (Шпілеўская Ядвіга Іванаўна, 1933 г., в. Дубава, Дзяржынскі р-н // БАВГ. 40(1) – 678 – 249. 00:01:43; 00:04:55).*

*«НКВД было харошае ў нас…» Траўма*

Апрача пералічаных сюжэтаў ва ўспамінах тагачасных дзяцей праяўляецца цэлы спектр траўматычных момантаў. Надзвычай важным для многіх была магчымасць развітацца з роднымі.

- *Как пасадзілі, нас не пусцілі дажэ прасіцца з атцом... (Надзея Кавалец).*
- *НКВД было харошае ў нас. У людзей дык і дажэ з места не далі ўстаць. А ў нас былі харошыя. Так што, мы хадзілі, і мама хадзіла, і мы хадзілі. Я пабегла ў школу за братам... Прывяла дамоў. І яны ні слова не сказалі… (Кацярына Цялушка).*

Сем'і «ворагаў народа» адчувалі сацыяльны ціск, які для дарослых з'яўляўся яшчэ адным выпрабаваннем, а для дзяцей траўмай на ўсё жыццё.

- *Маму выгналі із доярок... А меня із піанераў ісключылі… Я не помню, шо ані там говорілі. Но с меня снялі галстук… Пры всех дзецях… Такое врэмя было ўжасное… (Надзея Кавалец).*
- *Мяне мама ў первы клас адпраўляла, казала: «Хаця ты ні з кем нічыво не спор, і саглашайся на ўсё, хто што гаворыць». Нам нельзя было... Мы былі врагі Савецкага Саюза, нам нельзя было... (Ярашэвіч Ядвіга Іосіфаўна, 1929, в. Язвіны, Капыльскі р-н // БАВГ. 40(1) – 693 – 2578. 00:01:02-26 – 00:03:05-3)*
- *Ой, Божэ мой, Божэ. Божэ мілы, каханы. І трэба такее дзетство було, такее дзевоцтво! (Надзея Дуброва)*

У рэпрэсіўнай палітыцы савецкага ўрада была відавочная мэта абмежавання і ўсталявання кантролю над усімі прыватнымі, не санкцыянаванымі дзяржавай кантактамі савецкіх грамадзян з замежжам. У выніку менавіта ў 1937–1938 гг. у свядомасці шараговых грамадзян пачало фарміравацца перакананне аб небяспецы любых «сувязяў з замежжам», кантактаў з рэпрэсаванымі і любых размоваў на гэтую тэму. Гэты страх часам адчувальны і сёння.

- *Тут многа выслалі, расстрэлялі людзей? Конешно. Это вообшчэ, это вообшчэ ўжас быў. Бояліся што-небудзь говорыць (Еўдакія Бялко).*
- *Ой, не пішыце гэта лепей, не нада. Я ж тайком расказала… Нельзя гэта пісаць і гаварыць (Марыя Падцяроб).*

Адсутнасць інфармацыі аб лёсах асуджаных, аб месцах іх смерці было напэўна прадуманай часткай палітыкі рэпрэсій. Але жаданне развітацца з роднымі, пахаваць іх ці хаця б даведацца, дзе яны пахаваныя, вельмі ярка праяўляецца ў сучасных успамінах рэспандэнтаў.

- *Не памятніка, да хаця што-нібудзь там паставіць... Як доедом, ды кажу мене тут здаецца што-то ёкне. Мо, кажу, яго тут костачкі (Надзея Дуброва).*
- *Сталінска эта рэпрэсія, і тады яго забралі за ніщто[16]... Мне прыслалі, там такая бумажка, [калі] забралі, [калі] суд быў і расстрэлялі, но захараненіе неізвесна (Ядвіга Ярашэвіч).*

Адзіным вядомым месцам пахаванняў рэпрэсаваных з'яўляюцца для рэспандэнтаў Курапаты. Яны згадваюцца як месца апошняга спачыну нават для тых, хто загінуў у іншых месцах. Курапаты паўстаюць ва ўспамінах як месца калектыўнай памяці пра загінулых, апошняя кропка ў іх жыццёвым шляху і шляху родных у шуканні праўды аб іх лёсах.

- *Павязлі яны і ў гэтых у Курапатах іх расстралялі. Хоць яны пісалі, што на северы, а ў Курапатах яны расстралялі… (Анастасія Дземідовіч).*
- *Бацьку расстралялі ў Курапатах!... Тудака шпіёны хадзілі,.. а каго злавілі, дык у Курапаты ды расстрэльвалі (Франціішка Налівайка).*
- *Схапілі… На чорном варанке, і ў Курапатах хлопнулі… (Віктар Тамук).*

Самым эмацыйным з'яўляецца аповед ураджэнкі былой памежнай вёскі Андрушы Копыльскага раёна Ганны Іпалітаўны Баярэвіч (1922 г.). Інтэрв'ю было запісана яшчэ ў канцы 1990-х гг. Яе бацька, Івашкевіч Іпаліт Людвігавіч (1888 г.), быў арыштаваны 8 красавіка 1938 г., асуджаны «тройкай» за шпіянаж і загінуў у Віцебску 28 лістапада 1938 г. Аповед рэспандэнткі, якая на той час мела 14 гадоў, уключае у сябе цэлы спектр эмацыйных і траўматычных наратываў: трагедыю перажывання страты бацькі, шуканне праўды, якое расцягнулася на паўстагоддзя, боль ад няведання і падману, цяжкасць нарэшце атрыманай праўды, жаданне пакарання вінаватых і пакору перад лёсам.

- *В 38-м году вторично арестовывают отца, в апреле… Я не помню как мы узнали, что его арестовали… Никаких вестей от него не было. Так мы не знали... Я очень много писала… Написали, что его расстрельвали в Минске. Ему было 50 лет, как его расстреляли… Совершенно безвинного. Есть у меня с военного трибунала документ… А вины не было… И мы не знали, что его расстреляли до 59 года. Не знали о его смерти, не знали, где он и что он… В 59 году маме прислали справочку, что его нет… Я много писала… Вдруг у меня письмо с Орши. И когда я открыла (плача), тады мы толька узнали. Это было вот сейчас в 1995 ци в 1996 году… Это было, конечно, таким ударом (плача) [што бацьку расстралялі невінна]… Я писала: гэтых хто растрэльвау, хоть наказали? (плача)… Мы как-то смирились. Дело прошлое (Баярэвіч Ганна Іпалітаўна, 1922, Гродна // БАВГ. 9-217-668.)*

*Карэляцыя дадзеных вусных успамінаў і пісьмовых крыніц*

Супастаўленне дадзеных вусных успамінаў з афіцыйнымі звесткамі можа адбывацца на падставе базы дадзеных (БД) рэабілітаваных «Мемарыяла» (80 тыс. запісаў) і БД «Адкрыты спіс» (60 тыс. запісаў), якія на сённяшні дзень не з'яўляюцца поўнымі і ахопліваюць толькі каля 10–13 % ад агульнай колькасці ахвяр масавых рэпрэсій. Найбольш поўная БД рэабілітаваных знаходзіцца сёння ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. Яна налічвае каля 180 тыс. запісаў, або каля 30 % ад колькасці рэпрэсаваных. Сюды не ўвайшлі адміністрацыйна высланыя, тыя, хто з тых ці іншых прычын не быў рэабілітаваны, ці быў рэабілітаваны праз індывідуальны зварот родных.

Так, напрыклад, кіраўніку г. зв. «Чайкі» ці «Цэнтра беларускага вызваленчага руху» (ЦБВР) Васілю Супруну, а таксама кіраўніку гэтай арганізацыі ад Маладзечанскай вобл. Сяргею Яноўскаму было адмоўлена ў рэабілітацыі. Апошняму на падставе таго, што «на следстве ён прызнаў сябе вінаватым і паведаміў, што маючы антысавецкія погляды, па прапанове Кабака ўступіў у антысавецкую арганізацыю, задачамі якой былі: праца па зрыву мерапрыемстваў ураду ў заходніх абласцях Беларусі і падрыхтоўка ўзброенага паўстання супраць СССР[17]. Паводле ўспамінаў Васіля Супруна, некаторыя іншыя ўдзельнікі «Чайкі» былі рэабілітаваныя, але ў БД звесткі пра іх адсутнічаюць.

Інфармацыя вусных успамінаў можа ўдакладняць і дапаўняць звесткі баз дадзеных. Як правіла ўдакладненні тычыцца родных сваякоў ці аднавяскоўцаў, якіх забіралі разам з асноўным героем аповеду, але якія адсутнічаюць у БД. Пры згадках пра колькасць забраных з адной вёскі падчас Вялікага тэрору разыходжанні ў большасці выпадкаў – у два разы. Толькі ў аповедзе пра в. Рымашы Капыльскага р-на дадзеныя вусных успамінаў і БД амаль супалі.

Падчас экспедыцый па вуснай гісторыі знаходзяцца фотаздымкі рэпрэсаваных. Часам рэспандэнты дэманструюць дакументы сямейных архіваў. Такія дадзеныя ствараюць далейшыя накірункі для архіўных і вуснагістарычных пошукаў.

*Табл. 1. Колькасць вяскоўцаў*

| *Месца* | *Вусныя ўспаміны* | *БД* | *Іншыя дакументы* |
|---|---|---|---|
| в. Студзенка, Лепельскі р-н | 13 чал. | 7 чал. | – |
| в. Поплаўкі, Лепельскі р-н | – | 4 чал. | 10 чал. |
| в. Дамжарыцы, Лепельскі р-н | У 1933 г. арыштавана усё праўленне калгаса | 2 чал. | – |
| в. Новыя Мілевічы, Жыткавіцкі р-н | *“выбралі усіх мужчын з вёскі”* | 7 чал. (1930, 1933, 1937) | – |
| в. Рымашы, Капыльскі р-н | *“большую палавіну сяла забілі, забралі і няма”* | 50 чал. Многіх як «бандытаў» Балаховіча | – |
| в. Петрашэвічы, Дзяржынскі р-н | 7 ці больш падчас Вялікага тэрору | 3 чал. | – |
| в. Папкі, Дзяржынскі р-н | *“Высылалі пачці ўсю дзярэўню”* | 5 чал. (2 – у 1937, 3 – у 1929) | – |
| в. Кавальцы, Дзяржынскі р-н | 29 чал. | 14 чал | – |
| в. Вальберавічы, Докшыцкі р-н | *“у 37-м гаду у нас дужа многа людзей вывезлі”; 15 чал.* | 9 чал.(6 – у 1937, 3 – у 1928) | – |

Супярэчанні вусных успамінаў і звестак БД тычацца, як правіла, даты арышту, прычыны і тэрмінаў асуджэння, нацыянальнасці, месца асуджэння і пакарання. Найбольш распаўсюджанай неадпаведнасцю з’яўляецца прычына асуджэння. Як правіла, ва ўспамінах гэта прычына больш блізкая да рэчаіснасці, чым артыкул па якому адбывалася асуджэнне.

*Табл. 2. Прычыны арышту*

| *Вусныя ўспаміны* | *БД* |
|---|---|
| У 33-м годзе пасадзілі ўсё праўленне калхоза. | 2 чал. з в. Дамжарыцы арыштаваныя ў 1933 г. як аднасобнікі. |
| Бацьку забралі ў 1937 г., бо за граніцу глядзіць. | Дрожа Іван Рыгоравіч, 1900 г. нар., асуджаны ў снежні 1927 г. як «бандыт» Балаховіча, а таксама за антысавецкую агітацыю |
| Бацьку забралі у 1938. Адзін аднаго здавалі. Была такая Янкоўская. Заведуюшчая фермы. Цялё забалела там. Зрабілі вінаватым. Забралі. | Барысевіч Казімір Казіміравіч, 1901 г. нар., асуджаны як агент польскай выведкі |
| Бацькаў брат старэйшы быў Іван. На скрыпке іграў харашо. Іграў-іграў, а тады запеў: «Дзякуй Сталіну-грузіну, што абуў нас у рэзіну». | Тамук Іван Карлавіч, 1898 г. нар., асуджаны як агент польскай выведкі. |

Яшчэ адзін від несупадзенняў звязаны з паўторнымі арыштамі. Звычайна ў БД пазначаны толькі адзін з іх. Несупадзенне датаў часта тлумачыцца дамінаваннем калектыўнай памяці пра рэпрэсіі падчас Вялікага тэрору над іншымі хвалямі рэпрэсій.

*Табл. 3. Дата арышту, тэрмін асуджэння і дата рэабілітацыі*

| *Вусныя ўспаміны* | *БД* |
|---|---|
| Бацька быў рэпрэсаваны ў 1937 г., маці з дзецьмі высланыя ў Волагду. | Юркевіч Емяльян Міхалавіч, 1898 г. нар., асуджаны 9 красавіка 1933 г. за антысавецкую агітацыю на 3 гады высылкі (толькі першы арышт) |
| Забралі ў 37-м гаду яго… А я падавала ў 58-м… Толькі напісалі, што рэабіліціраваны ў 58-м гаду. Можа, што радня наша ў Западнай была? | Сарнацкі Іван Вікенцевіч, 1884 г. нар., асуджаны 23 красавіка 1933 г. як удзельнік антысавецкай групоўкі на 3 гады ўмоўна. 31 мая 1989 г. справа пераглядалася Пракуратурай БССР (толькі першы арышт) |
| У 37-м хваталі. Нехта напісаў заяўленіе. Чорны воран ухваціў, павёз і ўсё. За што?! Што багаты быў. | Ковель Міхал Пятровіч, 1897 г. нар., аднаасобная гаспадарка. Асуджаны 25 чэрвеня 1935 г. на 5 гадоў ППЛ |

Таксама відавочнае несупадзенне самаідэнтыфікацыі і пазначэння нацыянальнасці ў афіцыйных дакументах, асабліва, калі арышт праводзіўся падчас нацыянальных аперацый.

*Табл. 4. Нацыянальнасць*

| *Вусныя ўспаміны* | *БД* |
|---|---|
| Па нацыянальнасці я беларуска, а вераіспаведаніе – католікі. У маёй мамы і ў маего атца за граніцай родственнікі... От такіх вот прэследавалі, што за граніцай радня. | Сарнацкі Іван Вікенцевіч, 1884 г. нар., в. Серкі Дзяржынскага р-на Менскай акр., паляк |

*Табл. 5. Месца асуджэння і пакарання*

| *Вусныя ўспаміны* | *БД* |
|---|---|
| Узялі ананімку напісалі, і яго зразу ноччу хватанулі. На чорном варанке. І ў Курапатах і хлопнулі. | Тамук Іван Карлавіч, 1898 г. нар. Расстраляны ў Аршанскай турме 17 снежня 1937 г. |
| Яны ў гэтых у Курапатах іх расстралялі. Хоць яны пісалі, што на северы, а ў Курапатах яны расстралялі. | Крывічанін Антон Іванавіч (1891). Расстраляны 29 снежня 1937 г. у Віцебску |

Часта ўспаміны рэпрэзентуюць лёсы асобаў, пра якіх няма звестак у БД. У выпадку, калі ў сваякоў захаваліся дакументы аб рэабілітацыі ці іншыя дакументы з сямейнага архіва, а таксама ёсць

успаміны саміх рэпрэсаваных, з'яўляецца шанс сабраць усе неабходныя дадзеныя: прозвішча, імя, імя па бацьку, дату і месца нараджэння, дату арышту і асуджэння, дату рэабілітацыі ды інш. Поўныя дадзеныя атрымалася знайсці толькі на двух асобаў: Ванагеля Іосіфа Сцяпанавіча і Мішоту Афанасія Аляксеевіча. Да іх можна далучыць асобы, якія самі былі рэпрэсаваныя і могуць дэталёва распавесці пра свой лёс. У большасці выпадкаў пры згадванні роднымі і аднавяскоўцамі, вядома толькі прозвішча, імя, месца арышту і прыкладная дата арышту.

Супярэчанні паміж успамінамі жыхароў адной вёскі амаль не сустракаюцца, што сведчыць аб сфарміраванасці калектыўнай памяці або ўплыве афіцыйных звестак, атрыманых кімсьці з вяскоўцаў ці іх роднымі. Напр., у в. Кавальцы Дзяржынскага р-на некалькі рэспандэнтаў прыводзілі лічбу 29 рэпрэсаваных. Часта аповеды рэспандэнтаў будуюцца на афіцыйных звестках, як, напр., у Лях (Балотнік) Кацярыны Іванаўны (1928 г.) з в. Студзёнка Лепельскага р-на ці ў Прыстром (Марэцкай) Антаніны Адамаўны (1928 г.) з в. Кавальцы.

У двух выпадках рэспандэнткі на пытанне аб арыштах не згадалі сваіх бацькоў, інфармацыя аб якіх была знойдзена ў БД. Гэта Вараксa Рэгіна Іванаўна (1927 г. нар., в. Петрашэвічы, Дзяржынскі р-н) і Быкава (Мазго) Таццяна Яфімаўна (1917 г. нар., г. п. Камень, Лепельскі р-н). Прычыны гэтага могуць быць індывідуальнымі, ці паходзіць ад дзіцячай траўмы ад страты бацькі або ад забароны згадваць пра гэта.

Калі казаць пра гендэрныя аспекты, то агульнавядомым фактам з'яўляецца тое, што жанчыны падвяргаліся рэпрэсіям значна радзей, чым мужчыны, асабліва, што тычыцца перыяду Вялікага тэрору. У даваеннай хвалі раскулачванняў часта разам з бацькам забіралі маці, а дзеці доўгі час заставаліся аднымі. Малодшых даглядалі старэйшыя або былі пад апекай родных ці аднавяскоўцаў. Як правіла, маці праз некаторы час вярталіся. Але тая адсутнасць назаўсёды заставалася ў памяці дзяцей. У БД утрымліваюцца звесткі пра арыштаванага бацьку, але не згадваюцца арыштаваныя маці, бабулі ці іншыя жанчыны. Яны праходзілі па адміністрацыйных артыкулах, або справы супраць іх былі спыненыя.

У пасляваенных хвалях высылак жанчыны згадваюцца значна часцей. Так, у 1945 г. за «здраду Радзіме» была асуджаная Плянта Секлета Макараўна (1889 г.) з в. Сінкевіцы Лунінецкага р-на, на 15 гадоў ППЛ. Муж у 1930-х гг. быў на заробках у Амерыцы, але не дажыў да канца вайны. Яе дачка Астапец Анастасія Сцяпанаўна (1929 г.) згадвала:

- *А мама была наша ў цюрме. Нашые людзі, суседзі ложно посадзілі… Маму я рэабіліціравала. Мама палучала пенсію… А зачэм оні посадзілі? Наша мама не знала, шо за поліціка. Я заехала ў Пінск, завезла перэдачу. 10 только отсідзела лет.*

Калі казаць пра інтэнсіўнасць прыгадвання тэмы рэпрэсій у Заходняй і Усходняй Беларусі, то ў апошнім выпадку яна сустракаецца на 15–20 % часцей, нягледзячы на тое, што тыя падзеі адбываліся на 10 гадоў раней, што сведчыць аб іх большай траўматычнасці. У БД рэабілітаваных з Заходняй Беларусі значна менш, чым з Усходняй.

***

Найбольш значныя тэматычныя нарацыі, якія ілюструюць факты і прычыны рэпрэсій, а таксама прапануюць іх інтэрпрэтацыю, тычацца нацыянальнага самавызначэння і сацыяльнага статусу рэпрэсаваных, іх сваяцкіх сувязяў, апісання непасрэднага арышту сваякоў, аднавяскоўцаў ды інш., адносінаў грамадства да арыштаў, а таксама далейшага лёсу сем'яў рэпрэсаваных (з аповедам пра высылкі, голад, грамадскае асуджэнне, статус дзяцей «ворагаў народу», пошук звестак пра рэпрэсаваных сваякоў). Аповеды пра арышты бацькоў, сваякоў, аднавяскоўцаў, як правіла, нязмушаныя, што кажа аб значным уздзеянні гэтых падзей на жыццё рэспандэнтаў.

Пошук звестак пра рэпрэсаваных сваякоў з'яўляецца для рэспандэнтаў адным з самых траўматычных момантаў. Вельмі важнай чалавечай патрэбай было і застаецца высвятленне праўды аб лёсе блізкага чалавека, а яе канчатковай кропкай – высвятленне месца апошняга спачыну, магчымасць прыйсці на магілу, паразмаўляць і развітацца.

Шуканне праўды для многіх сем'яў было працэсам цяжкім і драматычным. Шмат каму паведамлялі, што іх родныя памерлі ў турме

ад пэўнай хваробы. Як ужо адзначалася, такую інфармацыю, напр., атрымала сям'я Анастасіі Антонаўны Дубровай. Таксама варта ўзгадаць аповед Ганны Баярэвіч.

Няведанне праўды, частковыя фрагментарныя звесткі пра лёс арыштаваных стваралі міфалагізаваныя сюжэты пра месцы зняволення, іх лёс і месцы пахавання. Часта рэспандэнты распавядалі на падставе ўжо вядомых афіцыйных звестак. У гэтым выпадку аповед амаль цалкам паўтараў іх. Як правіла, сваякі не ведалі па якім артыкуле былі асуджаныя іх родныя. Разыходжанні таксама датычылі нацыянальнасці асуджаных, прычын, датаў і месцаў смерці. Паняцці і моўныя вобразы, якія выкарыстоўваюцца ў наратывах, дазваляюць казаць пра ўздзеянне афіцыйных звестак на сямейныя гісторыі рэпрэсій.

Вусныя ўспаміны могуць выступаць як крыніцы, у т. л. факталагічных звестак. Тэма рэпрэсій з'яўляецца адной з тых, што першапачаткова пачалі даследавацца з дапамогай метада вуснай гісторыі, якая надае голас раней «маўклівым сведкам мінулага». Сёння найбольш эфектыўным у межах дадзенай тэмы можа стаць спалучэнне метада вуснай гісторыі з афіцыйнымі звесткамі.

Метад вуснай гісторыі патрабуе абавязковых закончаных нарацый падчас інтэрв'ю па пэўнай тэме для магчымасці аналізу калектыўнай і індывідуальнай памяці. Як правіла, гэтыя нарацыі з'яўляюцца малафакталагічнымі і ствараюць хучэй вобразы падзей. Неабходнасць устанаўлення фактаў праз наратыў, прыводзіць да страты яго цэласнасці. У гэтым праяўляецца супярэчанне факталагічнага і вуснагістарычнага прынцыпаў. З іншага боку, канцэпт «калектыўнай памяці» дазваляе экстрапаляваць вопыт аднаго прадстаўніка дадзенай сацыяльнай катэгорыі на ўсю групу.

### *The Collective Memory about the Soviet Repressions by the Oral Memories of the Belarusians*

The article characterizes a complex of the oral memories about the history of the mass Soviet repressions and the main groups of respon-

dents in the Belarusian Oral History Archive (BOHA, nashapamiac.org). The complex is about 350 memories – it's a quarter of the entire BOHA. For example, an analysis of the memories of the children of the «Polish spies» – people, who were repressed during the Polish operation of the NKVD in the years 1937–1938 was carried out.

The most important themes in the oral memories deals with the facts and the reasons of the repressions, as well as with their interpretation. They related to national self-determination and social status of repressed persons, their family ties, the arresting of the relatives, villagers etc. The analysis of the several aspects was carried out. They are: it's mention in the forced or the unforced narration, children's memory about the repressions, the interpretation of the events, respondent's self-identification, linguistic image of the repressions, as well as trauma factors, that impacted on the lives of the respondents.

The final part of the article is devoted to the comparison of oral memories with information from the databases of the repressed. The data memories can clarify and supplement the information from the databases of the repressed, to be contrary to them or create entirely new factual cases.

### *Заўвагі*

[1] Smaliančuk A., Ivanova V., Kasataja T. Oral History in Belarus. Stand und Entwicklungsperspektiven // BIOS. Zeitschrift für Biographieforschung, Oral History und Lebensverlaufsanalysen. Inhalt Heft 1 und 2 / 2014. Pp. 258–293.

[2] Репрессии против поляков и польских граждан / Исторические сборники «Мемориал». Сост. А. Э. Гурьянов. Вып. 1. Москва, 1997. С. 23–25.

[3] Wialiki A. «Operacja polska» w BSRR. Lata 1937–1938. Początek, Przebieg, rezultaty // Polacy na Białorusi. Od konca XIX do początku XXI wieku. Wybrane problemy stosunków polsko-białoruskich. Pod redakcją T. Gawina, Warszawa 2017. S. 195–220.; Петров Н. В., Рогинский А. Б. «Польская операция» НКВД 1937–1938 гг. [Электронный ресурс]. НИПЦ «Мемориал». – 04.07.2017. – Режим доступа: http://www.memo.ru/history/POLAcy/Index.htm

[4] Інфармацыя Б. Бермана аб выкрыцці антысавецкай арганізацыі ў памежных раёнах, сем'ях рэпрэсаваных і інш. 26 лістапада 1937 // НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 12055. Арк. 98.

[5] Тамсама. Арк. 97.

[6] Тамсама. Арк. 80.

[7] Калектыўная (сацыяльная) памяць (М. Хальбвакс) – памяць пра мінулае асобнай групы людзей, якая падкрэслівае асаблівасці гэтай групы, адрознівае яе ад іншых. Калектыўная памяць уключае ў сябе падзеі мінулага, не звязаныя з непасрэдным досведам канкрэтнага чалавека, але вядомыя яму дзякуючы пераказам іншых. Яна фарміруе індывідуальную памяць, пашырае яе і прадстаўляе дамінуючую версію мінулага.

[8] Хальбвакс М. Коллективная и историческая память // Неприкосновенный запас. 2005. № 2–3. [Электронный ресурс]. – 03.08.2018. – Рэжым доступу: http://magazines.russ.ru/nz/2005/2/ha2.html

[9] 20 ліпеня 1938 г. як агенты польскай выведкі арыштаваныя жыхары хутара Бароўскія Юркевіч Канстанцін Язэпавіч (1897 г.), Сядура Язэп Васільевіч (1891 г.), Сядура Іван Васільевіч (1889 г.), 20 жніўня 1938 г. – Сядура Канстанцін Мікалаевіч (1900 г.). Усе прыгавораны да расстрэлу.

[10] Тамук Іван Карлавіч (1898 г.) быў асуджаны 19 лістапада 1937 г. як агент польскай выведкі, расстраляны 17 снежня 1937 г. у Оршы.

[11] Памяць. Дзяржынскі раён: гісторыка-дакументальная хроніка. Мінск, 2004. С. 170–171.

[12] НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 12058. Арк. 268-269.

[13] Петров Н. В., Рогинский А. Б. Польская операция…

[14] Станілевіч Рыгор Дзям'янавіч (1901 г.), беларус, асуджаны 14 снежня 1937 г. за шпіянаж. Расстраляны ў Магілёўскай турме 10 студзеня 1938 г.

[15] БАВГ. 9–172–505, 506, 507, 508.

[16] Ванагель Іосіф Сцяпанавіч (1897 г.) арыштаваны 18 чэрвеня 1938 г. Прапойскім РА НКУС за шпіянаж на карысць Польшчы. Быў расстраляны. Месца пахавання невядома.

[17] Копия определения судебной коллегии по уголовным делам Верховного суда Республики Беларусь от 29 мая 1992 г. о признании Яновского Сергея Петровича неподлежащим реабилитации. // БАВГ. 27 – 69 – 6283, 6284.

# Obława augustowska (1945) – największa powojenna zbrodnia sowiecka na Polakach

*Jan Jerzy Milewski,*
*PhD (Białystok)*

12 lipca 1945 r. w północno-wschodniej Polsce (ale także po białoruskiej i litewskiej stronie granicy) rozpoczęła się trwająca kilkanaście dni wielka operacja czekistowsko-wojskowa mająca na celu rozbicie struktur antysowieckiego podziemia niepodległościowego działających w Puszczy Augustowskiej i na terenach przyległych. W trakcie operacji zatrzymano ponad 7 tysięcy osób, z których wyselekcjonowano około 600–750, uznanych za członków podziemia bądź jego współpracowników. Zostali oni aresztowani i na wiele lat wszelki słuch o nich zaginął.

Przez dziesiątki lat nie można było znaleźć informacji o obławie ani w prasie, ani w publikacjach naukowych, także w wydawnictwach emigracyjnych, choć była to największa zbrodnia popełniona na Polakach po II wojnie światowej. Historyk Henryk Majecki, autor wielu prac z lat sześćdziesiątych i siedemdziesiątych XX w. dotyczących początków Polski Ludowej oraz działalności w Białostockiem podziemia niepodległościowego (zwanego w nich «reakcyjnym»), nie wspominał ani słowem o obławie augustowskiej. Dodać należy, że przez ponad 30 lat Majecki był dyrektorem Archiwum Państwowego w Białymstoku i dobrze znał jego zasób, a w zbiorach tego archiwum jest sporo dokumentów dotyczących obławy (np. wykazy obywateli zatrzymanych przez Sowietów sporządzone przez władze samorządowe powiatu augustowskiego i suwalskiego). Majecki podaje jedynie, że latem 1945 r. była przeprowadzana przez oddziały KBW i WP akcja zbrojna przeciwko grupom podziemia, w trakcie której 12 lipca 1945 r. koło jeziora Brożane rozbite zostały połączone oddziały AKO obwodu suwalskiego: «Groma» i «Brzozy»[1]. Faktycznie w operacji nad jeziorem Brożane uczestniczyły tylko oddziały sowieckie.

W zasadzie jednym z pierwszych historyków, który wprowadził in-

formację o obławie do polskiej historiografii był Henryk Piskunowicz. W referacie wygłoszonym podczas konferencji naukowej w Instytucie Studiów Politycznych PAN w kwietniu 1992 r., charakteryzując walkę z polskim podziemiem w Białostockiem w 1945 r., stwierdził: «Próby zlikwidowania działających organizacji na niewiele się zdały. Uciekano się do coraz bardziej drastycznych form represji, z pacyfikowaniem wsi włącznie. Kilkuset ludzi zginęło, zatrzymanych w czasie blokady Puszczy Augustowskiej latem 1945 r.»[2] Kilka lat później szerzej potraktowali ten temat autorzy monografii białostockiego okręgu AK–AKO w latach 1944–1945 Kazimierz Krajewski i Tomasz Łabuszewski[3]. Wątki dotyczące obławy znalazły się w monografiach dwóch największych miast regionu, w którym została przeprowadzona: Suwałk[4] i Augustowa[5]. Zaczęły także pojawiać się osobne teksty w czasopismach regionalnych, z których wyróżnić należy artykuł Jarosława Szlaszyńskiego «Dzieje Lipcowej Obławy 1945 roku»[6].

W ostatnim piętnastoleciu nastąpiło zdecydowane przyspieszenie badań dotyczących obławy augustowskiej, co było głównie konsekwencją powstania Instytutu Pamięci Narodowej i umożliwieniem dostępu do akt aparatu bezpieczeństwa. Na ich podstawie dwa interesujące artykuły w 2003 r. opublikowali Mariusz Filipowicz[7] i Piotr Makuła[8]. Autorzy tych artykułów ostatecznie rozwieli nadzieje, że w archiwach wytworzonych przez urzędy bezpieczeństwa publicznego można znaleźć istotne informacje na temat genezy obławy, jej organizacji, a zwłaszcza losu osób, które zaginęły. Niejako pierwszym podsumowaniem stanu badań nad tym tematem była publikacja zawierająca materiały z sesji naukowej zorganizowanej przez IPN w Augustowie 16 lipca 2005 r.[9].

Ta największa zbrodnia w Polsce po wojnie z trudem przebijała się do świadomości historyków poza północno-wschodnią Polską, pojawiły się jednak pozytywne oznaki jak choćby hasło w «Encyklopedii białych plam»[10], czy wzmianka w książce o zbrodniach sowieckich na Polakach w latach 1917–1956[11]. Zdecydowany przełom nastąpił dzięki współpracy IPN ze Stowarzyszeniem «Memoriał». Jego wiceprzewodniczący Nikita Pietrow w dwóch książkach opublikował artykuły na temat obławy, w których zamieścił obszerne fragmenty szyfrogramu szefa SMIERSZa gen. Wiktora Abakumowa jednoznacznie potwierdzające fakt popełnie-

nia zbrodni[12]. Dzięki tym publikacjom i szumowi medialnemu, który wokół nich powstał, zbrodnia z lipca 1945 r. zaczęła być wymieniana od 2012 r. tuż obok katyńskiej.

Mieszkańcy terenów, które zostały objęte obławą mieli nieco zróżnicowane doświadczenia z lat wojny. Cały powiat suwalski i północna część augustowskiego od początku znalazły się pod okupacją niemiecką, natomiast Augustów i południowa część powiatu augustowskiego oraz inne powiaty leżące dalej na południe w latach 1939–1941 były pod okupacją sowiecką. W obydwu częściach powstała bardzo rozwinięta sieć konspiracji niepodległościowej i stosunkowo wcześnie pojawiły się oddziały partyzanckie[13]. W końcowym okresie okupacji w rejonie Puszczy Augustowskiej, a zwłaszcza w pow. suwalskim, akcja «Burza» (lipiec-sierpień 1944 r.) miała najintensywniejszy przebieg w całym okręgu białostockim. W dodatku w jej trakcie dochodziło wielokrotnie do akcji przeciwko Niemcom przeprowadzanych wspólnie ze specjalnym oddziałem dywersyjno-rozpoznawczym partyzantki sowieckiej mjr. Włodzimierza Cwietyńskiego «Orłowa»/«Kalinowskiego». Przebywał on w Puszczy Augustowskiej od wiosny 1944 r., a współpraca z nim oddziałów partyzanckich AK od samego początku układała się dobrze. Było to zresztą zgodne z taktyką partyzantki sowieckiej, która na obszarach gdzie dominowała AK starała się mieć ze stroną polską dobre stosunki.

Sytuacja zmieniła się po wyparciu Niemców. Sowieckie władze wojskowe rozbrajały oddziały AK, żołnierzy kierowały do ośrodków formowania jednostek zapasowych 2 Armii WP; aresztowano członków konspiracji, kadrę dowódczą, a tych, którzy nie chcieli iść do wojska Berlinga – wywożono do ZSRS. Tylko w pow. suwalskim do marca 1945 r. aresztowano około 350 akowców. Wśród nich był m. in. por. Michał Czatyrko «Kawka», który pełnił funkcję dowódcy patrolu łącznikowego przebywającego w oddziale «Orłowa». Został aresztowany 6 listopada 1944 r., choć posiadał specjalne pismo od «Orłowa», które miało być swego rodzaju glejtem chroniącym go przed represjami sowieckimi. Czatyrko spędził kilka lat w łagrze na Syberii. Wywieziono też sanitariuszki opiekujące się także rannymi partyzantami z oddziału «Orłowa».

Z powodu dużego nasycenia terenu wojskiem sowieckim polskie podziemie początkowo nie mogło podjąć działań obronnych. Układ sił

zmienił się po przesunięciu się w styczniu 1945 r. frontu na zachód. Już wczesną wiosną z powodu wzrostu liczby osób ukrywających się zaczęto odtwarzać oddziały partyzanckie. Ich powstanie dawało także możliwość skutecznego uderzenia w komunistyczny aparat represji i osoby z nim współpracujące.

Od początku marca do 1 lipca 1945 r. – według sprawozdania Wojewódzkiej Rady Narodowej w Białymstoku – podziemie niepodległościowe w województwie przeprowadziło 186 akcji, w tym: 74 – na posterunki MO, 49 – na urzędy gminne (w pow. suwalskim z 14 urzędów funkcjonowały tylko 2), na kasy i banki – 10, na instytucje państwowe – 22, na urzędników państwowych – 32. W tym czasie w województwie zginęło 45 żołnierzy i oficerów Armii Czerwonej, a uprowadzono – 42, ponadto rozbrojono 7 czerwonoarmistów[14].

Żołnierze Armii Czerwonej i funkcjonariusze NKWD nie tylko uczestniczyli w akcjach przeciwko polskiemu podziemiu, dokonywali aresztowań, ale i dopuszczali się różnych przestępstw kryminalnych: rabunków, zabójstw, gwałtów. Mieszkańcy, co prawda, składali skargi do lokalnych władz, lecz na ogół interwencje nie przynosiły żadnych rezultatów. Wicewojewoda białostocki Wacław Białkowski w wystosowanym w tym czasie piśmie do ministra spraw zagranicznych (poprzez Ministerstwo Administracji Publicznej) zwracał uwagę na te fakty: «Powołując się na poprzednie swoje meldunki o grabieżach, niszczeniu mienia, gwałtach i zabójstwach, dokonywanych przez żołnierzy i całe oddziały Czerwonej Armii na obywatelach polskich, komunikuję, że niedopuszczalne te wybryki ze strony Czerwonej Armii przybrały charakter masowy, przechodzący niejednokrotnie – i coraz częściej – w pogromy i niszczenie równe akcji frontowej w stosunku do nieprzyjaciela»[15].

Wicewojewoda Białkowski podkreślał dalej, że taki stan podkopuje zaufanie do rządu i budzi nienawiść do Armii Czerwonej. Żołnierze sowieccy z tego względu, ale także jako symbole zniewolenia Polski, stawali się – obok przedstawicieli lokalnych władz komunistycznych – obiektem ataków polskiego podziemia. Szczególnie trudna sytuacja była w północnej części woj. białostockiego. W tej sytuacji władze powiatowe i wojewódzkie kierowały do strony sowieckiej prośby o pomoc w zaprowadzeniu porządku, które padały na podatny grunt, bo także Sowietom

zależało szczególnie na bezpieczeństwie szlaków komunikacyjnych biegnących z zachodu na wschód, którymi transportowano różne zdobycze z obszaru Niemiec (głównie Prus Wschodnich), w tym pędzono stada bydła. Kolumny ze zdobyczami stawały się niekiedy obiektem ataków polskiej partyzantki, chociaż reakcje sowieckie były wtedy na ogół ostre.

O atakach na konwoje stad bydła ludowy komisarz spraw wewnętrznych ZSRS Ławrentij Beria meldował 29 maja 1945 r. Józefowi Stalinowi: «W związku z napaściami band akowskich na Grajewo i w rejonie Augustowa na kołchoźników, konwojujących stada bydła na Białoruś, a także w związku z innymi przejawami bandytyzmu, doradca przy Ministerstwie Bezpieczeństwa Publicznego Polski tow. Sieliwanowski, wspólnie z organami bezpieczeństwa publicznego Polski podjął kilka działań w zakresie likwidacji band akowskich w województwie białostockim. W celu wzmożenia walki z bandami akowskimi do dyspozycji tow. Sieliwanowskiego skierowano dodatkowo dwa pułki wojsk NKWD, do posiadanych siedmiu pułków wojsk NKWD i samodzielnego pułku strzelców zmotoryzowanych»[16]. Ponadto Beria informował o działaniach podjętych w celu ochrony przeganianego bydła: zorganizowano specjalne trasy i wzmocniono ich ochronę, a «w rejonach niebezpiecznych ze względu na bandytyzm, na każde 10–15 kilometrów ustawiono placówki w sile do plutonu strzelców. Pomiędzy posterunkami i placówkami zorganizowano całodobowe patrole»[17].

Ponadto Sieliwanowski miał podjąć inne niezbędne kroki w celu wzmożenia walki przez organy podległe polskiemu MBP z bandami na trasie przepędzania bydła z wykorzystaniem, o ile to konieczne, wojsk NKWD. Wydaje się, że zakłócanie komunikacji pomiędzy pomiędzy terenem byłych Prus Wschodnich a terenami wcielonymi do ZSRS (Białoruś i dalej na wschód), w tym częste ataki na konwoje ze zdobyczami wojennymi, było główną przesłanką do podjęcia decyzji o obławie. W dodatku niestabilna sytuacja na tym obszarze sprzyjała zarówno partyzantce antysowieckiej zarówno litewskiej (w LSRS) jak i polskiej (w BSRS).

Warto tu przytoczyć opis analogicznej sytuacji po litewskiej stronie granicy i działania podjęte wówczas przez władze sowieckie. Naczelnik Zarządu Oddziału NKWD-NKGB w przygranicznych Łoździejach w raporcie z 17 maja 1945 r. informował o trudnej sytuacji, zwłaszcza w gminie

